пра які дзеля гэтага падсавetчыкам нязручна гаварыць. А творы тыя мелі цікавасьць якраз з гэтага нацыянальнага ўзгляду, і з узгляду на разьвіцьцё паэтычнага таленту Коласа.

Творчасьць тая Коласа зыходзіла ў глухі куток, і талент яго занепадаў ды ў тых абставінах, праўдападабней, занік-бы. Але жыцьцёвая энэргія не дазволіла застанавіцца ў глухім кутку. Шукаючы выйсьця, Колас увайшоў у сваё нацыянальна-сьведамае беларускае асяродзьдзе, якое гуртавалася каля газэты "Наша ніва", прадаўжальніцы зачыненай газэты "Наша доля". Там ён знайшоў свой шлях і адпаведныя абставіны для разьвіцьця свайго таленту. І з таго часу пачалася пераацэнка набытых да таго часу "вартасьцяў".

"Наша ніва" была агульна-народнай газэтай. Дарма бальшавікі называюць яе "буржуазна-нацыяналістычнай" — чаго не навярцеў агітпропскі калаўротак за звыш паўсотні гадоў? Для бальшавікоў, так як і для ранейшых так званых чарнасоценцаў, – нацыяналістычнае ўсё тое, што не расейскае; свая-ж захланна-заборчая прагнасьць захапіць іншых — гэта не нацыяналізм і не імпэрыялізм... Цяпер гэта называюць "помач старэйшага брата". Бальшавіцкая ацэна "Нашае нівы" — звычайны нізкі фальш. "Наша ніва" была дэмакратычнай газэтай у лепшым разуменьні гэтае дэмакратычнасьці. І была яна як-бы санаторыем, дзе людзі вылечваліся ад таго ганебнага "прыніжэньня й прыбядненьня", якія часам і нашымі крытыкамі ставяцца як-бы ў віну "Нашай ніве". І, бадай, ці трапны назоў нейкага пэрыяду ў нашай літаратуры, названага Нашаніўскім. І ці не адпаведны быў-бы назоў "Адраджэнскі"? Ці-ж толькі прыніжэнствам і прыбядненьнем адзначаецца "нашаніўская пара"? ..

Першы верш Коласа пабеларуску быў надрукаваны ў першым нумары газэты "Наша доля", датаваным 1-га верасьня 1906 году. Ён нібы выплывае з тых твораў, пісаных парасейску, уласьціва — зь вершу "Белоруссія". У ім зь першых радкоў вызначаецца той, накінуты звонку, пагляд на свой родны край. І назоў яго "Наш родны край":

Край наш бедны, край наш родны!
Гразь, балота ды пясок.
Чуць дзе троху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.
А туманы, як пялёнка,
Засьцілаюць лес і гай...
Ой ты, бедная старонка!
Ой забыты Богам край!..

У пазьнейшых выданьнях слова "гразь" падменена словам "лес". Гэтым учынена поўная бяссэнсіца вершу, бо лес — вялікае багацьце нашага краю, а ня беднасьць. Падобных вершаў з тэматыкай пра родны край было надрукавана шмат і ў "Нашай ніве", асабліва за 1907 год. Гэтак пачынаецца верш "Родныя песьні":



Вісьне скарга уздоўж Нёмна,
Беларусі сына.
Як ты бедна, як ты цёмна,
Родная краіна!
Зьбіты ў кучу твае вёскі,
Стрэхі ўдол уходзяць.
Смутнай песьні адгалоскі
Лес, курганы родзяць...

А вось яшчэ адзін верш:

Ой ты, наша ніва,
Ці-ж ты не арана,
Ці-ж мужычым потам
Ты не палівана?

Ці то кепска сонца
Сьвеціць над табою,
Што зрасла ты густа
Дзікаю травою? і г. д.

Аднак, у гэтых творах, як тымболей у творах пісаных парасейску, яшчэ ня ставілася пытаньне — чаму-ж гэта родны край такі "бедны, цёмны й нудны"? І дарма шукаць там рэвалюцыйных матываў і заклікаў. Супрацоўнічаючы ў "Нашай ніве", Колас паволі "вычыхаўся" ад тэй асыміляцыйнай сэмінарскай затруты і прыходзіў "да сябе". Іншымі матывамі сталі гучэць ягоныя вершы пра родны край крыху пазьней:

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасьць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я
К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы-нядолі,
Поўныя сумнай красы?
(Зь вершу «Родныя вобразы», 1908 г.)

Шэпчуць згодна каласінкі,
Гойдаюцца нівы.
Ходзіць гоман між збажынкі,
Мілы і шчасьлівы.

Над жытамі песьні льюцца,
Толькі сонца ўстане.
Люба глянуць, азірнуцца,
Стаўшы на кургане.
( Зь вершу «На полі». Пісаны ў 1910 г. у вастрозе).

Спатрэбілася досыць шмат часу, каб Колас канчальна строс зь сябе той сэмінарскі налог і каб ён шчыра, бяз сораму за свой край і народ, але з гонарам мог напісаць:

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы, бары гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць?..

(З паэмы «Сымон музыка»

Па сканчэньні сэмінарыі, з 1902 па 1906 год, Колас як настаўнік, працаваў у пачатковых школах на Палесьсі. Жыцьцё й праца ягоная досыць дакладна апісана ў трылёгіі "У Палескай глушы, У Глыбі Палесься, На Ростанях". Галоўная дзейная асоба ў трылёгіі Лабановіч — сам аўтар Колас. Спосаб пісаньня трылёгіі падобны, як і паэмы "Новая зямля". У крытыцы "Новае зямлі" названы ён натураграфічным. Падзеі, апісаныя ў трылёгіі, мелі месца ўзапраўднасьці. Прынамся, што да дзьвёх частак — "У глыбі Палесься й На Ростанях" — гэта ведама дакладна, бо на гэта ёсьць жывыя сьветкі.

За час працы на Палесьсі Колас пабываў у трох школах. Зь першае (паводле аповесьці "У глыбі Палесься" — Цэльшынскае, а ў запраўднасьці — Люсінскае) ён сам папрасіў пераводу, як выглядае з аповесьці, у выніку першае ўспышкі каханьня — раптоўнага, імклівага й моцна захапляючага, але й раптоўна абарванага. Маладзенькая дзяўчынка Ядвіся выехала да сваякоў у Гродзеншчыну. Відочна ні ў яе, а таксама ў Коласа, не паўставала да таго часу думка пра сямейнае жыцьцё. Думаецца аднак, што гэтая раптоўная ўспышка пакінула сьлед у сэрцы Коласа на доўгі час, калі не на ўсё жыцьцё. Гэта вычуваецца зь некаторых ягоных твораў, як і з самой аповесьці.

Другая школа, куды перавялі Коласа была ў вёсцы Пінкавічы (паводля аповесьці — Выганаўская), недалёка ад Пінску. Фактычна з гэтага часу Колас пачаў больш актыўна цікавіцца сацыяльнымі пытаньнямі. Меў там лучнасьць з гуртком сацыял-дэмакратычнай партыі ў Пінску, часта трапляла да рук рэвалюцыйна-прапагандовая літаратура. Як зазначае сам Колас у сваёй аўтабіяграфіі — "У 1905 годзе я быў ужо заўзятым ворагам самадзяржаўя". Варожасьць гэтая выявілася актыўна ў падбухторваньні сялян да самавольнага захопу некаторых уладаньняў земляўласьніка Скірмунта, спорных зь сялянамі вёскі Пінкавічы. За ўдзел у гэтым сялянскім "буньце" быў пераведзены ў школу ў вёску Верхмень. Удзел-жа быў фактычна толькі ў тым, што пісаў пэтыцыю да Скірмунта, дзеля гэтага не панёс іншае кары...

У 1904-5 гадох значна ўзьняўся рэвалюцыйны рух сацыялістычных партыяў. Спадзяваліся на рэвалюцыю ў Расеі. І тады Колас захапіўся гэтым рэвалюцыйным рухам. Спадзяваньні гэтыя, аднак, хутка разьвеяліся. Пачалася рэакцыя, рух сацыялістычны быў ушчэмлены.

У некаторых настаўнікаў, у тым ліку і ў Коласа, паўстала думка склікаць настаўніцкі зьезд з мэтай змаганьня з самадзяржаўем. Зьезд адбыўся ўлетку 1906-га году ў Мікалаеўшчыне, у тэй-жа Прыстаньцы. Вынік таго зьезду, канспірацыйнага, але "нефахова" склíканага, быў нечаканы. Паліцыі ўдалося захапіць пратакол зьезду. Некалькі настаўнікаў былі зьняволены яшчэ да суду, хтось уцёк у Амэрыку, а некаторыя, як Колас звольненыя з працы, бадзяліся па сваім краі.

Прыблізна, у той самы час, калі Колас працаваў у школах на Палесьсі, сям'я па сьмерці бацькі Міхала перабралася на іншую пасаду лясьнікову ў Смалярні (ня Смольні), куды за стражніка быў прызначаны старэйшы сын Міхала — Уладзімер. Пасада гэтая была ў лесе, ад Стаўпцоў вёрст 6-7 на ўсход, пры правым баку Маскоўска-Брэскай чыгункі. Гэта тут дзядзька Антось рабіў настаўнікам схованча ў торпе сена. Трэба адцеміць, што паліцыя ня так ужо рупна сьцігала настаўнікаў. У Смалярні Колас вучыў сваіх меншых братоў і сёстраў ды пару чужых хлапцоў. Некаторы час, да суду, працаваў настаўнікам прыватна, дзесь у аднаго спачувальнага настаўнікам земляўладальніка.

Суд над Коласам адбыўся ў Менску 11-га верасьня 1908 году. Сям'я ў гэтым часе жыла ўжо ў Мікалаеўшчыне, на арэндаванай зямлі князя Радзівіла, якая была прыдзелена да тэй успамінанай ужо карчмы. Урад княжыцкі ў Нясьвіжы зрабіў ласку ўдаве лясьніка Міхала з дзецьмі даючы прытулак, адначасна збываючы ў арэнду аб'ект, якога ніхто не хацеў браць, бо зямлі было шмат, але пераважна няўжытковай і раськіданай у церазпалосіцы ў дзьвёх грамадах — Русакоўскай і Мікалаеўскай. У гэтай "карчме" маці Коласа адплаквала бяссонныя ночы, калі Колас быў засуджаны на трохгадовае зьняволеньне (тры гады крэпасьці — такі быў прысуд).

Перабрацца-ж на абзадачаную пры жыцьці Міхала зямлю, ніхто не захацеў, — родны кут трымаў пры сабе.

Будзе выдавацца парадоксам, калі сказаць, што 3-х гадовы побыт у Менскім вастрозе быў адным з найбольш пладавітых часоў у творчасьці Коласа. Пэўна-ж, даўнейшы вастрог ня быў падобен да цяперашніх вастрогаў у СССР. Было зьняволеньне фізычнае, але ня было цьвёрдага намаганьня няволіць духова, прынамся, не стараліся "ўпраўляць мазгі" зьняволеным, — гэта ўжо здабытак соцрэалізму. Была магчымасьць працягваць творчую працу.

У вастрожным часе, у 1910 годзе выйшаў першы зборнік вершаў Коласа — "Песьні жальбы". Зборнікі прозы: "Апавяданьні, Родныя зьявы, Другое чытаньне для дзяцей, п'еса Антось Лата" — усё гэта трэба залічыць да вастрожнай пары творчасьці Коласа. А што найважнейшае — у вастрозе зрадзіліся задумы й высьпелі ў цэласьці

найлепшыя творы Коласа — паэмы "Новая зямля" й "Сымон музыка". Трэйцяя частка "Новае зямлі" была й напісана ў вастрозе. Адразу-ж па выхадзе з вастрогу, на сьвежую памяць, Колас узяўся пісаць і незабавам напісаў дзьве часткі "Сымона музыкі", з усіх пяцёх.

Апынуўшыся на волі Колас пражываў некаторы час у Смольні, куды пасьля пажару ў Мікалаеўшчыне ў 1910 годзе, калі згарэла тая "карчма", перабралася сям'я ува ўласныя будынкі, пабудаваныя на княжыцкай зямлі, вядома, за згодаю княжыцкага ўраду. Абзадачаная зямля, як гэта напісана ў паэме "Новая зямля", была адпрадана нейкаму Кунцэвічу.

У 1912-м годзе ў Смольні адбылося першае спатканьне Коласа з Купалам. Адзін аднаго яны ўжо ведалі па творах і зь вельмі рэдкай перапіскі. Спаткаўшыся, усенькую летнюю ночку прасядзелі, сьхіліўшыся адзін да аднаго, як закаханыя. Іхная шчырая дружба, здаецца, нічым не парушылася праз усё жыцьцё.

У гэтым-жа 1912 годзе Колас, атрымаўшы ўжо працу настаўніка ў прыхадзкой школе ў Пінску, пазнаёміўся з настаўніцай Марыяй Каменскай. Неўзабаве яны ўвайшлі ў сужэнства. Мелі трох сыноў: Данілу, Юрку й Міхася. Сярэдні сын Юрка загінуў у Другую сусьветную вайну, невядома як і дзе.

Ваенны час, з 1914 па 1917 год, для творчасьці ня быў спрыяльны. У 1914 годзе Колас — мабілізуецца ў войска; у 1915-м — часовая дэмабілізацыя і ўцёкі з краю, асядленьне сьпярша ў Маскоўскай губерні, а потым у Курскай. Потым — паўторная мабілізацыя, ваенная школа, адправа й побыт на румынскім фроньце; потым — лютаўская рэвалюцыя й паварот да сям'і на Куршчыну.

З 1917-га году Колас ізноў пачаў працаваць над паэмамі "Сымон музыка" й "Новая зямля". Паэма "Новая зямля" пачала друкавацца часткамі яшчэ ў "Нашай ніве", потым, у 1917 годзе ў газэце "Вольная Беларусь", якую выдаваў Язэп Лёсік, але закончаная была й выйшла друкам у цэласьці ў 1923 годзе. Першая рэдакцыя паэмы "Сымон музыка" была закончаная ў тэй-жа Куршчыне, у сяле Ліпавец. Аднак асобным выданьнем у цэласьці паэма "Сымон музыка" ня была друкаваная.

Час пабыту ў Куршчыне быў таксама досыць плённым у творчасьці Коласа. Жыцьцё-ж яго ў гэтым часе было, сказаць-бы, таксама вастрожнае, толькі там вастрог быў дабравольны. У падсавецкіх выданьнях Коласавых твораў, а таксама ў атлясах пра Коласа, настырліва цьвердзіцца, што Колас успрыняў кастрычніцкую рэвалюцыю з радасьцяй. І на гэта знойдуць пацьверджаньне словамі самога паэта, выказаным шмат ужо пазьней. Але гэта было ўжо пад маральным тэрорам. У запраўднасьці Колас спаткаў гэтую "кастрычніцкую", як-бы кантужаны ўдарам грому. Як аглушаная ўдарам па лёдзе рыба, ён застыў і ня рухаўся з тэй Куршчыны. У прыватным-жа лісьце да найбліжэйшага суродзіча, пісаў пра бальшавікоў: "Толькі вось каб не захапілі ўлады гэтыя "галаштанныя" варвары" (ліст быў пісаны парасейску), яны могуць зьнявечыць усё і ўстанавіць самадзярджаўе горшае за царскае". Гэтае незадаваленьне выказваецца ў надзвычай цікавым невялікім расказе "Хаім Рыбс", пісаным у тым часе. Калі ў Хаіма, начальніка першай адміністрацыйнай сельскай інспэкцыі, запатрабавалі некалькі фурманак і работнікаў, а ён ня мог выканаць, дык пад загрозай яму заўважылі, каб узяў у помач міліцыянераў. Была такая размова:

— Ну, давайце міліцыю.
— Колькі табе трэба міліцыянераў?
— А колькі вам трэба работнікаў?
— Дваццаць пяць работнікаў...
— Дваццаць пяць работнікаў? — дваццаць пяць міліцыянераў.

У гэтых словах Хаіма выказана праўда пра бальшавіцкі лад: над кажным працаўніком павінен быць прыганяты, іначай работа ня пойдзе. "Хаім Рыбс" напісаны ў лёгкім гумары. Гэта невялікі расказік, але адзін зь лепшых Коласаўскіх гумарыстычных твораў. Цікава глянуць, як азваўся Колас на спробу захопу ўлады бальшавікамі. У вершы-закліку "Да працы", зьмешчаным у газэце "Вольная Беларусь", (№ 29, 1917 г.) нацыянальна-грамадзкім органе чытаем:

Браты! Вялікая дарога
Чакае нас і родны край —
Жніво настала, працы многа, —
Навукі семя засявай!
. . . . . .
Хай будзе спор нам у прыгодзе!
Ні царскі біч, ні прышлы хам,
Хай будзе лад ў сваёй гасподзе
Ствараць народ-уладца сам.

У сямітомным зборы твораў з 1952 г. ёсьць заціемка — «Упершыню надрукаваны ў 1917 г. (3 лістапада)». Не падана, аднак, дзе надрукавана, бо «Вольная Беларусь» — словы трэфныя для бальшавікоў. Але, што горшае, гэта фальшаваньне: слова «прышлы» падменена словам «панскі». І падменена дзеля таго, што й самаму тупалобаму бальшавіцкаму «бдзіцелю» ясна, што «прышлы хам» — да бальшавізму скіраваны.

І ў шматлікіх вершах і ў іншых творах катэгарычна адмоўнае станаўленьне Коласа да бальшавізму выразна выяўляецца. Гэткія вершы й "Дубы" з 1921 г., "Покліч" з 1921 г., "Родныя малюнкі", "Беларускаму люду", "Перад будучыняй", і інш. Вершы гэткія альбо перарэдагоўваліся, альбо зусім адкідаліся. Адкідалася й цэлая сэрыя алегарычных навэляў "Казкі жыцьця", што склала-б цэлы том.

...У альбоме "Якуб Колас — жыцьцё і творчасьць" (Мінск, 1959) дый шмат дзе ў падсавецкіх выданьнях — гаворыцца: "Пасьля Кастрычніка магутны талент Я. Коласа разгарнуўся ва ўсю сваю веліч". А тымчасам праўда зусім іншая. Па тым Кастрычніку Колас жыў і тварыў яшчэ натхненьнем чыстым ад "кастрычніку й бальшавіцкай

ідэялёгіі". Ён канчаў паэмы "Новая зямля" й "Сымон музыка", пісаў Трылёгію, навэлі "Казкі жыцьця". "Казкі жыцьця" былі выданы толькі адзіны раз. Быў выданы зборнік вершаў "Водгульле" ды іншыя, драбнейшыя апавяданьні. Усё гэта ня мае нічога супольнага з кастрычніцкай рэвалюцыяй і ўсё гэта ідэялягічна, бязумоўна, супярэчнае бальшавізму. Быў некаторы час, калі Ленін даў той свой "шаг назад". У тым часе было яшчэ магчыма больш-менш спакойна працаваць і выдаваць тое, што потым стала забароненым, альбо перакручана ў тэксьце.

Кастрычнік паказаў сябе крыху пазьней, калі пачаўся разгром нацдэмаў, і была выгублена амаль уся беларуская інтэлігенцыя. Хто неяк выжыў, той ведае, што такое Кастрычнік... І адказу на пытаньне — за што? — няма...

І перад Коласам стаяла дылема — як кажа прыказка — з ваўкамі жыць, павоўчы выць — альбо зыходзіць з жыцьцёвае сцэны. Першы з большых твораў Коласа, падфарбаваны ўжо саветчынай — "На прасторах жыцьця". У ім, аднак, амаль нічога спэцыяльна бальшавіцкага й няма. Цяга моладзі да навукі ці заахвочваньне да згоднай і карыснай грамадзкай працы — не канечне бальшавіцкая якасьць. Бальшавіцкае там толькі тое, што мясцовая "ячэйка" ў вёсцы пастанавіла раськідаць фігурку з расьпяцьцем, якраз перад царкоўным фэстам на Спаса. Стануўленьне-ж, бадай, запраўднае аўтара да рэлігіі выказалася ў гэтай аповесьці з наступнае сцэнкі на вакзале чыгункі. Юнак Сьцёпка Барута прыйшоў на вакзал, каб як зайцам праехаць да Менску з мэтай падацца на рабфак. Завязалася размова з чыгуначным срэлачнікам, і Сьцёпка пачаў даводзіць, што Бога няма.

Стрэлачнік: Мы чэрві ў параўнаньні з Богам. Як можам Яго ведаць?

— А калі ня ведаем, дык як-жа верыць у тое, чаго ня ведаеш?

Стрэлачнік паглядзеў на Сьцёпку.

— А ці ведаеш ты Галабурду? — запытаў ён нечакана.

Сьцёпка трохі замяшаўся.

— Якога Галабурду?

— От, — ёсьць такі.

— Не, ня ведаю.

— А можаш ты сказаць, што Галабурды няма?

Сьцёпка замяўся, а стрэлачнік атакаваў яго яшчэ мацней. І палопаўшы Сьцёпку па плячы, сказаў: Трэба, брат многа павучыцца, каб ведаць маленькае... Вучыся й ты. — Але Сьцёпку прыняў нанач у сваю кватэру, накарміў, а назаўтра пасадзіў на цягнік да Менску. З гэтае кароценькае сцэнкі, стрэлачнік выглядае найпаважнейшаю асобаю ў аповесьці...

Інакш паставіўся Колас у аповесьці "Адшчапенец" пісанай ужо ў 1930-31 гадох. Там аўтар стаў у пазыцыю нібы выразна прыхільную да калгасаў. Аднак факты, пададзеныя ў аповесьці, рэплікі старэйшых, або сьведамых супрацоўнікаў калгасу, выглядаюць яскравей і больш пераканальна...



Лепшая за ўспамянёныя дзьве — аповесьць "Дрыгва". Дзеяньне ў аповесьці — змаганьне палескіх сялян з польскім акупацыйным войскам, як і мясцовымі палякамі — земляўласьнікамі. Чырвоная армія — прычэпка збоку, і ў вайсковай акцыі не паказваецца...

Успомненыя творы нібы прамежныя між папярэднімі дарэвалюцыйнымі, ці праўдзівей сказаць, творамі вольнае думкі, і тымі, што ўжо пісаліся пад ціскам. У гэты час Колас напісаў ужо вершы ў пахвалу савецкіх дыктатараў, або розных юбілеяў ці палітычных падзеяў. Агульнае зьявішча пахвалаў савецкім дыктатарам і савецкаму ладу, бадай, ня мае сабе падобных у людзкой гісторыі. Асабліва гэта выяўляецца ў асабістых усхвалах Сталіна. Нават калі ягонае імя вымаўлялася ў адсутнасьці самога, лічылася абавязкам даваць "апладысмэнты", ляскаючы ў далоні на ўсю моц аж да мазалёў, і то нягледзячы на тое, што ў той-жа час у сэрцах сваіх яго праклінаалі. Паэту-ж гэтае ўсхваленьне мазоліла сэрца, але мусеў хваліць, і хваліў не адзін Колас...

Ад 1915 да 1939 г. Колас ніразу не наведаў сваіх родных. Нават і перапіскі амаль што ня было. Зь некаторых пісем 1920-х гадоў выразна выяўляўся нейкі страх... і перапіска была спыненая.

Калі Чырвоная армія заняла Заходнюю Беларусь, першым азваўся Колас і абяцаў наведаць родных. Але праходзілі тыдзень за тыднем, і абяцаньне не спраўджалася. Прычына-ж была, пэўна-ж, ведамая. І брат у лісьце жартам ускінуў бяду на самаход, які быў ужо нібы ў распараджэньні Коласа, і пісаў: "Мусіць твой самаход поўзае, як чарвяк. Я на сваёй наравістай кабылцы ўжо й з Туркестану прыехаў-бы, а ты ня можаш адолець гэтыя 75-80 кілямэтраў самаходам". І яшчэ прыпісаў, што "трохі пабойваюся, каб не пасварыцца, калі прыедзеш". Гэтую апошнюю заўвагу Колас зразумеў належна. У пісьмовым яго адказе адчуваўся боль — ня крыўда, але боль. Ён пісаў: "Падкалупліваеш ты мяне", а гэта было роўназначна — раскалупліваеш ты мае балючыя раны. А на другую заўвагу адказаў: "А калі пасварыцца, то ты ня бойся — няма за што" Адказ кароткі й выразны: няма за што ні сварыцца, ні спрачацца, ні разважаць...

Па некаторым часе Колас наведаў сваю вёску й сваіх родных. Прыехаў не адзін. Зь ім прыехала й тая "прычына", якая не дазваляла яму рухацца па сваёй волі. Разам зь ім увайшоў у хату незнаёмы чалавек, які ня пытаўся, ці можа ўвайсьці, ня лічыў патрэбным сказаць, хто ён і чаго ён прыехаў. Але Коласа так сьцярог, што нават спаць клаўся так блізка, каб галовы амаль стыкаліся. Тады яно неяк ня зразіла прыкрасьцю, бо лічылася за добрае, калі яшчэ не чапаюць у хаце, як прыкра падумаць цяпер, у адлеглым часе... Разумеецца, пры такіх абставінах не магло быць паважнейшых шчырых гутарак. І Колас, хоць звонку выглядаў тым самым братам, а з размовы — хтось іншы. Нейкая скрытнасьць, як-бы заслона зьінячвала гутарку. Аказваецца, заслоны могуць быць нятолькі фізычныя, але й духовыя. Пад гэтымі духовымі заслонамі жыве ўсё насельніцтва ў СССР. Пад гэтай заслонай Колас пісаў свае "творы" на савецкім матэрыяле.

"У паэме "Рыбакова хата" — выдатным творы сацыялістычнага рэалізму — з новай сілай разгарнуўся мастацкі талент народнага паэта Якуба Коласа" (З канцовага паясьненьня паэмы ў 7-ым томе "Збору твораў" Коласа). Гэтыя цьверджаньні — абсалютная мана й фальш, так як на фальшы пабудаваная ўся паэма. Гэтая паэма й падобныя да яе "творы" будзе служыць за ганьбеньне творчасьці Коласа й плямаю на самым Коласу, якую цяжка змыць. Гэта зьяўляецца паказьнікам упадку й ступнёвым занікам ягонага таленту. Глыбейшыя пачуцьці не прымалі ўдзелу ў гэтым "творы"...

Зусім натуральна было-б выкінуць усе хваласьпевы Сталіну. А з часам выпалюцца і ўсе тыя "плевы", якія, усё-ж, кідаюць цень ганьбы на Коласа. Спадчына, аднак, застанецца багатая, дабрадарная й чыстая...

У першым томе "Збору твораў" з 1952 г. у папераджальным артыкуле гаворыцца, што ў прадмове да заключнай часткі трылёгіі "На ростанях" нібы Колас пісаў: "Я хачу правесьці майго галоўнага гэроя Лабановіча настаўніка, праз цяжкія жыцьцёвыя выпрабаваньні і паказаць, як ён стаў актыўным будаўніком новага ладу, сапраўдным савецкім чалавекам". А запраўды ў прадмове гэтага няма, а што іншае... І Колас не павёў Лабановіча, каб паказаць яго, як таго "запраўднага савецкага чалавека", а запыніўся на пары 1906 году, калі адбыўся той Настаўніцкі Ззезд. І гэта паказвае, што Колас не хацеў паказаць савецкім Лабановіча, а й самога сябе савецкім...

Над "Сымонам музыкам" Коласу давялося шмат папрацаваць. Было тры рэдакцыі паэмы. Рукапіс у другой рэдакцыі нібы быў украдзены ў час падарожжа Коласа ў Кіславодск. Але ці скрадзены, то пытаньне, а калі скрадзены, то хто ўкраў? У трэйцяй рэдакцыі зьменены трохі зьмест, а найбольш тэхніка вершу, якая ўжо дадзена рознастайна...

"Новая зямля" — твор Коласа, як відаць, для яго самога найдаражэйшы. Ніводнага твору свайго не авеяў такой ласкай ды пяшчотай і не цаніў, шанаваў так, як "Новую зямлю". І, бадай, ніводнага твору так не асьцярог ад розных паправак, скуль-бы яны ні йшлі. Бязумоўна, яна мае свае заганы дый шмат, але зашмат мае й неўласьцівай крытыкі. Колас пакінуў яе ў першапачатковым стане...

МЫ НЕ ЗЬ ГІПСУ, МЫ — З КАМЕНЬНЯ,
МЫ — З ЖАЛЕЗА, МЫ — СА СТАЛІ,
НАС КАВАЛІ У ПЛАМЕНЬНІ,
КАБ МАЦНЕЙШЫМІ МЫ СТАЛІ...

Цётка



В. СЕНЬКЕВІЧ (Гішпанія)

# УЛАДЫСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ

Уладыслаў Сыракомля, сапраўднае імя й прозьвішча якога Людвік Кандратовіч, нарадзіўся ў 1823 годзе, у хвальварку Смольгаў, на мяжы былых Бабруйскага й Слуцкага паветаў. Ён паходзіў з дробнай абяднелай беларускай шляхты. Пачатковую адукацыю Людвік Кандратовіч здабываў у свайго парафіяльнага ксяндза, потым вучыўся ў Дамініканскіх школах у Нясьвіжы й Наваградку. У 1840 годзе ён паступае на службу пісара ў маёнтку Радзівіла ў Нясьвіжы, дзе была багатая бібліятэка й архіў старых дакумантаў. Тут ён і пачаў пісаць вершы, спачатку жартаўлівыя, а пасьля паважныя, якія дыхалі патрыятызмам, красой бацькаўшчыны й слаўнай мінуўшчыны, ды цяжкай доляй беларускага сялянства. Гэтая служба ў канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі ў Нясьвіжы й стала сапраўдным унівэрсытэтам будучага паэты.

У 1844 годзе Людвік Кандратовіч ажаніўся з Паўлінай Мітрашэўскай і ўзяў у арэнду хвальварак Залучча над Нёманам, што ля Стаўпцоў. Тут, у Залуччы, напісаў ён шмат сваіх найпрыгажэйшых паэтычных твораў. У залучанскі пэрыяд Сыракомля папрабаваў многія літаратурныя жанры й формы, аддаўшы перавагу паэтычнай гутарцы, гэта значыць вершаванаму апавяданьню з народнага жыцьця.

Восеньню 1852 году Уладыслаў Сыракомля пакінуў Залучча й пераехаў зь сям'ёю ў Вільню, у тагачасны найбольш культурны цэнтар Беларусі-Літвы, каб надаць сваёй творчасьці яшчэ большы размах. Тут ён уваходзіць у беларускі гурток інтэлектуалістаў Кіркора ды бярэ ў ім актыўны ўдзел. Але шумлівая сталіца былога Вялікага Княства Літоўскага не змагла спатоліць уражлівае вясковае сэрца паэты, і ён перабраўся ў падвіленскі хвальварак Барэйкаўшчыну, што па дарозе з Ашмянаў на Вільню.

У гэтым часе Сыракомля пазнаёміўся й здружыўся зь Вінцуком Дунінам-Марцінкевічам, якога ўсімі сіламі ўспамагаў, бараніў ад варожых нападкаў ды заахвочваў да пісаньня беларускіх твораў пабеларуску. Ён бачыў у Дунін-Марцінкевічу вялікі талент якраз у творах пабеларуску. З свайго боку Марцінкевіч цаніў выдатную апеку Сыракомлі ды дзяліўся зь ім сваімі перажываньнямі.

Іншай заслугай Сыракомлі ёсьць выхаваньне ды накіраваньне на беларускія рэйкі другога тагачаснага паэта — Вінцэся Каратынскага, а таксама паэтаў Міколу Караткевіча, Арцёма Дарэўскага-Вярыгу, Пранука Корбута ды іншых. Сыракомля быў сьвядомы аб вартасьці, значэньні й законамернасьці адраджэньня беларускае літаратуры. Аднак ён сам поўнасьцяй не перайшоў у сваіх творах на мову беларускую. Паўстае пытаньне — чаму? На гэта знаходзім адказ у ягонай творчасьці.

Сыракомля жыў і пісаў у пару асабліва цяжкую для нашага народу. Сялянства знаходзілася ў жудасным прыгоне. На вёсцы панавала цямната, амаль што не існавала школьніцтва. Просты народ быў няпісьменны. Паны й шляхта на працягу XIX стагодзьдзя моцна спалянізаваліся й адносіліся да сялянства й беларускае мовы з пагардай. Мова нашага народу бэштавалася аднымі як папсаваная

польшчынай «руская мова», як «мужыцкая гаворка»; іншымі-ж паніжалася да ролі «польскай гаворкі», «хамскай мовы», нягоднай для вышэйшых клясаў і для літаратуры. У такіх умовах нельга было адразу перайсьці вось на гэтую пагарджаную мову. Таму Сыракомля й пісаў папольску, разумеючы, што пры дапамозе мастацтва можна прапагаваць ідэю ўсяцэльнага, сьвядомага й дабравольнага адраджэньня свайго народу, пішучы на беларускія тэмы.

Як вядома, ён у сваіх творах не закранае тэматыкі нацыянальна польскай а піша выключна на беларускія тэмы, на тэмы адраджэньня свае бацькаўшчыны толькі польскай мовай, праз якую дастаецца да сьвядомасьці шляхты й знаходзіць паўсюднае прызнаньне.

Сыракомля верыў у сваё пакліканьне, што ён сваёй музай зьняволіць сэрцы шляхоцкія ды натхне духам новых ідэяў адраджэньня народу, а ў першую чаргу найбольш улюбёнага ім сялянства. Таму ён падрыхтоўваў кадры пісьменьнікаў для адраджэньня беларускай літаратуры пабеларуску, пісанай як для сялянства, так і для шляхоцкіх масаў, якія стаялі блізка гэтага сялянства.

Адсюль такая вялікая пратэкцыя Марцінкевіча, выхоўваньне Каратынскага, апека над іншымі беларускімі паэтамі й пісьменьнікамі ды адначасовая публічная абарона іх перад варожымі нападкамі ды ўздыманьне беларускай мовы на літаратурныя вышыні. Як бачым Сыракомля ня быў толькі «вясковым лірнікам», але й вялікім духовым правадыром нашага адраджэньня першай палавіны XIX стагодзьдзя.

Прадчасная сьмерць Уладыслава Сыракомлі-Кандратовіча 15-га верасьня 1862 году вырвала з нашага народу вялікага барацьбіта й глыбокага мысьліцеля. Але ягоная вялізарная духовая спадчына — дзесяць тамоў некамплетнага выданьня — пакінула свой глыбокі сьлед. Як слушна адзначыў Кастусь Цьвірка ў сваім нарысе «Уладыслаў Сыракомля і Беларусь», надрукаваным у 4-м № часопісу «Полымя» за 1972 год:

«Бяз творчасьці Сыракомлі, якая рабіла значны ўплыў на тагачасную грамадзкую думку, мы ня можам па-сапраўднаму зразумець і фармаваньне поглядаў вялікага сына беларускага народу Кастуся Каліноўскага, сучасьніка і ў многім аднадумца Сыракомлі».

Хоць у багатай літаратурнай спадчыне Сыракомлі захавалася ўсяго два вершы на беларускай мове, ягонае значэньне й роля ў гісторыі беларускай літаратуры, а асабліва ў разьвіцьці грамадзка-палітычнай думкі на Беларусі сярэдзіны XIX -га стагодзьдзя вялічэзная.

Вядомы польскі літаратуравед праф. Марыян Зьдзяхоўскі ў сваёй працы пра Уладыслава Сыракомлю, выданай у 1924 годзе ў Вільні пісаў: « Паэзія Сыракомлі становіць духовую мяжу між Літвой і Каронай. Дзе ейная чульлівасьць ня выклікае водгуку, гэта адзнака, што мы апынуліся ў іншым краі, у іншым псыхалягічным клімаце, сярод людзей, што інакш адчуваюць, інакш прывязаных да бацькаўшчыны».

Пад Літвой разумеў праф. Зьдзяхоўскі, падобна як і Сыракомля, Вялікае Княства Літоўскае, дакладней асноўную частку гэтага Княства, Беларусь, дзе нарадзіўся, гадаваўся, увесь час жыў і памёр Уладыслаў Сыракомля, а пад Каронай — этнаграфічную Польшчу. Сам сябе называў Сыракомля ліцьвіном, а сваіх продкаў «шчырымі ліцьвінамі». Сябе як паэта, падобна як і ягоныя сучасьнікі, называў «літоўскім лірнікам», «літоўскім паэтам», «песьняром Літвы», калі хадзіла пра вызначэньне ягонай нацыянальнасьці, а таксама «лірнікам вясковым», калі хадзіла пра сацыяльную сьціраванасьць ягонай паэзіі.



Як сьцьвярджаў адзін зь ягоных сучасьнікаў Мяжынскі ў сваіх успамінах пра паэта два гады пасьля ягонай сьмерці ў 1864 годзе, «Сыракомля перавышаў пачуцьцём і надзвычайнай любасьцю да роднай зямлі, можна сказаць, усіх сучасных яму паэтаў... Словам усё, што гэты чароўны паэта выліваў із сваіх збалелых грудзей, дыхае сапраўднай любасьцяй да ўсяго таго, што сваё роднае».

І ў польскай, і ў беларускай літаратуры сёньня ўжо ня ставіцца нават і сумлеву, што гэным «сваім» і «родным» у паэзіі Сыракомлі было беларускае, і толькі беларускае! «Гэты патрыятызм быў ня польскім ці літоўскім, а «лякальным», гэта значыць беларускім», — робіць выснову беларускі дасьледнік XIX стагодзьдзя Адам Мальдзіс у сваёй працы «Падарожжа ў XIX стагодзьдзе». Называючы сябе ліцьвіном, сам Сыракомля сьцьвярджаў, што ня ведаў і не разумеў летувіскай мовы (тут мы маем на ўвазе «літоўскую» ў сёньняшнім значэньні гэтага тэрміну).

Наша вялікая бяда ў тым, што яшчэ сёньня нашыя дасьледнікі ў Беларусі мусяць навукова даводзіць агульнавядомую праўду, што **Літва, ліцьвін, літоўскі — гэта беларускія нацыянальныя назовы** ў пэрыядзе Вялікага Княства Літоўскага. У гэткім-жа значэньні ўжываўся гэты назоў беларусамі й суседзямі беларусаў, першнаперш палякамі, яшчэ на працягу ўсяго XIX стагодзьдзя й на пачатку XX-га.

Беларускі патрыятызм Сыракомлі быў арганічнай часткай ягонай душы, асновай ягонага сьветаадчуваньня й сьветаразуменьня. І сваёй тэматыкай зь беларускага народнага жыцьця, і багатым мясцовым калярытам, і патрыятычнымі пачуцьцямі, і сваёй сацыяльнай ідэяй быў Сыракомля наскрозь беларускім паэтам. Быў ім у значна большай ступені, чымся ўсе нашыя польска-беларускія паэты першае палавіны й сярэдзіны мінулага стагодзьдзя із самым Вінцуком Дунінам- Марцінкевічам улучна. Элемэнтам польскім у ягонай паэзіі была толькі польская мова, дый тая густа захварбаваная лексычнымі й граматычнымі асаблівасьцямі беларускае мовы.

З усіх паэтаў свайго часу Сыракомля быў найбольш паважаным антыпрыгоньнікам. У сваім перакананьні і ў паэзіі ён атаесамліваў самога сябе зь беларускім селянінам. Выступаючы ад імя гэтага селяніна, ён паказваў сацыяльнае й маральнае зло прыгону, змагаўся за людзкую годнасьць селяніна-мужыка. Таму важнае месца й роля Сыракомлі ня толькі ў сучасным яму беларускім літаратурным працэсе, а і ў разьвіцьці й фармаваньні грамадзкай і нацыянальнай беларускай думкі.

У сваіх навуковых працах і літаратурных нарысах ды рэцэньзіях Сыракомля сфармуляваў свой погляд на гістарычную мінуўшчыну Беларусі ды абгрунтаваў права беларускага народу на разьвіцьцё сваёй нацыянальнай літаратуры й народнай мовы.

За сваё кароткае жыцьцё — Сыракомля памёр 15-га верасьня 1862 году — ён напісаў, апрача шматлікіх вершаў і паэмаў, цэлы шэраг краязнаўчых нарысаў, гістарычных дасьледваньняў, артыкулаў. Пераважную іх большасьць паэта прысьвяціў сваёй бацькаўшчыне — Беларусі. Бяручы ўсё гэта пад увагу й на заканчэньне адзначым, што найвышэйшая ўжо пара, каб пераклясьці на беларускую мову й выдаць усе чыста паэтычныя творы й працы Уладыслава Сыракомлі, што маюць дачыненьне да Беларусі.

Вітаўт Мартыненка (Беларусь)

**Апавяданьні-сьненьні**

## АЛЬТЭРНАТЫЎНАЕ

А 8-й раніцы пайшоў на суботнік
(хоць быў гэта панядзелак).
М. Гарэцкі «Камароўская кроніка»

Як мячык?

Не, якое там. Мячык у сваёй пругкасьці адчувае важкасьць пры падзеньні.

Адчулася лёгкасьць?

Ізноў-жа не. Толькі пазбаўленьне ад цяжкасьці.

Быў вечар пасьля доўгага працоўнага дня...

Пасьля працы? Ды ізноў-ткі не. Не пасьля працы. А пасьля доўгага працоўнага дня, які не дае вынікаў, а толькі ахутвае стомай і душэўным цяжарам. А потым...

Потым — адпачынак. На зямлю апускаецца ноч, і пачынаецца праца. Працуюць мазгі, душа, сэрца, рукі. Працуюць апантана.

Таму што...

Галава звалілася з плеч, і зь ёю звалілася цяжкасьць...

Галава звалілася з плеч.

## СЕМ КІЛЯМЭТРАЎ ДА ЎЛАСНАГА СЭРЦА

Ледзь ты ступіш на зямлю і адпусьціш поручань вагона, у душы прачнецца прадчуваньне. Ты быў тут толькі адзін раз, гадоў дваццаць таму, кароткі час, але так ясна адчуваеш цяпер, што... Невядома нават што... Проста адчуваеш прадчуваньне.

Пешшу йсьці трэба будзе кілямэтраў сем. Ты-ж памятаеш? І сьцежка, якою ты рушыш, падасца табе чамусьці да болю знаёмай.

Дарэчы, прабач, што я так недакладна выказваюся: "падасца знаёмай", "адчуеш прадчуваньне"... Як можна сказаць, што адчуеш, калі ня ведаеш што? Якім чынам падасца табе знаёмым тое, што не магло застацца нязьменным за дваццаць гадоў твайго небыцьця? Нават гэтыя дрэвы абапал сьцяжынкі... Хіба яны і дваццаць гадоў таму былі такімі-ж?

Проста ты, нарадзіўшыся й вырaслы сярод асфальту й бэтону, раптам усьвядоміш, як усё павінна быць у жыцьці. Ня так, як ты прызвычаіўся бачыць.

Вунь, на лысіне ўзгорка, шапацяць лістотай чатыры бярозкі. І ты не дадасі ў гэты мікрагаёк ні сасонкі, ні дубка, бо сапсуеш шэдэўр. Шэдэўр вышэйшага з мастацтваў, якое называецца прыродай.

Гэта ў вас, бэтонна-цывілізаваных, увайшло ў звычку раськідваць залаты мурог па газонах, дзе патрапіла, вытоптваць яго, як сьвіньням, ізноў завозіць яго аднекуль, адрываючы ад жывога, прыроднага, каб ізоў-жа пасьвінячаму вытаптаць.

Тут ня так. І таму гэтая простая, сьціплая сьцяжынка штахвіліны будзе адкрываць табе цуды, якіх ня ўбачыш у аніякім музэі. Тут яшчэ ня страчана натуральная прыгажосьць, і таму няма засьцерагальных цэтлікаў.

Той лысы з чубікам узгорак плаўна спускаецца да нізінкі, дзе зправа пачынаецца густы хвойны лес, а налева адкрываецца маляўнічы краявід хвалістай роўнядзі. Ты быццам адчуваеш жаданьне кінуцца ў гэтую роўнядзь і паплысьці, альбо разьбегчыся з пагорка, узьвіцца і... паляцець над лесам.

А зрэшты: нешта-ж дасьць табе крылы. Значыць, тваё прадчуваньне будзе недарэмным: ты прадчуваў тую сілу, якая дасьць табе крылы...

Памятаеш, колькі захапленьняў выклікаў у цябе, бывала, "Клюб кінападарожжаў"? Ах, якія экзатычныя прэрыі, ах, якія дзіўныя саванны... Але дзе тыя ўражаньні цяпер? Так, уражаньні — рэч хуткаплынная. А тут да цябе вернецца твая чалавечая душа. Тут і ўражаньні, і сьвядомасьць, і гонар... З гэтага-ж і складаецца чалавек. Гэта значыць чалавек не як від зямное істоты, жывёліна. А чалавек як зямны розум.

І ты ўжо як чалавек пачнеш успамінаць тое, што было не з табою. Ты здагадаешся, што крылы табе дала радзіма. І хоць ты нарадзіўся ў глыбіні абезаблічанага і абяздухоўленага касмаполіса, ты адчуеш радзіму менавіта тут. Не таму, зразумела, што быў тут паўтары разы праездам, а таму, што ўзгадаеш, што тут радзіма тваіх бацькоў і дзядоў, да якое, бы да крыніцы, хоць трошкі здолелі далучыць і цябе. Тут жыве мова, жывуць песьні і казкі. Жывуць успаміны, якія зьвязваюць пакаленьні.

Сэрца Беларусі. Ты зможаш так сказаць, бо ўспомніш, што недзе паблізу — Вязынка. І мясьціны, якімі ты праходзіш, натхнялі славутага Купалу на той вялікі цуд паэзіі роднага слова, ад якога ўсе мы імкліва адрываемся.

Адарваўся й ты. Але-ж нездарма я казаў, што адчуваньне радзімы верне табе душу й дасьць крылы. Ты адчуеш яе веліч і... бездапаможнасьць пад наступам ваяўнічага мяшчанства й духовага нігілізму.

Пра апошняе распавядзе табе той скрушаны волат, якога ты напаткаеш на ўзгорку. Тыя, усемагутныя, называлі яго напамінкам змрочных часоў забабонаў і плявалі яму ў твар. Яго прымусілі захоўваць сыравіну для зялёнага зьмія, але ён ня мог доўга гэта трываць. Тады яго пакінулі ў самоце, а потым здарылася так, што студэнтам — адукаваным цывілізатарам, дзецям тых усемагутных — не было дзе пагрэцца. І яны спалілі яго душу.

Ты падыйдзеш да яго, закінеш галаву ўгару і ўбачыш слана, забітага мышшу. Боль запоўніць тваё сэрца і — спачуваньне адкрые табе што душа волата йшчэ зможа ажыць, калі замест мышынай сьвядомасьці людзі атрымаюць чалавечую і зразумеюць, што волаты толькі мышам нагадваюць забабоны, а людзі павінны адчуваць той

вялікі дух, які натхняў чалавечыя рукі на стварэньне шэдэўраў.
Як расказвала табе маці, недзе паблізу павінна быць сястра волата. Хоць яны былі аднае крыві, але розных думак, з-за чаго ніколі не жылі ў спагадзе. Але вось і іхураўняў лёс адрынутых.

Яна не такая магутная; нават сьціплая. Але-ж давала спакой душы тым, хто верыў ёй. Потым таксама давялося папрацаваць на зялёнага зьмія. Потым. . . Дзе-ж яна цяпер?

— Ды вунь-жа, бачыш, за ўзгоркам відаць, — махне табе рукою сустрэчны. Ён скажа табе на роднай мове, але зьдзівіцца, што й ты так гаворыш: як-жа так, ты-ж адтуль, з цывілізацыі. . .

Яны, мабыць, так прызвычаіліся ўжо, што цывілізацыя — гэта там, дзе ня толькі топчуць газоны ды руйнуюць помнікі духу, але й навучаюцца здраджваць слову бацькоў. Ты засаромеешся гэтае цывілізацыі й пойдзеш туды, за ўзгорак, каб убачыць хоць рэшткі крыніцы духу.

Адмахаеш салідны кавалак дарогі, мінеш адзін, другі ўзгорак ды раптам успомніш, што так нічога й ня ўбачыў. . .

— А дзе-ж яна?. . Павіна-ж тут стаяць, — ізноў зьвернешся да сустрэчнага.

— Дык-жа вунь, — пакажа ён табе за сьпіну. Ты азірнешся і ўбачыш, што ёй ужо пасьпелі зьняць галаву, і старэнькая ня здолела-б цяпер ня толькі нагадаць аб стваральнай сіле вялікага чалавечага духу, а нават і аб забабонах, зь якімі яе зьвязвалі былыя і цяперашнія ўсемагутчыкі.

І што-ж?!

Чалавек так створаны. Жыцьцё мацуе яго дух надзеяй на шчасьце. А калі таго няма? Хіба дапаможа бяда? Не. Але ён мацуецца спачуваньнем да бяды.

Таму нават адсюль, з поля духовых страт, якіх нямала на тваёй радзіме, ты пойдзеш падмацаваны і яшчэ больш здольны да барацьбы.

Рух твой будзе ўсё больш упэўнены, і з кожным крокам ты будзеш усё мацней і мацней адчуваць, як ажывае тваё зачарсьцьвелае сэрца. Ты адкрыеш крыніцу жыцьця і будзеш прагна піць зь яе, нават вярнуўшыся да сваіх жалезабэтонных вытокаў, так і ня стаўшых радзімай. Але табе тут жыць. І зрэшты: магчыма ты, твой брат, твой сябра вернеце радзіму сюды, дзе пакутую безь яе і я.

## ДЗЯЎЧЫНА

(у рытме **«Бітлз»**)

Дождж бясконцы на сыходзе лета. Чырвань сонца над сівою стомленай зямлёй. Я блукаў па вулках і шукаў спакою, скуты прыкрым ланцугом няўдач.

Шэры дзень, пахмурны я і. . слота. Але раптам — у душы збудзілася вясна. Пэўна, цяжка табе, сябра, верыць. Але слухай. Зараз я спачатку ўсё пачну.



Так. Лепей мне спачатку ўсё пачаць.
Вось што табе хацеў я расказаць.
. . . Дваццаць год, згадзіся, час, калі прыходзяць мары. Час чароўных мрояў аб жыцьці. Я-ж хацеў вучыцца, і мае намеры не сказаць, каб дзіўнымі былі.

Інжынер, скажу адразу, зь мяне-б выйшаў кепскі. . . Дый ня толькі я ня здаў іспыт. Тут-жа сябра па няшчасьці мне сустрэўся й кажа:

— Не шанцуе тут, дык ёсьць яшчэ. . .

— Так? Ды ці не жартуеш, браце, ты?

— Факт. Тройчы сам штагод па тры разы. . .

— Ня трэба слоў. Куды-ж цяпер?

— Калі зь цябе не інжынер, дык. . . хто?

— Агро. . .

— Ну вось! Выдатна, — згодны ён. — Твой лёс такі, як розум твой. Ідзем?

— Пайшлі, — кажу і я.

* * *

Што-ж — удача: вось іспыт тут мы здалі другі ўжо. Я, аднак, падумаў: "Штось ня так!" А калі душа ня прагне, дык няўжо-ж чакаць мне пяць гадоў кардончыку шматок?

Параськінуўшы мазгамі, вырашыў я кінуць сам сябе падманам мацаваць: калі не шанцуе ў тым, аб чым ты прагна марыш, дык ня йдзі насуперак сябе.

Не. Вучышся-ж, каб потым працаваць.

Эх! Не наеўся — не наліжася.

Дождж бясконца на сыходзе лета. Чырвань сонца над сівою стомленай зямлёй. Я блукаў па месьце, каб знайсьці хоць піва, а знайшоў трывогу, боль і сум.

Шэры змрок, пранізьлівы вецер . . . Нібы ўсё хацела, каб сябе няшчасным я адчуў. Зрэшты, так і сталася-б. . . Ды так і стала: восень на двары, зіма ўва мне.

Што-ж: не са мной так першым у жыцьці.

Змрок? Ці ня ён нам лепш адценіць бляск?

І акурат у гэты час сярод дзяўчат убачыў я — Яе. Адну.

Пяшчотная і пекная, як птушка. . . ружа. . . Я гляджу. А як яна? Спынілася. . .

* * *

Так бяз восені й зімы вясну сустрэла сэрца. Простую рэч тут я зразумеў: колькі-б ні было ў жыцьці расчараваньняў прыкрых, гэта ўсё-ткі не само жыцьцё.

Спатыкнуўся, дык ня плач, а падыміся лепей: азірніся — хіба зьнікнуў сьвет? Хіба з кожнаю няўдачай даражэй ня стане радасьці ды шчасьця рэдкі міг.

Так. Толькі-б яго ў цемры ня згубіць.

Нас хтосьці зь ліхтаром чакае тут.
Павер, і гэты чалавек цябе сустрэне, і ўначы настане дзень.
Дый нават сьветлы твой настрой ты можаш зь кімсьці разьдзяліць — ты можаш жыць. Ты цар, ня раб. . .

Сымон Белы

### ЛЮБІМЫ Я. КОЛАС

**Час бяжыць няўмольна,**
**Коціць воды Нёман**
**Я падслухаў сёньня**
**лесу ціхі гоман:**
**Разьвітаўся з сьветам**
**дуб-асілак Колас. . .**
**Толькі недаступны**
**сьмерці яго голас.**
**Закранула ліра**
**нашы струны сэрца,**
**Бо з глыбінь народных**
**сьцежка яе ўецца.**
**На вясковых нівах**
**рунь расьце густая,**
**Самы буйны колас**
**песьняй прарастае.**
**Дзе ні кінеш вокам —**
**як прасьцяг далёкі,**
**Ён пакінуў людзям**
**у сэрцах сьлед глыбокі.**
**На бацькоўскай мове**
**ткаў ён нібы кросны,**
**свае песьні-думы**
**і паэмы-вёсны.**
**Коціць Нёман хвалі,**
**лес шуміць сасновы,**
**Шамацяць лістамі**
**Бервянца дубровы.**
**Прыязджайце, людзі,**
**да лягенды дуба,**
**Адпачыць душою**
**ды пабыць зь Якубам. . .**
**Бор сьпявае песьню,**
**чуцен звонкі голас:**
**Ты ў народным сэрцы,**
**наш любімы Колас!**



Уладзімер Глыбінны (ЗША)

## ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ

(раман)

(працяг)

### 12. У ЗЬНІШЧАНАЙ СТАЛІЦЫ

Калі раніцай наступнага дня Кастусь пайшоў у места шукаць кватэру, ягоную ўвагу прыцягнулі расклееныя на сьценах ды слупох адозвы. Гэта гарадзкі камісар паведамляў, што ўсе жыды бяз вынятку павінны да пэўнага дня перасяліцца ў вызначанае для іх месца. Апісвалася дакладнае вызначэньне таго раёну й папяраджалася, што калі хто ў вызначаны час не пераселіцца, будзе расстраляны.

— Вось яно, пачынаецца фашыстоўскі парадак, — падумаў Кастусь. Праўда, ён і раней чуў, што ў акупаванай Польшчы існуюць "гэто", куды перасяляюць польскіх жыдоў, а заадно звозяць іх туды й зь Нямеччыны ды іншых акупаваных земляў. Але канкрэтная праява антысэміцкае палітыкі на беларускай зямлі скаланула яго. Ягоную душу нібыта пакарабаціла. Век свой ён пражыў побач з рознымі людзьмі, былі ў яго сябрамі й жыды, але ён ніколі ня меў на іх ніякага жалю. А цяпер іх вылучаюць, каб пасьля магчыма й горшае зь імі зрабіць. Ён ня мог зьмірыцца з такой крыўдай. Кастусь прыгадаў Зьмітрака Бядулю й усё тое добрае, што ён зрабіў для беларускае літаратуры.

У будынку гарадзкой Управы яму сказалі, што можа займаць абы-якую пакінутую камісарамі кватэру ў месьце. На Камсамольскай вуліцы Кастусь у глыбіні двара ўбачыў духпавярховы дом. Дом здаўся пакінутым. Падыйшоўшы да яго ўбачыў, што ўнізе жывуць людзі. Гэта была сям'я дворніка. Той сказаў, што сям'я камісара выехала й кватэра пустуе, штопраўда людзі пасьпелі ўжо яе абабраць. Засталіся толькі ложкі. Кастусь неадкладна заняў гэтую кватэру, зарэгістраваў яе ў Управе ды падаўся па бацькоў. У канцы таго-ж дня Кастусь са сваімі старымі як-бы спраўляў уводзіны. Усе неяк утульна разьмясьціліся. Маці з бацькам узялі сабе пакоік з грубкаю, каб было цяплей, калі настануць маразы. А Кастусь пасяліўся ў вялікім праходным пакоі, дзе адразу старанна пачаў меркаваць, дзе знайсьці месца на кніжныя паліцы. . . Разгледзіўшыся пайшоў на места паглядзець, што творыцца. А рабілася там нябылое: усе цягнулі сабе дамоў усё, што трапляла пад рукі. У Менску адбываўся самы вялікі ў гісторыі рабунак. Дзеці й жанчыны брали пераважна ежу з разбураных складаў. Старэйшыя — муж-

чыны несьлі на плячох поўныя мяхі вопраткі, скруткі паркалю ды іншае дабро. Спрытнейшыя ваколічныя сяляне прыяжджалі падводамі й вязьлі ў вёскі розныя гандлёвыя тавары. Вазы аж ламаліся ад дабра. У дзе-якія павозкі былі запрэжаныя па двое-трое коней. Гэтак людзі дабраўшыся да дармовае здабычы давалі волю сваім прымітыўным ухілам. Да самага цямна бралі й цягнулі ўсё... Кастусь глядзеў на гэта й думаў горкую думу пра свой народ... Нейкі чалавек вынес з дому вялікую скрыню й тут-жа на вуліцы разьбіў яе. Разчараваўся, калі пабачыў, што ў ёй былі кнігі. Плюнуў і пакінуў іх ляжаць на вуліцы. Ніхто да тых кніжак не падыходзіў. Кастусь пастанавіў падабраць некаторыя кнігі, каб дарэмна ня гінулі. Наклаўшы нейкім пакінуты мех, пацягнуў іх праз вуліцы ў свой новы дом. Кнігі аказаліся з галіны зусім блізкай да Кастусёвых інтарэсаў, — зь гісторыі сусьветнага мастацтва. Кастусь вельмі ўсьцешыўся выпадковай знаходкай...

Гэтак пачалося ўстаткаваньне жыльля на новым месцы. Кожны дзень Кастусь здабываў колькі нікому не патрэбных кніжак. Неўзабаве ўся правая сьцяна з вокнамі на панадворак была занята паліцамі з кнігамі. Яны ляжалі й на стале, і на крэсьле, і на шафе. А калі разьбіралі пакінутую на волю лёсу бібліятэку работнікаў мэдыцыны, Кастусь наняў нават падводчыка прывезьці цэлы грус кніжак, каб ня даць ім загінуць. Ізноў цешыўся сваёй бібліятэкай Кастусь і пачуваў сябе ачунялым пасьля апошніх перажываньняў.

На працу Кастусь уладкаваўся ў беларускую газэту, якая пачала выдавацца ў Менску. Ён пісаў у газэту нарысы пра культурнае жыцьцё: тэатральныя паказы Менскага тэатру ды мастацкія выстаўкі, якія пачалі паступова ладзіцца ў беларускай сталіцы. Напісаў колькі нарысаў зь гісторыі Вялікага княства Літоўскага й ягоных дзяржаўных мужоў, як Л. Сапега, які быў выдатным сынам нашага народу. Найбольш цікавілі Кастуся старонкі беларускага народнага мастацва, як Слуцкія паясы ці народныя ўзоры арнамэнту. Багата пісаў Кастусь і пра гісторыю беларускага тэатру, разьвіцьці беларускай драмы. Праўда, немцы хутка забаранілі пісаць пра Янку Купалу, бо ён быў па тым баку фронту. Тое-ж здарылася й зь Якубам Коласам. К. Каліноўскі прапіў у няласку дзеля таго, што быў правадыром паўстаньня... Падрыхтаваная ўжо да апошняй рэпэтыцыі п'еса Міровіча "Кастусь Каліноўскі" была забароненая нямецкай цэнзурай. Усе высілкі й выдаткі на гэтую пастаноўку пайшлі марна. Таксама не дазвалялася выдаваць беларускія кніжкі. Прапанавалі з гэтым пачакаць. З вышэйшым школьніцтвам былі таксама свае праблемы. Нельга было слухаць радыё, — гэта засьцярога быццам ад бальшавіцкае прапаганды. Уначы не дазвалялася выходзіць на вуліцу без адмысловых пропускаў. Не заўсёды дапамагаў і пропуск...

Аднойчы Кастусь разьвітаўся зь дзяўчынай пасьля камэнданцкай гадзіны. Нямецкі патруль стрэліў каля самага вуха Кастуся, дарма, што ён пераконваў яго, што мае пропуск на права хадзіць пазьней. Нахабству немцаў ня было межаў ні ў установах, ні на людзях...



На чале аддзелаў у гарадзкой Управе працавалі беларусы. Але немцы мелі верх. Неяк вышэйшы нямецкі начальнік выклікаў дырэктара адзьдзелу мастацтваў і тэатру спадара Ільінскага. Нечым не спадабаўся ён немцу. Можа быў занадта самастойным. Разюшаны немец перадаў яго ў нямецкую паліцыю бясьпекі й адтуль ён ужо, відаць, ня выйшаў. Больш пра Ільінскага ня было чуваць, кануў у вечнасьць. Цікава, што ніхто не адважыўся й пікнуць у абарону забранага. Забралі, скажам, ксяндза Гадлеўскага... Ізноў маўчаньне. Усё гэта вымоўна нагадвала забіраньне ў лёхі НКВД перад вайною. Абсалютнае маўчаньне... Так можа быць толькі тады, калі народ пазбаўлены хоць-якога голасу ці права на сваю абарону.

Кастусь усё больш і больш праймаўся нянавісьцю да фашысцкага ладу, але маўчаў, бо ведаў, што пугай абуха не пераб'еш. А жыць неяк трэба. Даволі нацярпеўся за савецкім ладам. Ад кулі ўдалося ўцячы толькі выпадкам, дзякуючы таму, што пачалася вайна. Жыві й аглядайся, бо гэтую навуку трэба памятаць, — разважаў Кастусь. — Часы бунту даўно мінуліся, навучыўся цярпець... Дык цярпі й спадзявайся на лепшае". І Кастусь цярпеў ды аглядаўся...

Тым часам у месьце пачыналася падпольная праца. Да яе тайна далучыўся й працаўнік рэдакцыі — Матусэвіч. Перад тым, як зьнікнуць, выказаўся Кастусю, што трэба йсьці ў лес. Кастусь адказаў, што няма ў тым ніякага выйгрышу. А сам падумаў: "Толькі што вырваўся зь пятлі, якая пагражала сьмерцю, чаму маю йсьці назад на спатканьне з тою-ж пятлёю... Гэта было-б падобным на дабраахвотнае зашморгваньне тае пятлі на сваёй шыі. Не, браце, дзякую за такую ідэю... Лепш пачакаю, можа палепшыцца, чымся йсьці да тых нелюдзяў..."

Чалавек заўсёды жыве надзеямі на лепшае. Жыў імі й Кастусь. У Менску хутка разгарнула сваю дзейнасьць адзіная дазволеная арганізацыя дабрадзейнасьці. На чале яе стаў лекар з Прагі-Чэскай Янка Ермачэнка. Зусім не абазнаны зь гісторыяй Беларусі й яе культурай, Ермачэнка рабіў уражаньне выпадковае асобы ў беларускім руху. Заміж выкарыстоўваньня магчымасьцяў працы для адраджэньня Беларусі, ён больш дбаў аб асабістым дабры й дабрабыце тых людзей, якіх настаўляў зь ліку сваіх родзічаў на розныя пасады. Задуманая ўстанова памагаць народу ў цяжкія гады ваеннага ліхалецьця, яна давала мала карысьці. На мясцох гэтая арганізацыя ператварылася ў дапаможную ўстанову, ня толькі для беларускага народу, але й для немцаў. Мянчане вельмі хутка расчараваліся ў гэтай установе й мала зьвярталі на яе ўвагі. А культурнікам няраз даводзілася спрачацца з гэтай установай па пытаньнях дапамогі культурным працаўнікам. Кастусь ніколі туды не хадзіў. Пазьбягаў яе і ў сваёй журналістычнай дзейнасьці.

Былі, праўда, людзі вельмі патрыятычнага складу з тых, каго прысылалі на працу на Беларусь. Ужо зь першых дзён вылучаўся доктар Чарняўскі, які прыехаў на бацькаўшчыну з дэвізам "Жыве

Беларусь!” і ўсюды, дзе мог, яго прапагандаваў. У мянчукоў, што ня звыклі да такога віншаваньня, ён часам выклікаў недаўменьне.. Аднак сваімі паводзінамі й верай у адраджэньне Беларусі будзіў давер і пашану. Людзі пачыналі задумвацца аб лёсе сваёй бацькаўшчыны... А доктар Чарняўскі спалучаў сваю мэдычную дапамогу зь дзейнасьцю на карысьць адраджэньня Беларусі.

Менскую беларускую газэту рэдагаваў У. Казлоўскі. Быў гэта даволі здольны чалавек, пісаў нават не благія вершы ў Заходняй Беларусі. У Менску ён пісаў передавыя артыкулы ў газэту. Відаць дзеля гэтага ён стаў на прымеце падпольшчыкаў. Загінуў Казлоўскі ад рукі супрацоўніка беларускае газэты Матусэвіча... Казлоўскі пакінуў па сабе добрую памяць у рэдакцыі тым, што насіў матэрыялы газэты ў Генэральны Камісарыят на цэнзуру да ўпаўнаважанага для гэтых спраў немца — Сівіцы. Маючы да сябе давер, ён рэфэраваў пра зьмест чарговага нумару й лёгка здабываў дазвол на друк. Гэтым палягчалася праца рэдакцыі й фактычнаму рэдактару ня трэба было марнаваць час на атрыманьне цэнзурнага дазволу. Ён канцэнтраваў сваю ўвагу на мове, стылістыцы ды падборы адпаведных матэрыялаў. Гэтак агульнымі высілкамі рабілася справа прабуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці.

## 13. МЭЛЬПАМЭНА Й КРОЎ

Бацька на новым месцы ўсё хварэў і ніяк ня мог ачуняць. Зусім аслабеў і ўжо амаль не падымаўся з ложка. Маці даглядала яго, рабіла спробы пацешыць яго тым, што ня так ужо й блага пры немцах. А ён ня мог ніяк зьмірыцца з новаю акупацыяй Беларусі. Нейк выпаў дзень, калі ён пачуў у сабе даволі сілаў, каб апрануцца ды выйсьці пасядзець на лаўцы ў сквэрыку. Сядзеў ён і аб нечым думаў. Вочы ягоныя сьвяціліся вялікім сумам. Магчыма ён адчуваў свае апошнія дні на гэтым, такім бязрадасным сьвеце. Праўда, птушкі паранейшаму сьпявалі на дрэвах. Зыркімі фарбамі сьвяціліся краскі на клумбах сквэрыку, але парадзеў натоўп людзей. Бывала тут суцэльнай сьцяной мітусіўся менскі мешчанін. Цяпер толькі невялічкая купка людзей праходзіла па сквэрыку ля Пляцу волі, і толькі лічаныя асобы сядзелі на лаўках. Неўзабаве старому надакучыла на гэтым месцы й ён пасунуўся дамоў. Аразу-ж зьлёг і ўжо колькі дзён не ўставаў з ложка. Захварэў яшчэ горш. Што маці ні рабіла, каб вылечыць — нічога не дапамагала. Прыходзіла лекарка, агледала, але памагчы рашуча не магла. Відаць ня было адпаведных лекаў. Нейк апоўдні памёр бацька на руках сваёй жонкі. Маці сама-ж яго памыла, апранула як належыць, атрымала даведку аб сьмерці ад лекаркі ды на другі дзень старога пахавалі на Кальварыі. Драўляны крыж нагадваў, што пахаваны раб Божы Ільля, народжаны ў 1876 годзе й памёр у 1941.

Яшчэ больш самотным зрабіўся Кастусь пасьля сьмерці бацькі.



Адзіная маці й была ўсімі ягонымі родзічамі ў Менску. Ня маючы жонкі, ён яшчэ больш аддаваўся творчай працы. А нацыянальна-культурная праца ў Менску ў тым часе аж кіпела. Як грыбы зьяўляліся пачатковыя школы ўва ўсіх раёнах Менску. Усюды адзінай мовай навучаньня была беларуская мова. Аддзел Асьветы Менскае ўправы падрыхтаваў колькі падручнікаў на беларускай мове й выдаў новы правапіс, падрыхтаваны Антонам Лёсікам. Мастакі ўзяліся за маляваньне беларускіх краявідаў. Тэатр актыўна ўлучыўся ў стваральную працу й падрыхтаваў колькі беларускіх паказаў драмы ды опэры. Кожнага вечару на паказах у тэатры было многа народу. Нейк у летні дзень памешканьне тэатру было адведзена збору беларускае моладзі, паказваўся новы спэктакль. Раптам у глядзельнай залі ўзрываецца міна. Падпольшчыкі прыстасавалі міну да самае ўрачыстасьці. Некалькі маладых энтузіястаў было забіта, параненых было больш...

Кастуся ня было дома. Як толькі даведалася маці пра тую непрыемную навіну адразу захвалявалася. Яна ведала, што ён няраз праводзіць багата часу ў тэатры. Тым больш, што ўваход для яго быў вольным, як для журналіста. Нямала вечароў ён прабываў на паказах Беларускае Мэльпамэны. Некаторыя паказы ён глядзеў некалькі разоў, кожны раз знаходзячы ў іх новыя адценьні сэнсу й новыя адмены мастацкае характарыстыкі. “Затонуты звон” Гаўптмана ён глядзеў ня менш за 20 разоў і кожны раз яго захаплялі ўсё новыя й новыя выявы філязофскае думкі ды багацьце вобразнага зьместу. Аб усім бачаным ён звычайна дзяліўся з маці. А цяпер, калі багіню тэатра апырскалі крывёю, маці затурбавалася. Напэўна ён там, дзе была такая ўрачыстасьць. Яна доўга стаяла на рагу вуліцы, спатыкаючы тых, хто бег з тэатру. Пазьней яна кінулася зь іншымі шукаць свайго сына. Але яго нідзе ня было... Зусім зьбілася зь сілаў. Ледзь дабрыла дадому. А на рагу вуліцы знаёмая дзяўчына паведаміла Кастуся пра выбух ў тэатры й што маці яго шукае. Ён дабег да брамы й тут убачыў сваю маці...

У наступныя месяцы тэрор супраць беларусаў пашырыўся. Неўзабаве быў забіты старшыня места, старэйшы беларускі дзеяч яшчэ з нашаніўскае пары, прафэсар Іваноўскі. Ён ехаў з рамізьнікам па Нямігскай вуліцы й быў пераняты падарожнікамі на іншым возе. Яны застрэлілі Іваноўскага. Сьмерць прыйшла адразу.

Праз нейкі час у цэнтры Менску былі забітыя старшыня раённай Управы Рабушка й ягоны памагаты... Беларусы апынуліся між молатам і кавадлам. З аднаго боку немцы ды іншыя прышэльцы ціснулі, як мага часта бяз дай прычыны, а з другога боку сталінскія тэрарысты забівалі беларускіх актывістаў, як супрацоўнікаў немцаў. А польскія “ваякі” даносамі на беларусаў у нямецкую паліцыю нішчылі інтэлігенцыю. Беларусам даводзілася адбівацца аж з трох бакоў і не абы ад якіх ворагаў. Немцы прывезьлі ў Менск сваю вялікую дасканалую паліцыйную машыну пакараньня. А сталінскія падпольшчыкі карысталіся дапамогай былых таўкачоў бэрыяўскага апарату.

Аднак, нягледзячы на гэткі бязьлітасны прасьлед з усіх бакоў, беларуская культурна-будаўнічая праца гэтых гадоў была дзівагоднай. Беларуская прэса, школы, мастацтва, тэатр ды дабрадзейнасьць ува ўсіх кутках Беларусі, дзе была цывільная ўлада, квітнелі ды множыліся. Нават на вёсках, дзе немцы няраз па правакатарскіх даносах бэрыяўскіх "мсьціўцаў" палілі ды забівалі нявінных людзей, жыцьцё йшло сваім адвечным шляхам. Голаду ня было, бо хлеба хапала і для сябе і для партызанаў і нават на пастаўкі для немцаў. Хапала й самагонкі. . .

На рынках у Менску можна было купіць усё: і хлеба, і сала, і самагонкі. Праўда, цэны былі немаверна высокія, але людзі неяк лёгка выкручваліся. Горш было для інтэлігенцыі, але й яна давала сабе рады. Спэкуляцыя цьвіла вясновым цьветам. А гэта-ж была татальная, бязьлітасная й сьмяротная вайна. Людзі спадзяваліся, што некалі можа быць лепш. . . Гэтымі надзеямі й жыў тагды чалавек таптанага чужынцамі Краю.

Кастусь назіраючы актывізацыю рынычнай вымены, думаў аб бясспрэчнай перавазе прыватнай гаспадаркі над калгаснай. У часе ваеннага, страшнага часу, селянін вязе ў места на рынак поўныя вазы рознай усячыны. Сяляне ратавалі ад галоднай сьмерці тысячы мянчанаў ды іншых местачкоўцаў. . .

## 14. "ПАН МІНІСТАР"

Бачыў Кастусь, як Менск паступова напаўняўся шукачамі выгодных пасадаў. Беларускі Варшаўскі камітэт, як і Бэрлінскі, слалі ў Менск шмат пратэндэнтаў на высокія пасады, калі гэтыя людзі выдавалі сябе за беларусаў. Зразумела, што разам з добрым, сьведамым элемэнтам, кінуліся сюды й розныя прайдзісьветы, а нават скрытыя ворагі беларушчыны. Беларусамі яны называліся, бо гэта давала нагоду заняць выгаднае месца ў новай адміністрацыі. Калі адзін улакоўваўся, цягнуў ён за сабою цэлую чараду іншых, якія зь беларусамі ня мелі ніякіх дачыненьняў. Выглядала, што толькі цяпер яны ўсьведаміліся ды жадаюць дабра свайму народу. Многія зь іх ня ведалі беларускае мовы. Іх маніла пэрспэктыва заняцьця рэпрэзэнтатыўных пасадаў. А дзе-каторыя зь іх марылі аб магчымым міністэрскім партфэлі. Такім выдаваўся й кіраўнік Беларускае Самапомачы. . . Неабазнанасьць у беларускіх справах у гэтых людзей выяўлялася на кожным кроку. . . Гэта было відаць асабліва выразна работнікам беларускага друку. Колькі сутычак з рознымі хапунамі навялі журналістаў на думку вывесьці іх на чыстую ваду. Пастанавілі скарыстаць тэатральныя сродкі. . .

Перш трэба прыгадаць тое, што драматургія Францішка Аляховіча пабудаваная на прынцыпах заходняэўрапэйскай камэрцыйнай драмы, на зацікаўленьні гледача цікавай інтрыгай, сцэнічнымі прыёмамі, дасканалым веданьнем вымогаў масавага гледача, спалучэньнем драмы зь песьнямі й танцамі, элемэнтамі апэрэты, прыцягнула ўвагу беларускага Менскага тэатру. Аляхновічава п'еса ў трох дзеях "На Антокалі" была пабудавана на зразумелым кожнаму менчаніну імкненьні да сямейнага шчасьця, жыцьцёвага спакою ды забясьпечаньня дабрабыту. Спакушаны марай атрымаць спадчыну з Амэрыкі ў амэрыканскіх далярах, паштовы чыноўнік Ігнат Радзівіловіч адважваецца прасіць рукі маладой віленчанкі Зоські Сьліжык, дачкі майстра на Антокалі. Захопленая ідэяй мільёнаў, лёгкадумная Зоська адмаўляе закаханаму ў яе Юзіку й пераконвае яго, што там, дзе няма грошай, каханьне хутка зьнікае. . . А калі мары Радзівіловіча не спраўдзіліся, ён ня здольны да хоць якога змаганьня. Слабаваты, затуканы сваім начальствам, мяккі характарам і добры па нораву, калі на яго нападаюць, што выйшла "ня тая лінія", ён вызнае сябе вінаватым. У ягоных словах-сьлёзах чуецца крык абнажанай душы. Бацька Зоські Вінцэнт Сьліжык і ягоная жонка Міхаліна — людзі места. Ён любіць выпіць, яна — пагаманіць з суседкамі. Але яны шануюць працоўнага чалавека. Міхаліна згаджаецца выдаць Зоську за чыноўніка, каб тая валодала мільёнамі. У п'есе выводзяцца яшчэ іншыя характары, гэтак зразумелыя менскаму гледачу, як гулякарэпарцёр Пяровіч, дабрадзейны купец Арон, язычлівая Мацеіха, колькі жабракоў і іншых сакавіта змалёваных асобаў. Мяшчанскае жыцьцё паказана было ўва ўсёй сваёй праўдзівасьці, дарма што не бяз апэрэтачнай лёгкасьці й без псыхалягічнага заглыбленьня. Жывая сочная мова й зьмястоўны гумар п'есы прыйшоўся да смаку менскага гледача. У сэзоне 1941-1942 гадоў паказ спэктакля "На Антокалі" быў дапоўнены паказам вясёлае бытавое камэдыі Ф. Аляхновіча "Шчасьлівы муж".

Ведаючы посьпех Аляхновічавых п'есаў, дырэктар тэатру станоўча паставіўся да прапановы рэдакцыі "Беларускай газэты" паказаць п'есу таго-ж аўтара "Пан Міністар". Напісаная яшчэ ў сярэдзіне дваццатых гадоў у Вільні, камэдыя насіла характар сатыры ў адрас усіх прэтэндэнтаў на пасаду беларускага міністра. Падказаная жывымі фактамі з жыцьця беларускае Вільні ў дваццатых гадох, п'еса "Пан Міністар", як ні трэба лепш цэліла свае стрэлы ў сучасных падобных пратэндэнтаў. Характары й іх паводзіны на сцэне змушалі менскага гледача згадваць рэальных асобаў на менскім гарызоньце ды шчыра сьмяяцца зь іх камэдыйнасьці. Гледачу было асабліва пацешна пазнаваць у пэрсанажах сатыры некаторых палітычных дзеячоў тых ваенных гадоў. . .

Кастусь няраз у часе спэктаклю наглядаў за тым, якое ўражаньне робіць паказ "Пана Міністра" на гледачоў. Ён шчыра цешыўся, што ў такі жахлівы ваенны час мянчанін знаходзіць завальненьне й як-бы прадуху ад усіх нягодаў, што выпалі на ягоную долю. . .

## 15. МІНА І ВІЛЬГЕЛЬМ КУБЭ

У Генэральным Камісарыяце Беларусі сярод урадоўцаў панавала нязгода. Прыехалі сюды розныя людзі, якія пераважна шукалі лёгкай нажывы. Было многа балтыйцаў. Яны лічыліся знаўцамі Беларусі й яе народу. Былі яны людзьмі пераважна расейскае арыентацыі. Немцы-балтыйцы Гільдэбрандт ды Шульц занялі высокія пасады. Яны не любілі карэнных немцаў Штэтэра й др. Курца. Быў тут яшчэ й Юрда ды яго хутка выгрызьлі за нейкія правіны. Гэтыя людзі кіравалі культурнымі справамі Беларусі. На пачатку цэнзарам быў Гэрцаг, чалавек вайсковай выпраўкі й энтузіяст розных рамёстваў. Ён хваліў Матусэвіча за артыкул у "Беларускай газэце" пра кавальства. Пазьней замяніў яго Сэпп Сівіца, які таксама стаўся дарадцам у культурных пытаньнях. Сівіца ў свой час скончыў Львоўскі ўнівэрсытэт і добра валодаў польскаю моваю. У Менску Сівіца сачыў за беларускім друкам.

Быў у Камісарыяце яшчэ немец з Латвіі — Штэрнбэрг, які некалі скончыў беларускую гімназію ў Рызе. Трэба зазначыць, што карэнныя й балтыйскія немцы зжываліся ў Менску даволі цяжка.

Вільгэльм Кубэ быў прызначаны Генэральным Камісарам Беларусі яшчэ да вайны ў 1941 годзе. Але гаўляйтэр з упаўнаважаньнямі Гітлера прыехаў у Менск і распачаў сваю дзейнасьць недзе ў верасьні 1941 году.

Пасяліўся В. Кубэ ў доме на вуліцы Энгельса на другім паверсе. Тры кварталы што адлучалі яго дом ад будынку Генэральнага Камісарыяту, ён любіў нетаропка хадзіць пехатою пад аховаю жаўнераў. Ягоную напалеонаўскую фігуру можна было сустрэць па дарозе ў Генэральны Камісарыят каля Пляцу Волі. Вільгэльм Кубэ быў адзіным гаўляйтэрам, які падпарадкоўваўся беспасрэдна самому Гітлеру, а не камісару ўсяго Ўсходу ў Рызе. Давер правадыра рабіў яго на Беларусі асабліва важным. Сваім часам Кубэ пісаў вершаваныя драмы на рамантычныя тэмы нямецкае гісторыі. Нават Менскі гарадзкі Тэатр ставіў адну ягоную драму перакладзеную на беларускую мову.

Жонкаю В. Кубэ была прыгожая бляндынка з арыстакратычнымі рысамі, казалі нядрэнная жанчына. Хадзілі чуткі, што ў маладосьці В. Кубэ любіў завіхацца ля маладзіцаў. У Менску-ж ён быў пад відавочным уплывам жонкі. . .

Абшар Генэральнага Камісарыяту Беларусі быў абрэзаны, бо ня ўходзілі ў яго ні Берасьцейшчына, ні Беласточчына, ні Горадзеншчына. Смаленшчына, Магілёўшчына й Гомельшчына падначальваліся вайсковаму кіраўніцтву. В. Кубэ адчуваў сябе ў разадранай Беларусі поўнапраўным каралём. Трэба зазначыць, што ён стараўся быць прыхільнікам беларусаў. Паклікаў ён Раду Даверу зь беларускага актыву, дазволіў арганізацыю Саюзу Беларускае Моладзі, не пярэчыў існаваньню самааховы ў вёсках. Дазволіў арганізацыю беларускага пачатковага й прафэсыйнага школьніцтва. . . В. Кубэ, на дзіва



сваіх памагатых, наведваў раённыя цэнтры бяз большае асабістае аховы. Нават невялікая добра падрыхтаваная партызанская група магла лёгка зрабіць замах на гаўляйтэра. Але чамусьці партызаны былі бяздрадныя. . .

Ды вось у верасьні 1943 году Кубэ быў забіты мінаю ў сваім ложку. Падзею забойства гаўляйтэра савецкая прапаганда прыпісала ў заслугу А. Мазанік, якая працавала пакаёўкаю ў сям'і Кубэ. А. Мазанік прызналі ў Маскве гонар называцца гэроем Савецкага Саюзу. . .

Генэральным Камісарам Беларусі назначылі генэрала Готтбэрга. Першым мерапрыемствам нованазначанага камісара было акружэньне і арышт усіх людзей, што жылі ў блізкіх кварталах ад Генэральнага Камісарыяту. Нямаведама якога памеру дасягнула-б акцыя зьнішчэньня беларускага насельніцтва, каб не асабістая інтэрвэнцыя жонкі В. Кубэ — Аніты. Яна заявіла, што насельніцтва не вінаватае.

— Гэта сам Вільгэльм вінаваты. Зьвязаўся ён з распусьніцамі й Бог яго пакараў. . . — заявіла яна нямецкім уладам. Пагалоску гэтую пусьціў нехта з Генэральнага Камісарыяту зь невядомымі мэтамі. Гэтак яно, ці ня гэтак, аднак масавыя рэпрэсіі не адбыліся. . .

* * *

Калі распускалі прысьвіслацкі лягер інтэрнаваных, жыдоў ня выпусьцілі. Іх перавезьлі ў Менскую турму. Пасьля стварэньня жыдоўскага "гэто", іх перасялілі туды. Усю восень, пад аховай канваіраў, іх групамі ганялі на розныя працы па ўсім месьце.

Працавалі яны цяжка й задарма, толькі за кавалак хлеба. Невялікую групку жыдоўскіх дзяўчатаў прыводзілі на працу ў рэдакцыю. Тут яны працавалі пры пераборы папераў, якія на просьбу рэдакцыі былі прывезены з будынку Акадэміі Навук. Быў гэта архіў Інстытуту літаратуры й мастацтва, які выкінулі нямецкія салдаты, што пасяліліся ў будынку Акадэміі. Немцы ў халодную зіму таго году палілі ўсё ў жалезных печках пастаўленых у пакоях акадэмічнае ўстановы. Пасьля шматлікіх скаргаў беларусаў, немцы нарэшце дазволілі забраць рэшту папераў ды перавезьці ў рэдакцыю газэты. Ляжала гэтае папяровае сьмецьце без дагляду. Нарэшце прыдзялілі гэтых жанчынаў разьбіраць яго. Маладзіцы пачалі капацца ў тых паперах дастаючы ўсё, што нагадвала рукапісы ці нешта вартаснае. Кастусь паабяцаў кожнай жанчыне па бохану хлеба за добрую знаходку. Тыя стараліся, як маглі. Найбольш было розных канцылярскіх папераў — справаздачаў ды іншае пісаніны, але часамі трапляліся й рукапісы.

Няшчасныя жанчыны ня ведалі, што іх чакае ў недалёкай будучыні. Яны спадзяваліся на палепшаньне свае долі. Але на пачатку лістапада 1941 году неяк уначы немцы падвезьлі да "гэто" колькі аддзелаў свае паліцыі ды групы бяздушных забойцаў. Апошнія набіраліся з розных крыміналістаў. Перад сьвітаньнем яны занялі месца паводле раней выпрацаванага пляну й па сыгналу пайшлі

па хатах забіваць бязьвінных людзей: і старых, і малых, і жанчын, і дзяцей. Гэтыя забойцы выконвалі загад Гітлера пра канчатковае вырашэньне жыдоўскага пытаньня. Пачуліся стрэлы й за імі па ўсіх акружаных кварталах панесьліся людзкія крыкі й лямэнт аб ратунку. Людзі выбягалі з хатаў у чым спалі й беглі па вуліцы. Іх даганялі кулі й валілі на зямлю. На ходніках ляжалі забітыя. Страшэнны вэрхал працягваўся праз цэлы дзень. Забойцы шнырылі па кішэнях забітых шукаючы золата ды іншых каштоўнасьцяў...

Жанчыны з "гэта" ў рэдакцыю на працу ўжо не прыйшлі. Было ціха й нязвычна ў тым пакоі дзе ляжалі паперы. Цяпер ніхто тых папераў не чапаў і куча іх ляжала чакаючы пакуль выкінуць іх са сьмецьцем.

Глыбокім жалем ахінула душу Кастуся гэтая крывавая падзея. Гэта-ж былі людзі — кожны зь іх быў чалавекам, а чалавек, гэта гучыць горда, як казаў яшчэ за цара Максім Горкі. Кожны зь іх марыў аб лепшым. Моладзь імкнулася вучыцца. Шмат жыдоў паходзіла з працоўнага асяродзьдзя. Іхнімі папярэднікамі былі местачковыя краўцы ці шаўцы, вясковыя кавалі, рамесьнікі. Аб іх пісаў наш пісьменьнік Зьмітрок Бядуля. Іх пазабівалі... Ну, а дзеці!.. Калі малое дзіцянё працягвае рукі да чалавека ў надзеі дастацца да матчынай цыцкі, а ён пускае ў яго забойчую кулю, такому чалавеку — праклён. Нелюдзі без чалавечага блічча сталіся звырадзелымі забойцамі... Кастусю стала нават страшна думаць пра такіх нелюдзяў...

(працяг будзе)

Міхась Кавыль

## НЕ РАСКРАТАЮ СТРУН

Засьпяваць-бы вясёлую песьню —
Не раскратаю ў сэрцы я струн:
Дзень тут цешыцца радасьцю весьняй,
Там маю расстралялі сястру...

Я ня ведаю, ўночы, ці ўраньні,
Толькі ведаю — ружы цьвілі...
У бел-чырвоным у шлюбным убраньні
На магілу яе прывялі...

Прывялі... Вецер блытаў ёй косы...
Вочы кат ручніком завязаў...
У халодныя буйныя росы
Пакацілася зорка-сьляза.

Пакацілася. Зьнікла. Нікога...
Хто запаліць другую зару?
Завілася у цернях дарога
І мая і твая, Беларусь.



Праф. Якаў Каламінскі

## НЕВЯДОМЫ ЧАРНОБЫЛЬ

Афіцыйныя ўлады, ці як было прынята гаварыць на савецкім слэнгу — інстанцыі — пры гэтым вочы шматзначна ўздымаліся ўгару — упарта й злачынна ўтойвалі спачатку сам факт чарнобыльскага выбуху, а потым і жудасныя, катастрафічныя вынікі.

Гэтае трагічнае паведамленьне я пачуў у былой ГДР, у Ляйпцыгу, дзе я працаваў на факультэце псыхалёгіі ва ўнівэрсытэце, які тады насіў імя Карла Маркса: быў запрошаны на пачэсную пасаду — сымвалічнай кафедры імя Вільгельма Вундта, якога псыхолагі ва ўсім сьвеце называюць "бацькам псыхалёгіі".

Ужо 26 красавіка экраны заходня-нямецкага тэлябачаньня, перадачы якога ўсе мае знаёмыя ў ГДР тоячыся глядзелі так, прыкладна, як мы ў Менску слухалі радыёстанцыю "Свабода", былі запоўнены трывожнымі паведамленьнямі аб Чарнобылі, графікамі радыяактыўнага забруджваньня пацярпеўшых тэрыторыяў, малюнкамі зьнішчэньня сельгаспрадуктаў фармэрамі розных краін апаленых подыхам чарнобыльскай радыяцыі, — з адпаведнай урадавай кампэнсацыяй, вядома...

27 красавіка мясцовы псыхолаг Франц Шубэрт, які пераклаў адну з маіх кніг на нямецкую мову, запрасіў нас з жонкаю на вячэру ў адзін з традыцыйных паляўнічых рэстаранчыкаў. Я заўважыў, што два маладыя немцы, якія са сваім півам сядзелі насупраць, пагляд аючы на нас паўтараюць нейкае дзіўнае слова... Калі яны пайшлі, Франц спытаў:

— Вы зразумелі аб чым ішла гутарка?

— Не...

— Учора ў Вас у краіне ўзарваўся атамны рэактар. Недзе ў Чарнобылі...

— У Чарнобылі...

— Так, так...

Чарнобыль... Для ўсяго сьвету гэаграфічнае паняцьце, якое стала трагічным сымвалам і доказам таго, што ад прыроды трэба ўсё-ж такі, чакаць міласьці, а дакладней, літасьці, для мае радзімы Нароўлі... Што-ж там...

Што дома, на Беларусі? Кінуліся да тэлефону. Дачка, нават, зьдзівілася нашаму хваляваньню: у Менску ўсё спакойна, як быццам нічога й не здарылася. Потым ужо зьявілася кароткае, досыць сьціплае паведамленьне, наўмысна стрыманае паведамленьне ТАСС аб непаладках на Чарнобыльскай АЭС: урадавая камісія створаная, усе могуць быць спакойныя.

А 1-га мая, у дзень "усенароднага сьвята", і ў Кіяве, і ў Менску, нават у самых маленькіх раённых цэнтрах, і дарослыя, і дзеці былі, як заўсёды, мабілізаваныя на "добрахвотную" дэманстрацыю, дзе на іх галовы сьвяціла ня столькі ласкавае, вясновае сонейка, колькі ліліся атрутныя радыяцыйныя выпраменьваньні...

Глухое афіцыйнае замоўчваньне... Дзейнічаў надзейны, выпрабаваны дзесяцігодзьдзямі прапагандысцкі стэрэатып: усё добра ў краіне "разьвітога сацыялізма", а ўдзячны народ шчасьлівы пад сонцам сталінска-брэжнеўскай канстытуцыі...

І гэтая традыцыя ўтойваньня й маны "супакоіць насельніцтва", а можа замесьці сьляды, дае сябе адчуваць і сёньня. Няма згоды нават у звычайных, калі можна так сказаць, улічваючы жахлівы іх сэнс, лічбах. Перада мною тры дакуманты — афіцыйныя (і таму ананімная, а гэта значыць ніхто ні за што не нясе адказнасьці!) брашура, выдадзеная ў 1990 годзе ў менскім выдавецтве "Полымя" на расейскай і ангельскай мовах "Чернобыльская катастрофа и трагедия Белоруссии", артыкул "О последствиях аварии на Чернобыльской АЭС для Белорусской ССР (медицинские аспекты'", які належыць аж пяці аўтарам, першым зь якіх, у парушэньне алфавітнага парадку названы міністр аховы здароўя БССР Казакоў В. С. і прэс-рэліз на ангельскай мове "Навіны" пад красамоўнай назвай "Чарнобыль паставіў нашую нацыю на грань катастрофы — 7000 ліквідатараў ужо памерла". Што павінен думаць чытач, які захоча даведацца, колькі людзей на Беларусі жывуць на тэрыторыі для жыцьця небясьпечнай. Лічба амаль што асноўная, лічба якая вызначае маштаб катастрофы і, скажам адкрыта, меру неабходнай міжнароднай дапамогі, якую чакае наша краіна. Чытаем першы дакумант — афіцыйную двухмоўную брашуру — спачатку аб'ектыўныя й сапраўды жахлівыя лічбы: "У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС у зьнешняе асяродзьдзе выкінута больш 50 мільёнаў кюры розных радыянуклідаў, 70% гэтых рэчываў прыходзіцца на Беларусь. У Беларускай ССР радыяактыўнаму забруджаньню паддалося больш 18% яе тэрыторыі (1623 тысячы гэктараў)". А далей пачынаюцца, мякка кажучы, недакладнасьці: "У паражаных раёнах (5 з 6 вобласьцяў рэспублікі) знаходзяцца 27 гарадоў і 2697 насельных пунктаў (дарэчы, прэс-рэліз Дому дружбы ў Ню- Ёрку, які выкладае матэрыялы газэты "Набат", дае некалькі другую лічбу: 25 гарадоў і 2779 вёсак. Я. К.), дзе жыве больш 2 мільёнаў чалавек — звыш адной пятай насельніцтва Беларусі". Цудоўнае слоўца "больш". Што за ім стаіць? 999 тысяч ці 2-3 небаракі?

Артыкул міністра й кампаніі дае дакладную лічбу: "На тэрыторыі з плотнасьцю забруджаньня цэзіем-137 больш 1 ки/км² у рэспубліцы жыве 2,2 млн. чалавек, гэта значыць звыш адной пятай насельніцтва Беларусі. Прэс-рэліз дае яшчэ адзін варыянт, відаць найбольш рэалістычны. "З насельніцтва Беларусі ў 10 мільёнаў чалавек, сёньня 2,4 мільёнаў жывуць на тэрыторыі, якая моцна пацярпела ад выбуху". Каму верыць? Я думаю ўсё-ж такі апошнім зьвесткам. Мне



ведама, што толькі ў маёй роднай Гомельскай вобласьці радыяактыўнаму ўзьдзеяньню паддалося звыш 1,2 мільёна чалавек. Не магу ўстрымацца, каб не зазначыць, што тут асабліва пацярпелі найбольш блізкія да Чарнобыля — Брагінскі, Хойніцкі й мой Нараўлянскі раёны, дзе акрамя радыяактыўнага цэзія-137, выпаў строцый 90 і плютоній 239, паўраспад якога тысячы гадоў! Чаго-ж мы чакаем?

Яшчэ два яскравыя прыклады ўтойваньня, якія асабліва абураюць. Сапраўды, як нехта трапна зазначыў, лепшыя гатункі хлусьні рыхтуюцца з паўпраўды. Аўтары міністэрскага артыкулу надзвычай неахвотна й асьцярожна-далікатна зазначаюць: "Разам з тым, належыць прызнаць, што ў асобных насельных пунктах і ў асобных людзей ("у отдельных лиц") дозы абпраменяваньня перавышаюць устаноўленую норму, колькасьць гэтага кантынгенту складае больш 35 тысяч чалавек". (Хочацца тут запытаць аўтараў: а ці нармальны й зусім небясьпечны для здароўя гэты "установленый предел"? І яшчэ зазначыць: мы ўжо ведаем, што можа крыцца пад гэтым асьцярожным "более"). Што-ж гэта за "кантынгент"? Ізноў дайма слова аўтарам артыкулу. "Гэта, па-першае, асобы, якія ўжываюць, нягледзячы на забарону, забруджаныя ўласныя прадукты харчаваньня; па-другое, пераселеныя ў 1986 г. з бліжэйшых да АЭС насельных пунктаў; па-трэйцяе, рад жыхароў (як стрымана — можа, пад словам "рад" маюцца на ўвазе не тысячы людзей, а некалькі небаракаў? — Я. К.), якія жывуць на тэрыторыях з забруджаньнем па цэзію - 137 звыш 60 кюры на км²; і па-чацьвертае, асобы, якія прымалі ўдзел у ліквідацыі аварыі на АЭС. А далей нешта ці то зьдзек, ці то наўмысная дэзынфармацыя: "За гэтай катэгорыяй вядзецца пастаянны мэдыцынскі кантроль". Маўляў, не праймайцеся й не турбуйцеся людзі добрыя. Усё — О-кэй!

Зусім інакш асьвятляе праблему навуковы кансультант "Набата" праф. Аляксандр Мацко, які выступаючы ў Доме дружбы ў Ню Ёрку гаварыў пра лёс гэтых так званых ліквідатараў зь вялікім непакоем і болем. 7 тысяч былых ліквідатараў, гэта значыць маладых людзей, якія былі пасланы ў Чарнобыль без неабходнай ахоўнай вопраткі й якіх нават не папярэдзілі аб выніках радыяцыі, ужо памерлі. Тысячы іншых маладых хлапцоў цяпер хварэюць. Яны пакутуюць хваробамі пазваночніка, трацяць зрок, у многіх — імпатэнцыя. Аднак савецкія ўлады адмаўляюцца прызнаць факт, што гэтыя хваробы зьявіліся як вынік узьдзеяньня радыяцыйнага апраменяваньня, атрыманага ў час ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

— Як вы думаеце, — зьвярнуўся прамоўца да прысутных, — што адчуваюць маці гэтых маладых людзей да ўраду, па чыёй віне яны сталі ліквідатарамі?

Як гэта падобна на бюракратычную заўвагу аб "гэтай катэгорыі", за якой нібыта "вядзецца пастаянны мэдыцынскі кантроль".

Цяпер пра тых, што самі вінаватыя ў сваёй бядзе. Папытайце, "асобы, якія ўжываюць, нягледзячы на забарону, забруджаныя пра-

дукты харчаваньня". Тут дасьведчаным аўтарам трэба было-б спытаць у гэтых непаслухмяных ці ёсьць у іх чыстыя ад радыяцыі прадукты. І яшчэ — мала верагодна, што міністар аховы здароўя не ведае аб жахлівых інструкцыях, якія ў пэрыяд з 10 па 18 ліпеня 1986 году атрымалі "зьверху" аграпром СССР і Міністэрства аховы здароўя. Згодна зь імі трэба было перарабіць 45,000 тонаў мяса, атрыманага ў забруджаных радыяцыяй раёнах Украіны, Беларусі й Расеі. З гэтай колькасьці 29,000 тон былі апрацаваны на Беларусі. Згодна гэтай-жа інструкцыі неабходна было скарыстаць на Беларусі, Украіне й Расеі 2 мільёны тон малака ад таго-ж малочнага статку. Няма сілы пералічваць гэтыя канібальскія загады. Скажу толькі, што калі мы на Беларусі наліваем дзіцяці ў Менску ці ў Горадні, ці ў Брэсьце шклянку малака, сэрца сьціскаецца: а ці не атручваем мы яго сваёй-жа рукой. . . А правяраць нельга. Дэзімэтраў няма. Іх абяцаюць ужо шэсьць гадоў. . . І наўрад ці дадуць. . .

Сёньня аб Чарнобыльскай катастрофе многа пішуць і гавораць: безьліч журналістычных матэрыялаў, кінафільмы, тэлеперадачы, нават п'есы й аповесьці. Гэта, вядома, добра. Адно з дасягненьняў галоснасьці. Але, як кажуць, тут ёсьць пытаньні — можа ўзьнікнуць ураженьне, што аб Чарнобылі, аб яго жудасных выніках і праблемах "усё ўсім вядома", а калі так, дык, напэўна, прыняты дзейсныя меры, няма аб чым хвалявацца — гэта адна зь ілюзыяў, народжаных галоснасьцю. Галоснасьць, вядома, цудоўная рэч, але пры адной умове: яна павінна суправаджацца слухóмасьцю, калі можна так сказаць, гэта значыць — канкрэтнымі дзеяньнямі па выпраўленьні становішча. Чалавеку, які пакутуе ад болю, мала мець магчымасьць скардзіцца, крычаць і стагнаць — трэба, каб гэты лямант нехта пачуў і паклікаў "хуткую дапамогу". Ці ўсё ў парадку з дапамогай Беларусі? Як вядома, менавіта Беларусь атрымала ад Чарнобыля самы моцны ўдар. 70% усёй чарнобыльскай атруты ўпала на Беларусь. Назіраецца небясьпечная тэндэнцыя да распаўзаньня радыяактыўнай атруты. Апошнім часам у беларускіх газэтах публікуюцца карты раёнаў, у якіх забараняецца зьбіраць грыбы. Ізноў-такі ня ўся праўда: чаму толькі грыбы й ці ў грыбах справа? Але ёсьць такі аспэкт Чарнобыльскай катастрофы, аб якім і паўпраўды не вядома: гэта псыхалягічныя вынікі ўзьдзеяньня радыяцыі на чалавека наагул і на псыхіку дзіцяці ў прыватнасьці. Гэта сапраўдная "terra incognita" — "зямля невядомая" для сусьветнай грамадзкасьці. А яна павінна ведаць і разумець, чым пагражаюць экалягічныя катастрофы псыхічнаму становішчу чалавецтва.

Ужо першыя дасьледваньні, якія пачаліся са спазьненьнем на пяць гадоў, паказалі, што псыхіка людзей на забруджаных землях мае зараз сур'ёзныя паталагічныя зьмены.

26 ліпеня 1991 году ў Менскім мэдыцынскім інстытуце адбылася па сутнасьці першая навуковая канфэрэнцыя "Псыхічныя вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС", дзе побач з мэдыцынскімі абмяркоўваліся й псыхалагічныя аспэкты. Прывяду некаторыя даныя з



дакладаў, якія былі зроблены на гэтай канфэрэнцыі. Дасьледваньні паказалі, што ў 95% абсьледаваных людзей, якія жывуць у зонах "жорсткага апраменьваньня", маюцца псыхічныя парушэньні: гэта наўрозы, паталягічныя акцэнтуацыі характару, розныя формы дэзадаптацыі. У гэтых людзей адзначаны спалучэньне псыхасаматычных і арганічных зьмяненьняў, усе яны скардзяцца на галаўныя болі, хуткую стомленасьць, палавую слабасьць. Асабліва трывожна гучаць дадзеныя аб псыхічных зьмяненьнях у дзяцей. Адзначаецца астэнізацыя, затарможанасьць разумовай дзейнасьці, паталягічныя зьмяненьні памяці, увагі, павышаная раздражняльнасьць, галаўныя болі, апатыя, цяжкасьці ў наладжваньні сацыяльных кантактаў і міжасабовых зносін. Многія згубілі аптымізм і наагул сэнс жыцьця. Найбольш істотныя зьмены адбыліся ў псыхіцы дзяўчынак. І ўсё гэта вынік парадаксальнай жыцьцёвай сытуацыі, калі навакольнае асяродзьдзе ўспрымаецца, як нешта варожае й жахлівае. Як растлумачыць дзіцяці, чаму нельга есьці яблыкаў з дрэва, зьбіраць грыбы й суніцы, лавіць рыбу. . . нельга падставіць твар летняму ласкаваму дожджыку. . . Усё нельга — нельга — нельга. . . А што можна? . .

Як паказалі псыхалагічныя дасьледаваньні, людзі, якія жывуць у забруджаных зонах, па-рознаму рэагуюць на сытуацыі. Адны ўжо ні ўва што не вераць і зь ціхім адчаем чакаюць непазьбежнага. Другія, па мэханізму выцясьненьня, сьхільныя недаацэньваць небясьпеку: маўляў, вучоныя перабольшваюць, чорт мяне ня возьме! . . У 1990 годзе менскае выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусьціла зборнік своеасаблівай экалягічнай публіцыстыкі "Зона бяды", які амаль увесь прысьвечаны Чарнобыльскай бядзе. Я маю намер у далейшым прааналізаваць адлюстраваньне ў ёй псыхалагічных праблемаў. Але ўжо цяпер сёе-тое можна сказаць аб тым, што ў далейшым мабыць назавуць Чарнобыльскім сындромам. І абыякавасьць да небясьпекі, і радыяфобія, гэта-ж не інакш, як сацыяльна-псыхалагічная паталёгія. Асабліва яскравыя яе прыкметы намаляваў у сваіх "Запісках аб радыяцыі" Б. Сачанка. Дарэчы яны аставілі ў мяне найбольшае ўражаньне. Вось некаторыя з фактаў ігнараваньня небясьпекі.

"Думаю пра чалавечую натуру. У нашым Вялікаборскім сельсавеце ня ўсе палі й вёскі засыпаны аднолькава радыянуклідамі. Ёсьць і чысьцейшыя. І вось калі пасылаюць працаваць на чысьцейшыя палі людзей, многія адмаўляюцца — плата-ж меншая. Знайшліся й такія, хто з чысьцейшых вёсак перавёз у нашую свае хаты, каб атрымліваць надбаўку-"грабавыя".

І яшчэ пра тое-ж. Дыялог аўтара з братам Пятром, які жыве ў вёсцы.

— А мы, — кажа ён мне, — прывыклі ўжо да гэтай радыяцыі. Нават у "зону" часьцяком езьдзім.

— А ў "зону" чаго?

— Запчасткі бяром. Там-жа, проста на калгасных дварох, уся тэхніка паастаўлялася. І трактары, і сеялкі, і машыны. . . Ды і так багата чаго. То мы забіраем. . .

— Дык гэта-ж зараза. . .
— А ў нас усё цяпер з гэтай заразай. . . І ядзім-жа яе, і п'ём, і дыхаем ёю. . . Так што. Больш ці менш — гэта ўжо не мае значэньня. У нас вунь у вёску з Брагінскага раёну людзей перасялілі. Дык яны езьдзяць сеяць свае соткі, даглядаюць пасевы. А ўвосень адтуль і ўраджай прывозяць. . . Нічога, жывуць! Жылістыя палешукі, нішто ім не страшна. Нават радыяцыя. . .

У другой часткі людзей — іншая крайнасьць: у многіх узьнікла сапраўдная радыяфобія. У Б. Сачанкі ёсьць і аб гэтым. З размовы з братам:

— Я, як і некаторыя іншыя, сабраўся пакінуць вёску, — прызнаўся Грыша. — Запрашалі мяне ў адно месца, яшчэ да гэтай аварыі. Вось я й наведаўся туды. . .
— І што?
— Рукі нават ніхто не падае. Баяцца набрацца ад мяне радыяцыі. Уцякаюць, як ад заразнага. . .

Да аўтара прыехалі госьці зь вёскі. "Дзецюкі топчуцца ў парозе, не ідуць далей на хату, хоць я й запрашаю.

— Чаму вы такія нясьмелыя? — не вытрымліваю я.
— А ведаеце, — прызнаецца адзін зь дзецюкоў, — баімося гэтай радыяцыяй і вас заразіць. . .

І яшчэ адно сьведчаньне: "У час паездкі, — піша Б. Сачанка, — сустрэлі мы жанчыну, якая расказала: яе выкідвалі з чаргі, калі яна прызнавалася, што перасяленка з "зоны" — баяліся заразіцца, набрацца радыяцыі.

Ведама, тут да радыяфобіі далучаюцца прычыны сацыяльна-эканамічныя. Мясцовыя людзі, якім і так не соладка, баяцца, што перасяленцы вымусяць іх падзяліцца ежай, працай, жыльлём. . . Былы міністар адукацыі Беларусі М. Дзямчук расказаў мне, калі ішло абмеркаваньне праграмы псыхалагічнай дапамогі дзецям Чарнабыля, што нават у школах вучні — "абарыгены" часам адмоўна ставяцца да сваіх аднаклясьнікаў — перасяленцаў. Ня хочуць зь імі гуляць, адмаўляюцца сядзець за адной лаўкай. Нават мянушку прыдумалі: "чарнобыльскія вожыкі". Для яе ёсьць дзьве падставы — у друку прамільгнула паведамленьне аб тым, што ў "зонах" нараджаюцца жывёлы мутанты й сярод іх лысыя вожыкі без іголак. І другая, на першы погляд, супрацьлеглая — можа яны хочуць сказаць: "вы колецеся, як вожыкі сваёй радыяцыяй".

На адной з маіх лекцыяў аб Чарнобыльскай трагэдыі ў ЗША, слухачы нагадалі, што ў Японіі насельніцтва адмоўна ставілася да тых сваіх суайчыньнікаў, якія выжылі пасьля атамнай бомбы ў Хірасіме й Нагасакі. Яны атрымалі мянушку "Хібакуша". . . Палескія Хібакушы?!

І яшчэ адна сумная аналёгія: менавіта так ставіцца большасьць у ЗША да хворых на "Эйдс". У многіх узьнікла сапраўдная радыяфобія. І амаль ніхто ня верыць у лепшае будучае.



Недавер і расчараваньне нараджаюць варожыя адносіны ня толькі да ўлады, але й да мэдыкаў: "Мы ім як "падыспытныя трусікі". Насмокчуць у нас крыві для сваіх дысэртацыяў і паедуць! . . А вынікаў ніякіх!" Такія адносіны да мэдыкаў. А як сустракаюць псыхолагаў? На гэтае пытаньне адказу яшчэ няма: адзін з парадоксаў Чарнобыля ў тым, што псыхалагічныя дасьледаваньні й арганізацыя псыхалагічнай дапамогі зараз толькі пачынаюцца, ізноў-жа са злачынным спазьненьнем амаль на пяць гадоў. Нарэшце дзяржаўныя ўлады пачулі голас псыхолагаў і выдзелілі нейкія сродкі на псыхалагічную дапамогу пацярпеўшым ад радыяцыі дзецям. Распрацаваная праграма ўключае дыягностыку й псыхалагічную рэабілітацыю дзяцей, якія жывуць у зонах радыяактыўнага забруджаньня ды тых, якім пашчасьціла перасяліцца ў так званыя "чыстыя" раёны. Адносіны грамадзкасьці да гэтай і падобных праграмаў супярэчлівыя, амбівалентныя. Перш за ўсё, узьнікае законнае й натуральнае абурэньне: гэтых людзей трэба без затрымкі, як мага хутчэй перасяляць у сапраўды бясьпечныя раёны, забясьпечыць на новым месцы жыльлём, чыстым харчаваньнем, дзіцячымі садкамі й гэтак далей. Але для гэтага ў Беларусі не хапае сродкаў: спачатку ўлады ўпарта адмаўляліся ад міжнароднай дапамогі — маўляў, усё добра ў нас і так і толькі цяпер спахапіліся. На сапраўдную псыхалагічную дапамогу, дзейсную й кваліфікаваную, не хапае сродкаў, ні вопыту. Пачаць хоць-бы з кадраў: па дадзеных, якія прагучалі на канфэрэнцыі, аб якой я ўжо гаварыў, на ўсю Беларусь — толькі 23 клінічных псыхолагаў. Хто-ж будзе ажыцьцяўляць псыхалагічную дапамогу? Няма дыягнастычных лябараторыяў і рэабілітацыйных цэнтраў нават у такіх буйных местах, як Менск, Магілёў і Гомель. Востра патрэбны перасоўныя, мабільныя псыхадыягнастычныя й рэабілітацыйныя лябараторыі, змантаваныя ў машынах тыпу "хуткай дапамогі", якія маглі-б дабрацца ў самую глухую вёску, пацярпеўшую ад радыяцыі.

Хачу падкрэсьліць: ніхто, на жаль, не застрахаваны ад новага Чарнобылю ці ад чаго-небудзь падобнага. У інтарэсах усяго міжнароднага супольніцтва зрабіць з гэтай катастрофы навукова-практычныя вывады. Вопыт псыха-дыястастычнай працы й псыхалагічнай дапамогі ахвярам экалягічных і тэхнічных катастрофаў патрэбны ўсяму супольніцтву сьвету.

Да гэтага часу дапамога з розных краін сьвету, у тым ліку са Злучаных Штатаў Амэрыкі ішла па мэдыцынскай галіне. Мы бясконца ўдзячныя, напрыклад школе РАМАПО й шпіталю "Добрых самарытанак" з Суффэрка, якія ня так даўно паслалі ў Беларусь на мільён даляраў мэдыкамэнты ды данарскую кроў.

Падасьпела пара й для псыхалагічнай дапамогі. Сёе-тое ўжо ўдалося зрабіць. Днямі ініцыятыўная група на чале зь Ню Ёрскім псыхолагам доктарам Майкэлам Кісіным заснавала сумесную з нашымі псыхалогамі Асацыяцыю, у праграму дзейнасьці якой уваходзіць і вырашэньне псыхагагічных праблемаў Чарнобыля. Мы чакаем, што да нас далучацца й псыхолагі іншых краінаў.

Чарнобыльская катастрофа — гэта зьява глябальная, плянетарная, а для мяне гэта яшчэ й асабістая трагэдыя. Чарнобыльскі агонь амаль спаліў маю малую радзіму — Нароўлю, што над Прыпяцьцю, дзе я нарадзіўся, скончыў школу, дзе й зараз жывуць і атрымліваюць, як кажуць у народзе, "грабавыя" мае школьныя сябры й настаўнікі.

Попел Нароўлі стукае ў маё сэрца...

Анатоль Бярозка

* * *

**Тысячай воч палымяных, распаленых цемрай начною,**
**неба ўпілося ў зямлю; і на цяжкія ськібы ральлі**
**зорныя блескі упалі; плоймай злавесна-нямою**
**чорна у чорных барознах цені ліхія ляглі.**

**Ноч шапталася зь ветрам... За полем шырока ўзгараным**
**шэрыя хаты, бедныя стрэхі ў зьнямозе паснулі;**
**ў стрэхі неба ўпілося зьзяньнем зор палымяных...**
**Ноч шапталася зь ветрам... Так ціха... Ня чулі**
**сонныя стрэхі пахілых хат, закарэлыя рукі;**
**бо цяжкі мазоль тых рук, як цяжкія ськібы ральлі;**
**чорная доля, як чорны хлеб... У ёрмы прынукі**
**доўгіх вякоў ланцугі волатаў моц упраглі.**

**Тысячай воч палымяных неба упілося ў барозны,**
**ў ціхія хаты... У жорсткія рукі... У чорны іх хлеб і ў соль.**
**Шэрыя хаты, цьвёрдыя рукі — маўклівы і грозны:**
**гэтак ціха маўчаць умее толькі магутны боль.**



Марыян Пецюкевіч (Польшча)

## У ПОШУКАХ ЗАЧАРАВАНЫХ СКАРБАЎ

### УСПАМІНЫ

(працяг)

### ВІЛЕНСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ

Пра існаваньне Віленскай Беларускай Гімназіі ў першыню я й мае бацькі даведаліся ў 1922 годзе ад ксяндза — беларуса Віктара Шутовіча. Ён быў тады пробашчам нашага парыфіяльнага касьцёлу ў Барадзенічах. Жывучы ў такім захалусьці, як наша Браслаўшчына, цяжка было ў тыя гады даведацца, што дзеецца на сьвеце. Беларусь, беларускі народ, беларускае пытаньне для нас несьвядомых нацыянальна сялян, падзеленых праклятай гісторыяй на два варожыя лягеры — праваслаўных-«рускіх», і каталікоў-«палякаў», на мужычкоў польскай і рускай «веры», было нейкім абстрактным паняцьцем. Але там-сям на беларускай зямельцы, пасьля рэвалюцыі 1905 і 1917 гадоў пачалі прастаць зярняткі нацыянальнай сьведамасьці. У нашай ваколіцы засяваў гэтыя зярняткі кс. Віктар Шутовіч словам жывым і друкаваным пры дапамозе газэты «Крыніца» ды розных брашурак і зборнічкаў беларускай мастацкай літаратуры, пераважна выдаванай у Пецербурзе. Кс. В. Шутовіч атрымліваў беларускае друкаванае слова зь Вільні ад свайго сябры й земляка — ашмянчука кс. Адама Станкевіча Кс. Адам Станкевіч быў выдатным беларускім дзеячам каталіцкае арыентацыі. Між іншым быў ён адным з арганізатараў Віленскай Беларускай Гімнізіі й яе настаўнікам закону Божага для вучняў-каталікоў. Вось гэтыя кантакты кс. В. Шутовіча з кс. А. Станкевічам і давалі магчымасьць кс. В. Шутовічу арыентавацца, што творыцца ў Вільні — тагачасным цэнтры ўсёй беларускай нацыянальнай і культурнай працы на беларускіх землях акупаваных Польшчай.

Трэба сказаць, што нягледзечы на вельмі цяжкае матэрыяльнае палажэньне сялянства пасьля Сусьветнай вайны ды перамен палітычнага, эканамічнага й грамадзкага ладу ва Усходняй Эўропе, бацькі мае за ўсякую цану стараліся хоць-бы аднаго зь пяці сыноў навучыць нейкаму рамяству, ці хоць агульнай грамаце, каб у будучыні мог мець «свой хлеб».

Прыбліжалася восень, а за ёю пачатак школьнага году. Трэба было нешта канчаткова пастанавіць. Бацька Бронька Карсака быў цесьляром, працаваў на будовах пераважна па маёнтках або ў заможных гаспадароў. Даведаўшыся ад некага, што ў Вільні ёсьць польская гімназія ім. Адама Міцкевіча й дастаўшы яе дакладны адрас, аднойчы прыйшоў да нас і намовіў майго бацьку, каб мяне разам з Бронькам паслаць на ўступны экзамін. Маіх бацькоў пераканаў тым, што ў казённай гімназіі ня трэба плаціць за навуку, і што каштаваць будзе толькі кватэра ды харчы. Праўду кажучы, мне не хацелася ехаць на экзамін у гэтую гім-

назію, бо яна прадстаўлялася мне такой-жа, як дзісенская. Але іншай альтэрнатывы для мяне ня было: або паслухаць бацькоў і ехаць у Вільню ў польскую гімназію, або заставацца на вёсцы ды ісьці да дзеда Марціна валіць цяжкім молатам.

Я выбраў першае. За два тыдні перад пачаткам школьнага году, набраўшы з дому харчоў, падаліся мы з Бронькам у Вільню.

Затрымаліся мы ў маёй беднай цёткі, якая жыла зь сям'ёю на падстрэшшы драўлянага дому на беразе Вяльлі. Адсюль хадзілі мы на экзамін. Будынак гімназіі знаходзіўся пры вуліцы Адама Міцкевіча. Уся тутэйшая абстаноўка зьбівала нас з панталыку. Мы зусім разгубіліся. Экзамін не здалі нават з тых прадметаў, да якіх былі даволі падрыхтаваныя. Я здаецца здаў толькі зь геаграфіі й нямецкай мовы. Польскую мову праваліў. Прыблізна й Бронька меў такія-ж посьпехі. У панурым настроі вярнуліся мы да цёткі.

Перад ад'ездам у Вільню я зайшоў да кс. Шутовіча. На разьвітаньне ён даў мне пару злотых і два адрысы. Адзін быў да кс. Ад. Станкевіча, які жыў пры касьцеле сьв. Яна, а другі адрыс Віленскай Беларускай Гімназіі. (Вострабрамская 9). Пры гэтым сказаў: «Калі не пашанцуе здаць у польскую гімназію, ідзеце да кс. Станкевіча, ён ужо параіць вам што рабіць далей.

Ад цёткі мы падаліся да кс. Ад. Станкевіча. Пакуль мы трапілі да яго, то досыць доўга топалі па дзядзінцы кісьцёла сьв. Яна. Па нейкім часе зь дзьвярэй выйшаў даволі тоўсты, сярэдняга веку ксёндз і запытаў хто мы й каго тут шукаем. Мы адказалі яму нашай дзівоснай цяцерскай польшчынай, аж ксёндз усьміхнуўся. Кс. Адам загаварыў з намі на чыстай беларускай мове. Пры канцы нашай візыты кс. Станкевіч пачаставаў нас чаем і вясковым, духмяным хлебам намазаным топленым салам. Саладзілі сахарынай.

На другі дзень пасьнедаўшы, падаліся мы з Бронькам на Вострабрамскую 9. Калі мы мінулі адну й другую браму былўшага Базыльянскага манастыра, перад вялікім масыўным будынкам, мы ўбачылі шмат школьнай моладзі, судзячы па вопратцы й абутку, пераважна вясковай. Мы радасна з Бронькам пераглянуліся й зразумелі адзін аднаго, што мы тут, як у сваіх Цяцерках і Густаце. Чулася тут выключна беларуская мова розных дыялектаў.

Першы нас сустрэў на гімназіяльным ганку з суровым выглядам чалавек. Быў гэта, як пасьля мы даведаліся, інспэктар гімназіі — Мікола Красінскі. Ён завёў нас да дырэктара гімназіі Браніслава Тарашкевіча. Якраз у гэтыя дні Бр. Тарашкевіч прымаў абавязкі дырэктара гімназіі ад былўшага дырэктара М. Кахановіча. Тарашкевіч прыняў нас падзелавому, афіцыйна, але зычліва й сардэчна. Параіў, як трэба напісаць заяву ў гімназію й падаць у канцылярыю. Усе патрэбныя фармальнасьці мы выканалі й натхнёныя добрай надзеяй вярнуліся на сваю кватэру. Пару дзён мы рыхтаваліся да экзаменаў.

Здавалі мы экзамін у 4-ю клясу, бо ў ніжэйшыя клясы па сваім узросьце не маглі быць прынятыя. Нашы равесьнікі — мяшчане вучыліся ў 7-8 клясах.

Экзамінавалі нас такія настаўнікі: З роднай мовы — Максім Гарэцкі, зь геаграфіі — Генадзь Багдановіч, з матэматыкі — Іваноў, зь нямецкае мовы — Натальля Банцлебэн, з закону Божага — кс. Ад. Станкевіч. Хто экзамінаваў зь гісторыі Беларусі ды польскае мовы — не памятаю. Назаўсёды ў маёй памяці засталіся мае экзамінатары, а пазьней настаўнікі: М. Гарэцкі, Г. Багдановіч, Н. Банцлебэн і кс. Ад. Станкевіч. Гэтыя настаўнікі ўсёй душой, усім сэрцам пасьвяціліся сваёй пэдагагічнай і выхаваўчай працай беларускай моладзі ў духу здаровага патрыятызму.



Яны давалі веру й прышчэплівалі маладым душам любоў да роднага народу.

Асабліва запалоніў мяне М. Гарэцкі. Ён хіба першы зацерушыў у маю душу, у маё сэрца іскру любові да роднае мовы, да нацыянальнай культуры, да Беларусі. З гэтай іскры ўзьнік зьніч, які будзе гарэць да канца майго жыцьця. Як М. Гарэцкі, так і Г.Багдановіч у першым годзе маёй навукі ў Віленскай Беларускай Гімназіі былі змушаныя польскімі ўладамі пакінуць працу ў гімназіі ды выехаць зь Вільні ў Савецкі Саюз. У той год выехаў таксама ў Савецкі Саюз і былўшы дырэктар гімназіі М. Кахановіч. Віленская Беларуская Гімназія страціла выдатных пэдагогаў і выхавацеляў беларускай моладзі, будучых барацьбітоў за справядлівыя інтарэсы беларускага народу. Асабліва выезд М. Гарэцкага прычыніў вялікую страту ня толькі гімназіі, але ўсяму народу Заходняй Беларусі. Максім Гарэцкі аднак нядоўга цешыўся воляй на роднай беларускай зямлі.

Гімназіяльная моладзь у асноўным была беларуская, пераважна зь вёсак, але вучыліся тут і мяшчане. Найбольшы працэнт мяшчанскае моладзі быў жыдоўскае нацыянальнасьці. У меншай меры былі расейцы, татары й інш. Канфліктаў між моладзі на нацыянальным грунце не заўважалася, на перапынках ніхто нікому не перашкаджаў размаўляць на сваёй роднай мове. Навучаньне ўсіх прадметаў у гімназіі адбывалася выключна на беларускай мове, таму іншамоўная моладзь хутка апаноўвала беларускую літаратурную мову.

Вясковая моладзь знайходзілася ў найгоршым матэрыяльным становішчы, за выняткам дзяцей багацейшых бацькоў. Зрэшты, з вонкавага выгляду можна было даволі дакладна акрэсьліць, якая моладзь была ў лепшым, а якая ў горшым палажэньні. Мяшчанская моладзь лепей і прыгажэй апраналася ды лепш харчавалася. Сялянская моладзь такое выгады ня' мела.

Ад чацьвертай да сёмай клясы я вучыўся з такімі сябрамі: Янка Марцінчык — здаравяка, перарослы хлапец на клясу ў якой вучыўся. Паходзіў зь вёскі. Мікола Яцкевіч — сын сьвятара, вельмі працавіты й таму быў у ліку добрых вучняў. Перад вайною скончыў мэдыцынскі факультэт Віленскага ўнівэрсытэту Сьцяпана Баторыя. Зараз працуе лекарам, здаецца, у гарадзкім пасёлку Шаркоўшчына. Янка Марцінчык ня маючы магчымасьці далей вучыцца ў Польшчы, пайшоў праз граніцу ў Савецкую Беларусь. Ён хацеў там далей вучыцца ды працаваць для дабра свайго народу. Сьлед па ім загінуў, відаць быў зьнішчаны сталінскімі апрычнікамі. Васіль Станкевіч — музыкант. Ён іграў «на ўсіх інструмантах». Быў хлапцом бястурботным, блага вучыўся, полькае мовы ён добра ніколі не навучыўся, але быў добрым матэматыкам. Васіль, кончыўшы гімназію, разам са сваімі прыяцелямі падаўся ў Савецкую Беларусь. Але і аб іх сьлед застыў. Барыс Кавэрда — быў здольным, начытаным, інтэлігентным, але закрытым і панурым. Трымаў ён сувязь з расейскімі чарнасоценцамі. Пазьней ён паехаў у Варшаву й даканаў там злачынства. Ён застрэліў савецкага паўпрэда Войкава.

Да здольных вучняў нашае клясы залічаўся Станіслаў Станкевіч з Ашмяншчыны, віленскі мешчанін Хведар Ільяшэвіч, Зося Асаевіч і інш. Станіслаў Станкевіч кончыў Віленскі ўнівэрсытэт на факультэце гуманістыкі. Праз пару гадоў напісаў дактарскую дысэртацыю ў праф. Конрада Гурскага на тэму: Pierwiastki białoruskie w twórczości Adama Mickiewicza. Гэтая праца й сёньня высока цэніцца ў Польшчы. Хведар Ільляшэвіч быў здольным да навукі. З добрымі вынікамі ён скончыў Віленскі ўнівэрсытэт на аддзеле гісторыі. Напісаў ён магістэрскую працу аб друкарні Мамонічаў у Вільні. Арганізатарам сьмеху, жартаў і сатыры быў віленскі мешчанін

— Грышка Марголіс. Беларускай літаратурнай мовай валодаў добра. Лазар Абрамовіч — настаўнік закону Божага для вучняў юдэйскага веравызнаньня заўсёды лавіў Грышку на калідоры й змушаў ісьці на лекцыю закону Божага. Грышка хутка знайшоў спосаб, каб адчапіцца ад Лазара Абрамовіча. Ён на лекцыі садзіўся на першую лаўку, браў хлеб з салам і заядаў зь вялікім апэтытам. За гэта Лазар Абрамовіч выганяў Грышку з клясы. Тагды Грышка ішоў на пляц і гуляў у футбол.

У гімназіі вучылася многа здольнай і таленавітай моладзі. Паэтычнымі й красамоўнымі здольнасьцямі адзначаўся Франук Грышкевіч. Быў ён круглы сірата. Жыў у прытулку пры гімназіі. Скончыўшы гімназію паехаў у Прагу (Чэхаславакія) і там скончыў унівэрсытэт, здаецца літаратурны факультэт з тытулам доктара філязофіі. Вярнуўшыся ў Вільню быў «беспрацоўным інтэлігентам». У вайну быў ён дырэктарам Беларускай Віленскай Гімназіі. Па вайне арыштаванага вывезьлі ў Менск... Зьвярталі на сябе ўвагу сваёй палітычнай і нацыянальнай дзейнасьцю Лявон Баброўіч, Кузьма Янель, Радзюк. Кончыўшы гімназію яны таксама падаліся ў Савецку Беларусь, дзе здаецца ўсе бяз вынятку загінулі. Шкада шчырых хлапцоў, гарачых патрыётаў і здольных да навукі. Можа не адзін зь іх мог стаць вядомым вучоным і патрэбным Беларусі...

Для вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі, як для іншых беларускіх гімназіяў, у вышэйшых навуковых установах Польшчы месца ня было. Усе беларускія сярэднія школы ня мелі дзяржаўных правоў, былі прыватныя. Каб трапіць у вышэйшую навучальную ўстанову вымагалася мець дзяржаўны атэстат сталасьці. Каб атрымаць гэтую «паньствовую матуру» — трэба было здаваць экзамін за ўвесь гімназіяльны курс экстэрнам пры дзяржаўнай камісіі. Каб здаць экзамін экстэрнам для беларускіх кандыдатаў на атэстат сталасьці, мала было добрай веды, добрай падрыхтоўкі. Трэба было адмовіцца ад сваёй нацыянальнасьці. Лягчэй было біблейскаму вярблюду пралезьці праз вуха іголкі, чым беларусу праз гэтую камісію. Такім чынам Польшча паказвала сваю «культурнасьць і гуманнасьць» і то для людзей, якія з прад вякоў жылі на сваёй роднай зямлі...

Варта зазначыць, што матэрыяльнае становішча навучэнцаў Віленскай, а таксама й Радашкаўскай беларускіх гімназіяў было вельмі цяжкое ў першыя некалькі гадоў іх існаваньня. Цяжкое яно было ня толькі для навучэнцаў, але й для настаўнікаў. Эканамічны крызіс Польшчы надзвычай балюча адчувалі г. зв. «крэсы ўсходнія», якія зьяўляліся польскай калёніяй. Адсюль палякі высмоктвалі ўсё. Маса розных хамаў-«культуртрэгераў», паліцыі й шпікоў тварыла зьдзек над беларускім народам. У такіх абставінах стагнала беларуская вёска й незаможнае места. Такое палажэньне выклікала незадаваленьне й мабілізавала прыгнечаных на барацьбу з польскай уладай на нашай роднай зямлі. Польскія ўлады брутальна й па хамску нішчылі ўсё нацыянальна-беларускае, а асабліва беларускае школьніцтва. Палякі панічна баяліся нацыянальна сьведамых беларускіх масаў. Гісторыя паказала ідыётцтва такое шавіністычнае палітыкі адносна беларускага народу.

Дзейнасьць Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, а таксама іншых беларускіх арганізацыяў была цесна зьвязаная зь Віленскай Беларускай Гімназіяй. Актыўна ўключаліся ў дзейнасьць беларускіх арганізацыяў большасьць настанікаў і вучняў старэйшых клясаў. Маю на ўвазе вучнёўскую моладзь беларускае нацыянальнасьці. Гэтых удзельнікаў можна было падзяліць на два напрамкі (ў сэньсе ідэялягічным), на «левых» і «правых». У гады дзейнасьці «Грамады» падзел гэты быў даволі выразны. «Левыя» гуртаваліся каля «Грамады», а «правыя», пераважна каталіцкая моладзь, каля арганізацыяў беларускае хадэцыі (Хрысьціянскай дэмакратыі), якой духоўным кіраўніком быў кс. Адам Станкевіч. Меншая частка заглядалася на «Сялянскі саюз», якім кіравалі сэнатар Васіль Рагуля, пасол Фабіян Ярэміч і якісь час др. Янка Станкевіч. Згаданыя арганізацыі стараліся хоць скромна памагаць вучнёўскай моладзі, найчасьцей у форме закватэраваньня або нэндзных заработкаў. Напрыклад кс. Адам Станкевіч наняў на вул. Полацкай 9, вялікую кватэру й сюды прыймаліся найбяднейшыя вучні зь вёскі. Кватэранты-вучні, якія ні граша не плацілі за кут, былі пераважна каталікі з Ашмяншчыны, дзеці сваякоў і знаёмых кс. Адама Станкевіча ды ягонай гаспадыні — Марысі Шутовіч. Вось чаму прыватны «інтэрнат», у якім гуртавалася добрых пару дзесяткаў вучнёўскай моладзі ў асноўным і састаўляў «актыў» беларускай каталіцкай парафіі пры летувіскім касьцеле сьв. Мікалая. З вучняў складаўся й касьцельны хор. Трэба зазначыць, што ў хор належалі й іншыя ўдзельнікі, а кіравалі хорам пасьлядоўна — Антон Грынкевіч, Альбін Стэповіч ды рэдактар Янка Пазьняк. Моладзь таксама памагала ў распасюджаньні беларускіх выданьняў, асабліва калі разьяжджалася дамоў на канікулы.

Моладзь «каталіцкага інтарнату» ў асноўным харчавалася сухім правіянтам, дасланым ці прывезеным ад бацькоў. Раніцай і вечарам бывала кава. Абед, як папала. Часамі Марыся варыла суп, калі было сала на акрасу.

Ня лепш жылося й праваслаўнай моладзі, якая прыймала ўдзел у працах левых арганізацыяў. Сродкі, якія здабывалі гэтыя арганізацыі йшлі на актыўную працу, на выдавецтва, на прапаганду й г. д.

Але ў гэтых цяжкіх умовах гартаваўся моцны дух моладзі. У гэтай кухні рыхтавалася моладзь не на чыноўнікаў, не на панкоў, не на лёгкі хлеб, але на барацьбітоў за лепшую долю, за лепшую будучыню сваю й свайго сярмяжнага народу, які вякамі жыў пад прыгнётам нацыянальным і сацыяльным. Таму вучнёўская моладзь дабраахвотна, бяз прымусу, без агітацыі стыхійна ўлівалася ў арганізацыі, якія вялі ўсьведамляючую, культурную й палітычную дзейнасьць. Не чакала й не жадала ніякай матэрыяльнай заплаты за свой удзел у працах беларускіх арганізацыяў, ці то «правых», ці то «левых», бо была сьведамая, што спаўняе свой нацыянальны абавязак. Тут трэба яшчэ й яшчэ раз зазначыць, што польскія ўлады без пардону й аглядкі моцна прасьледавалі беларускі нацыянальны рух. З «правымі» непаслухмянцамі распраўляцца ня было так лёгка, бо можна было прасьледаваным нейкім чынам бараніцца ў судзе адпаведнымі параграфамі польскай канстытуцыі, якая быццам гварантавала нейкія правы нацыянальным меншасьцям да культурнай дзейнасьці. Як гэта ў тыя часы жартам і з насьмешкай казалі: «Польская канстытуцыя гарантуе беларусам права танцаваць «Лявоніху», але з польскімі прыпеўкамі». Затое ўдзельнікаў «левых» арганізацыяў, польскія санкцыйныя, адміністрацыйныя й школьныя ўлады грамілі без пардону, прыпісваючы нелегальную камуністычную дзейнасьць. Штопраўда, камуністычная плынь дзейнічала на арганізацыйнае жыцьцё «левых» у Заходняй Беларусі. Польскія санкцыйныя ўлады мелі наяўныя доказы, што дзейнасьць «левых» арганізацыяў фінансуе камуністычная партыя. Маючы «поўныя падставы й правы» да ліквідаваньня «roboty wywrotowej» без ніякага пардону, з усёй жорсткасьцю змабілізіваўшы паліцэйскі апарат, прыступілі да пагрому беларускіх «левых» арганізацыяў, у першую чаргу да ліквідацыі «Грамады». Арыштавалі шмат дзеячоў, у тым ліку й «нетыкальных»

сэнатараў і паслоў польскага парлямэнту на чале із старшынёю Браніславам Тарашкевічам. Запоўніліся «Лукішкі», а таксама астрогі на правінцыі. У ліку арыштаваных грамадаўцаў апынуліся й вучні Віленскай Беларускай Гімназіі. Некаторыя зь іх пасьля сьледзтва й суда ў гімназію ўжо не вярнуліся...

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ Й РЭЛІГІЙНАЯ РОЎНАСЬЦЬ

Як ужо сказана раней, нацыянальны й веравызнаўчы склад вучнёўскай моладзі, а таксама й настаўнікаў быў разнародны. з абсалютнай перавагай беларусаў праваслаўнага веравызнаньня. У сувязі з гэтым паўстае пытаньне, ці ўзаемная варожасьць нацыянальная й рэлігійная мела месца на груньце Віленскай Беларускай гімназіі, а таксама Радашкоўскай? Мы добра памятаем, як чужынцамі сеялася ўзаемная ненавісьць і нават трывалая варожасьць сярод нашага народу ягонай рэлігійнай рознароднасьці. Праваслаўных царская ўлада сваім магутным апаратам на чале з праваслаўным расейскім духавенствам усіх залічалі да «рускай» нацыянальнасьці, каталікоў — да «палякаў», мусульманаў да татараў. Індэнтыфікавалася: праваслаўны — рускі, католік — паляк. Адсюль паўстала «руская» і «польская» веры.

Вось гэтая «праўда», гэтая «тэорыя», зроджаная ворагамі нашага народу для сваіх палітычных і захопніцкіх мэтаў, яшчэ й сёньня дзе-ні--дзе ў зачадзелых і ачмучаных галовах перахоўваецца, як сьвятая запаведзь. Дзякуючы адпаведнай усьведамляючай працы беларускага патрыятычнага настаўніцкага актыву, гэтая шкодная «тэорыя» сярод моладзі нашай гімназіі ня мела месца. Розьніца веравызнаёвая не дзяліла беларускай моладзі на варожыя лягеры. З пашанай адносіліся да рэлігійнай прыналежнасьці і іх пачуцьцяў адных да другіх. Вычувалася пэўная талерантнасьць нацыянальная й рэлігійная. Праваслаўныя вучні звальняліся ад заняткаў на свае сьвяты, каталікі на свае, а майсеевага вызнаньня на свае. Кожнае веравызнаньне мела сваіх настаўнікаў па закону Божаму. Лекцыі закону Божага выкладаліся на беларускай мове, толькі для жыдоў парасейску, бо выкладчык ня ведаў беларускае мовы.

У той час (маю на думцы міжваенныя гады) калі шалеў польскі нацыяналізм на беларуска-жамойдзка-ўкраінскіх заходніх землях, калі польскае каталіцкае духавенства ад верху да нізоў праводзіла палянізатарскую акцыю супольна з усім дзяржаўным апаратам, калі вельмі рэзка выступаў рэлігійны антаганізм, у беларускай гімназіі шырылася рэлігійная талеранцыя (цярпімасьць).

Мала таго, хоць ведама было, што будуць прасьледаваныя праз каталіцкія духоўныя ўлады, некаторыя беларускія ксяндзы й праваслаўныя сьвятары, зьвязаныя зь Віленскай Беларускай гімназіяй і зь беларускім адраджэнска-вызвольным рухам, (як напр. кс. кс. Адам Станкевіч, Вінцук Гадлеўскі, Улад. Талочка, Ільдэфонс Бобіч, Янка Семашкевіч ды іншыя, сьвятары Пліс, Алякс. Коўш і інш.) стараліся закопваць пропасьць, якая разьдзяляла беларусаў праваслаўных і каталікоў. Яны на ўласную руку, рыскуючы перад сваімі духоўнымі ўладамі, праводзілі, як быццам экумэнічную работу. Як ведама, звычайна каталіцкае (польскае) духавенства на нашых землях і праваслаўнае — расейскае, або абруселае, жыло між сабою, як кот з сабакам. Канфлікты рэлігійныя й нацыянальныя маюць сваю шматвяковую гісторыю. Паглыбіліся яны яшчэ больш пасьля ліквідацыі Берасьцейскай рэлігійнай вуніі, якую мітрапаліт Язэп Сямашка распачаў у 1839 годзе. Гэтае «воссоединение»



з праваслаўнай царквой, як ведама праводзілася царскім апаратам у вельмі жорсткай форме. Узаемная нянавісьць чужога нашаму народу духавенства праваслаўнага з каталіцкім асягнула найбольшую вышыню пасьля паўстаньняў, калі праваслаўнае духавенства апынулася на баку царскай рэакцыі, а каталіцкае ў варожым для цара лягеры. Нярaз прыходзілася бачыць, як праваслаўны духоўнік праходзячы ля касьцёла не ўшаноўваў сьвятыні зьніманьнем капялюша, а каталіцкі ксёндз таксама не ўшанаваў праваслаўнай сьвятыні. І як адны, так і другія не заходзілі ў не «свае сьвятыні», не кажучы ўжо пра ўдзельнічаньне ў набажэнствах. Ня толькі самі адны другіх баяліся, як дзьяблы сьвянцонай вады іншага веравызнаньня і ўзаемных кантактаў, але й сурова забаранялі сваім адзінаверцам, уключна да экскамунікі й праклінаньню анафеме. У гэты-ж час мы сустракалі ў Вільні такія малаверныя факты: кс. Адам Станкевіч дружыў са сьвятаром Аляксандрам Каўшом і пры сустрэчы пабратэрску абдымаліся й цалаваліся; кс. І. Бобіч, кс. Ул. Талочка ў сьценах Віленскай Беларускай Гімназіі — сустракаюцца й пасяброўску сардэчна вітаюцца з выкладчыкамі закону Божага іншага веравызнаньня, напр. з пратаерэем Плісам, рэктарам праваслаўнай духоўнай сэмінарыі Язэпам Дзічкоўскім, сьвятаром Кульчыцкім, з настаўнікам юдэйскага закону Божага Лазарам Абрамовічам і прадстаўнікамі іншых веравызнаньняў, як стараверскага, пратэстанцкага. Мала таго, а. А. Коўш удзельнічае ва ўрачыстых днях кс. А. Станкевіча, як імяніны, юбілей 25-годзьдзя сьвятарства і г. д. У сьвяткаваньнях беларускага нацыянальнага сьвята, апрача сьвецкіх акадэміяў адбываліся багаслужэньні ў царкве, у касьцеле сьв. Мікалая, у сынагодзы. Вучнёўская моладзь, настаўнікі гімназіі і беларускае грамадзтва Вільні грэміяльна прымае ўдзел ў рэлігійных багаслужэньнях прысьвечаных сьвяту. Прысутныя на багаслужбе (пры канцы) адсьпеўвалі гімн «Божа, што калісь народы на асобы падзяліў». На багаслужэньнях прысьвечаных нацыянальнаму сьвяту, ці з прычыны пачатку школьнага году і ў царкве і ў касьцеле ўдзельнічалі ўсе жадаючыя бяз розьніцы веравызнаньня. І мы маглі бачыць, як кс. Адам Станкевіч пры заканчэньні праваслаўнага багаслужэньня падыходзіў да алтара й разам з усімі цалаваў крыж, а за ім падыходзілі прысутныя каталікі й прыкладаліся да праваслаўнага крыжа. А на каталіцкім багаслужэньні мы бачылі а. А. Каўша ці Кульчыцкага, якія з павагай маліліся, кладучы на сябе праваслаўны крыж шырокім размахам рукі. Такія прыклады збліжалі аднакроўных братоў, парозьненых варожым духавенствам, якое служыла ня столькі інтарэсам Божым, колькі сваім асабістым...

## ПАСТУПОВАЯ ЛІКВІДАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ГІМНАЗІЯЎ

Ня будзе самахвальствам, калі скажу, што будучы вучнем Віленскай Беларускай Гімназіі, я даволі шырока разгарнуў, як у нас казалі, беларускую работу ў сваім вясковым асяродзьдзі. Мая вёска Цяцеркі й суседняя парафіяльная Барадзічы сталіся цэнтрам беларускай культурнай і палітычнай дзейнасьці, якая праменявала можна сказаць, амаль на цэлы Браслаўскі павет.

Для таго, каб наша дзейнасьць мела легальны характар, каб лепш было бараніцца перад польскімі адміністрацыйнымі й паліцыйнымі ўладамі, мы арганізавалі ў Цяцерках гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры да якога належала моладзь і Беларускага Сялянскага Саюзу. Як адна, так і другая арганізацыя мелі свае цэнтралі ў Вільні. Моладзь і старэйшае пакаленьне хоць і напатыкалі ў сваёй

працы бязупынныя перашкоды й шыканы, усё-ж рабіла вялікую культурную, усьведамляючую нацыянальна работу. Пашыралася друкаванае слова й беларуская народная песьня, ставіліся на сцэнах п'есы, дэманстравалася беларускае нацыянальнае адзеньне. Былі саматужна арганізаваныя беларускія бібліятэкі. Трэба шчыра сказаць, што вялася чыстая беларуская праца, якая была карыснай і патрэбнай нашаму народу. У нашым асяродзьдзі ня было ні здраднікаў ні рэнэгатаў...

Пакуль не паявіліся «добрыя» й «благія» апякуны, хоць і ў вельмі цяжкіх умовах, дзьве апошнія беларускія гімназіі (Віленская й Радашкоўская) працавалі нармальна й пачэсна выконвалі свой абавязак, рыхтуючы ў патрыятычным духу моладзь — прышлых сьведамых і адважных барацьбітоў за лепшае заўтра свайго народу. Роля беларускіх нацыянальных кузьняў з кожным днём рабілася нязноснай для ворагаў беларускага адраджэньня. І гэтыя адвечныя ворагі пастанавілі ўсімі даступнымі сабе сродкамі, уключна да нізкай і нахабнай правакацыі, ліквідаваць гімназіі. Ворагі папросту баяліся росту беларускай інтэлігенцыі, таму пільна шукалі спосабы ліквідаваць беларускія гімназіі.

Пачалася дэмаралізацыя моладзі, адрыў яе ад кніжкі, ад навукі. Усьлед за гэтым пайшлі арышты, паліцэйскі тэрор, запужваньне. Зьявіліся сярод моладзі (на шчасьце нешматлікія) адзінкі правакатараў, а таксама супрацоўнікі з уладамі сярод настаўнікаў.

Ужо ў **1926-27** годзе Віленская Беларуская Гімназія была рэарганізаваная. Засталося толькі **7** клясаў. Восьмую клясу зьліквідавалі. Пасьля заканчэньня 7 клясаў Віленскай Беларускай Гімназіі, я падаўся ў Радашкоўскую Беарускую Гімназію, у якой была восьмая кляса. Праз 9 месяцаў я здабыў атэстат Радашкаўскай Гімназіі.

Сярод лета, калі я памагаў на бацькавай гаспадарцы й абдумваў як перайці ў Чэхаславакію, неяк нечакана зьявіўся да нас польскі паліцыянт і загадаў мне зьбірацца ў дарогу. (Відаць паліцыя пранюхала, што я зьбіраюся ўцякаць за мяжу). Уся сям'я ўстрывожылася, маці з горкімі сьлязамі падрыхтавала мне ў хатуль бялізну й харч, а брат запрогшы каня завёз мяне й паліцыянта ў Браслаў. Адсюль без аглядкі трапіў я ў 1-шы полк легіёнаў у Вільні.

## СІЛУЭТЫ НЕКАТОРЫХ НАСТАЎНІКАЎ ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

Думаю, што мэтазгодна будзе назваць некаторых настаўнікаў і ў меру магчымасьці коратка ахарэктарызаваць іх, як пэдагогаў, і як грамадзянаў.

За гады маёй навукі ў Віленскай Беларускай Гімназіі, як кажуць, зьмянілася аж чатыры дырэктары. Калі я прыехаў на ўступныя экзаміны ў гімназію, застаў яшчэ дырэктарам М. Кахановіча, які ўжо перадаваў абавязкі дырэктара Браніславу Тарашкевічу. У сувязі з выбраньнем яго ў паслы польскага сойму, Тарашкевіч дырэктарам быў коратка. На яго месца прыходзіць настаўнік фізікі й матэматыкі інж. Антон Нэканда Трэпка. Яму давялося даўжэй кіраваць гімназіяй. Пазьней новым дырэктарам стаў Радаслаў Астроўскі.

Пра кожнага можна сказаць нямала, асабліва пра Астроўскага, бо пры ягоным дырэктарстве я вучыўся найдаўжэй. Старшыя вучні казалі пра Кахановіча, што быў гэта добры настаўнік чулы выхаваўца. Меў адну загану, ён любіў перакуліць поўна налітую чарку моцнай гарэліцы-весялушкі. Меў ён вельмі прыгожую жонку.



Кахановіч быў выбраны ў польскі сойм, і гэта змусіла яго адмовіцца ад дырэктарства гімназіі. Зарплата яго высока павялічылася, і Кахановіч зусім расьпіўся. Былі выпадкі, калі знаходзілі яго лежачым на вуліцы... Добра ня ведаю, дабравольна, ці пад націскам польскіх уладаў, Кахановіч легальна праз Гданьск выехаў у Савецкі Саюз. Які лёс сустрэў яго там, сказаць цяжка, але відаць такі, як усіх іншых беларускіх дзеячоў.

Браніслаў Тарашкевіч таксама нядоўга выконваў абавязкі дырэктара гімназіі. У ніжэйшых клясах ён ніякіх прадметаў не выкладаў. У старэйшых — лацінскую мову і, здаецца, беларускую літаратуру. Яго веда ў галіне беларускай філялёгіі была вялікая й грунтоўная. Выкладаў ён, як казалі вучні старэйшых клясаў — цікава. Моладзь яго любіла — быў ён чулы на патрэбы, даступны, добры. Шмат увагі ўдзяляў школьнаму хору й розным самадзейным гуртком. Вучні любілі яго й шанавалі. Калі разгарнулася шырока палітычная дзейнасьць, Тарашкевіч пакідае гімназію, але кантактаў зь ёю не зрывае. Я меў прыемнасьць быць у кампаніі пасла Браніслава Тарашкевіча. Бацькі яго — сяляне жылі ў вёсцы Чарнулішкі, каля Вільні. Прыяжджаючы да бацькоў крыху адпачыць, Тарашкевіч заўсёды наведваў у Лаварышках кс. Янку Семашкевіча, які пісаў беларускія вершы пад псэўданімам Янка Быліна. У Быліны я гасьцяваў некалькі разоў. Кс. Семашкевіч быў ведамы са сваёй дасьціпнасьці й весялосьці, як з рукава сыпаў народным гумарам. Аказваецца, што й мой дырэктар, у гімназіі паважны, часам нават суровы, тут у кватэры Быліны быў простым дасьціпным, находлівым субяседнікам. Ягоныя гумарыстычныя апавяданьні, абразкі й прымаўкі былі надзвычайныя. Зварачаў на сябе ўвагу ў гутарках на паважныя тэмы. Я. Быліна казаў: «Бранюк мудрэйшы за Салямона».

Пасьля Браніслава Тарашкевіча, нейкі час кіраваў гімназіяй інж. Антон Нэканда Трэпка. Быў ён чалавекам грунтоўнай веды ў галіне фізікі й матэматыкі, добры пэдагог, добры чалавек, але даволі нэрвовы й хуткі. Меў сьхільнасьць да перабольшваньня малых фактаў, арганізацыйна-адміністрацыйных здольнасьцяў ня меў.

Апошнім маім дырэктарам (1926 г.) быў Радаслаў Астроўскі. Быў гэта вельмі энэргічны, быстры чалавек, дасканалы арганізатар і адміністратар. Дысцыпліну паставіў у гімназіі амаль вайсковую. Выгляд меў суровы, але часам прасьвечвалася ўсьмешка. Крочыў па калідорах гімназіі, як камандзір на парадзе. Ня ведаю, ці хто яго любіў, але баяліся ўсе. Як настаўнік — быў выдатны. Вельмі цікава праводзіў лекцыі матэматыкі й астраноміі.

Пакуль моладзь не ўцягнулася ў палітычную дзейнасьць «Грамады» ды іншых акцыяў, дысцыпліна й узровень навукі ў гімназіі былі даволі высокія. Выпусьнікі Віленскай Беларускай Гімназіі ў Чэхаславаччыне лічыліся добра падрыхтаванымі да навукі ў вышэйшых установах. Але, калі перастаў дырэктар быць дырэктарам, а вучні вучыцца, то й узровень ведаў навучэнцаў абніжыўся. Пачаліся непаладкі, балаган і тэрор. Гэта быў пачатак ліквідацыі гімназіі, гімназіі з чыстым беларускім абліччам.

Варта затрымацца на апісаньні настаўнікаў гімназіі, найперш тых, якія найглыбей засталіся ў маёй памяці.

Пра ксяндза Адама Станкевіча, як чалавека й выдатнага дзеяча беларускага нацыянальнага й культурнага адраджэньня ў Заходняй Беларусі, было-б кашчунствам пісаць коратка ў гэтых успамінах. Яго імя заслужыла на тое, каб нехта з ма-

ладых, чэсных беларускіх патрыётаў напісаў доктарскую дысэртацыю пра яго. Ён адзін з найбольшых і непахісных маякоў беларускага нацыянальнага й сацыяльнага адраджэньня беларускага народу.

Думаю, што ня будзе перабольшаньня, калі скажу, што ў калектыве пэдагогаў Віленскай Беларускай Гімназіі, праз усе гады яе існаваньня, ня было яму роўнага. Ягоныя адносіны да вучняў былі і бацькоўскія, і сяброўскія. Быў ён добрым настаўнікам і вельмі разумным, дыпляматычным выхаваўцам. Ягоныя лекцыі закону Божага ці лацінскай мовы, былі прыемныя й карысныя. Ягоныя лекцыі закону Божага выкладаліся без падручнікаў. Гэта былі вельмі займальныя філязофска-людзкія, жыцьцёвыя прыемныя бяседы. Мэтай ягоных лекцыяў было пасееньне ў душы моладзі любові да свайго народу, здаровае й глыбокае маралі, этыкі, гуманізму, любві да працы, якая выцякае з хрысьціянскага навучаньня.

Ксёндз Адам ((як яго ўсе называлі), быў простым, беспасрэдным, сяброўскім. Характэрнай рысай яго было дзяліцца апошнім кавалкам хлеба са сваімі вучнямі, або патрабуючымі дапамогі. Ксёндз Адам ніколі не зрываў кантактаў з моладзяй, якая вучылася ў Віленскай Беларускай Гімназіі ці на ўнівэрсытэце Стэфана Баторага ў Вільні. Быў ён зьвязаны й з студэнтамі-беларусамі, якія вучыліся за межамі. Калі хто з вучняў па сваёй незаможнасьці ня мог аплаціць вызначанай сумы за навуку, а такіх было нямала, асабліва выхадцаў зь вёскі, то як-жа часта кс. Адам вытрасаў апошнія злотыя са свайго партфэля...

Па выезьдзе Максіма Гарэцкага ў Сав. Беларусь, беларускую мову выкладаў Антон Луцкевіч. Родную мову ды літаратуру, Луцкевіч выкладаў умела й цікава. Ён умеў таксама, як і М. Гарэцкі, распаліць агонь у маладых сэрцах гарачай любові да свайго роднага краю ды народу, да сваёй культуры. Ягоныя лекцыі былі вельмі зьмястоўныя, цікавыя, займальныя ды карысна ўзбагачалі нашую веду пра родную мову й літаратуру. Ён умеў вельмі сугэстыўна падаваць матэрыял. Ягоныя паясьненьні тэмаў шырака выходзілі за рамкі прадбачанай праграмы.

Гледзячы сёньня з пэрспэктывы часу на асобу Антона Луцкевіча й ягонага брата Івана, перажываем вялікую крыўду й абурэньне на тых, якія так хлусьліва прадстаўляюць і зьневажаюць заслужаных дзеячоў нашага народу. Хто-ж, як не пакаленьне Луцкевічаў і іхных сучасьнікаў, працярэбліваў сьцежкі й выводзіў з джунглі цемры ды несьвядомасьці наш народ і паказваў яму сьвятло й вучыў разам з Я. Купалам, Я. Коласам, праф. Эпімах-Шыпілам **людзьмі звацца.** Яны, тое пакаленьне заслужыла на народную пашану, на пачэснае месца ў сапраўднай гісторыі нашага народу.

Апрача пералічаных духовых атрыбутаў Антона Луцкевіча, хочацца яшчэ сказаць, што быў гэта чалавек вялікай і глыбокай культуры, якая праменявала ад яго на асяродзьдзе ў якім ён прабываў. Яго паглынальная натура прымала для сябе ўсё ўзьнёслае й лепшае з культуры Захаду, дзе ён пабываў. І гэта, мабыць, не аднаго хамуйлу дражніла, разіла, і пры нагодзе за ягоную культурнасьць упікалі.

Па нейкім часе беларускую й расейскую мовы пачаў выкладаць Міхаіл Заморын. Скуль ён узяўся, я ня ведаю. Па сваіх паводзінах быў гэта тып царскага афіцэра. У гімназіі ён стараўся стварыць рэкруцкую дысцыпліну.

Расейскую мову ён ведаў добра, а беларускую, відаць, вучыўся, вучачы нас. Яго беларуская вымова была штучная й чужая для нашага вуха. Ужыцца з вучнямі ня змог. Такім і застаўся...



Агульную гісторыю выкладаў Савіцкі, на йимя, здаецца, Янка. Быў ён добрым пэдагогам, свой прадмет ведаў грунтоўна й сваю веду ўмеў перадаць вучням. Савіцкі меў прывычку чытаючы лекцыю стаяць ля печы й грызьці пазногці. Шукаючы лепшых варункаў працы й жыцьця, падаўся ў Менск. Сьлед па ім загінуў...

Найбольш «пацешнымі» настаўнікамі былі: Іваноў, Сяняўскі, Каліноўскі й Данілевіч.

Настаўнік Іваноў быў расейцам. Крыху падвучыўшыся беларускай тэрмінагегіі, выкладаў матэматыку. Быў добры спэцыялістам-настаўнікам. Ведама было, што ён гадаваў козы. Вучні даведаўшыся пра «гоббі» Іванова, заводзілі зь ім жарты. Няраз, асабліва Янка Марцінчык, пачынаў расказваць настаўніку пра яго суседзкія козы, і Іваноў іншы раз слухаў гэта доўга й уважна.

Ів. Сіняўскі быў выбуховым, крыклівым, гвалтоўным у рухах. Ня меў ніякага дару настаўніцкага майстэрства. Вельмі нэрвовы. Быў неахайным, заўсёды меў брудныя рукі, часта не галіўся, а як выходзіў зь клясы, то ўвесь быў вымазаны крэйдай.

Вальдэмар Каліноўскі, настаўнік польскай гісторыі быў чалавекам добрым, лагодным. Чытаючы лекцыі, падручнік трымаў пад самым носам. І гэта заўсёды. Пры адказах вучні таксама клалі перад сабою падручнік польскай гісторыі й чыталі слова ў слова. За гэта праф. Каліноўскі публічна хваліў апытанага ды казаў сядаць.

Настаўнік Данілевіч, які выкладаў фізыку, быў чалавекам немаладым, старым кавалерам. Яго фізычную прэзэнтацыю можна акрэсьліць адным словам: «бядалага». Блізарукі, хадзіў павольна, клышавы, размаўляў таксама павольна. Як пэдагог быў добры з грунтоўнымі ведамі. Меў свае дзівацтвы, і вучні гэта добра падмячалі. Адзнакі ставіў надзвычай нізкія, на пратэсты не зважаў.

Таксама ў гіназіі зьвярталі вялікую ўвагу на песьню й музыку. Існаваў добра арганізаваны школьны хор. Кіравалі хорам выдатныя знаткі гэтага мастацтва, як Егер, Рыгор Шырма, Альбін Стэповіч ды іншыя.

Рысаваць вучыла Ніна Сасноўская. Мілая, зь вялікай культурай і пэдагагічнай ведай мастачка. Мела цяжкасьці з утрыманьнем дысцыпліны.

Драматычным гуртком кіраваў Мікола Красінскі, пасьля М. Шчапановіч і Францішак Аляхновіч, беларускі драматург.

Успомніў я маленькую частку той багатай у розныя факты гісторыі Віленскай Беларускай Гімназіі. Некаторыя мамэнты могуць быць супярэчлівыя, бо мінула ад таго часу шмат гадоў. Гімназія існавала ў нялёгкі час, і такія настаўнікі, як Алёна Сакалова да апошніх дзён існаваньня гімназіі гэраічна змагаліся за кожную душу нашай моладзі, каб яна ня трапіла ў янычары.

Будучыя гісторыкі яшчэ скажуць сваё важкае, цікавае слова пра існаваньне Беларускай Гімназіі ў Вільні, якая закончыла сваё слаўнае жыцьцё ў 1944 годзе...

(працяг будзе)

---

КОЖНЫ БЕЛАРУС ПАВІНЕН АДВАЖНА Й САМААХВЯРНА

ЗМАГАЦЦА ЗА ПОЎНУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ СВАЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!

---

Васіль Будзімер (Нямеччына)

# СЯЛЯНСКАЕ ЗЕМЛЯКАРЫСТАНЬНЕ НА БЕЛАРУСІ

## 1. Становішча беларускага сялянства да лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.

Беларускі селянін адвечна марыў аб сваім уласным куску зямлі з выгаднаю сялібаю, чыстаю смачнаю вадою для піцьця, урадлівымі нівамі й сенажацямі, ды добрымі памеркаванымі суседзямі. Ажыцьцяўленьне гэтых мараў было вялікай, радаснай падзеяй у жыцьці, сьветлым сьвятам, ад якога вёўся падлік гадоў народжаным і памерлым у сям'і, прызваных у войска й іншым важным здарэньням.

Недарма наш выдатны паэт Якуб Колас у сваёй цудоўнай паэме «Новая зямля» так вобразна й прыгожа, з таленавітай аналізай сялянскіх думак-мараў праўдзіва адлюстраваў прагавітую смагу зямельную панскага лясьніка Міхася й яго брата Антося.

Калі мы зробім невялікую экскурсію ў гісторыю землякарыстаньня на Беларусі, то пераканаемся, што ад часу вызваленьня ад панскага прыгону да новай калгаснай паншчыны толькі шчасьлівыя адзінкі, перамагаючы надзвычайныя цяжкасьці, змаглі наладзіць сваё сялянскае жыцьцё паводле сваіх думак і жаданьняў.

Не патрэба асобных доказаў і прыкладаў, каб беспамылкова пераканацца, што нашае сялянства, вызваленае ад прыгону й надзеленае зямлёю маніфэстам цара Аляксандра II у 1861 годзе было моцна пакрыўджана. Самыя горшыя землі абшарнікі аддалі ў надзелы былым прыгонным. Неўрадлівыя пяскі, часта за дзесяцьпятнаццаць кілямэтраў ад сялібаў, ды балоты з кіслаю асакою й лазьняком, былі «дараваны» сялянам у выкананьне міласьцівага маніфэсту цара-вызвольніка. За гэтыя царскія й панскія ласкі сяляне абавязаны былі выплачваць кошт зямель на працягу пяцідзесяці гадоў. Выкупілі і ўсе заплацілі! А між іншым нашы прадзеды й дзяды мелі бязумоўнае права й бяз выкупу атрымаць сваю зямлю.

Крыўды былі ў той час адсунутыя ў бок, хоць паасобныя паўстаньні на Віцебшчыне, Магілеўшчыне асабліва, як трывожныя зарніцы, асьвятлялі небасхіл. Слаўнае паўстаньне ў 1863 годзе пад правадырствам Кастуся Каліноўскага, гэта першая спроба беларускіх сілаў із зброяю ў руках здабыць незалежнасьць, бязумоўна мела мэтаю справядліва вырашыць у першую чаргу сялянскае пытаньне. Не дарма-ж Кастусь Каліноўскі паўстанскую газэту назваў «Мужыцкай праўдай». Паўстаньне было здушана. Крыўда нязьнята, няпрыкрытае ашуканства пры надзяленьні зямлёю пасьля скасаваньня прыгону засталося, і выклікала справядлівы недавер сялянаў да абшарнікаў і рознага роду чыноўнікаў. Недавер, як ліхая спадчына, так і застаўся назаўсёды.

Устойлівасьць сялянскіх гаспадарак ня была абаронена спэцыяльнымі разумнымі законамі, як гэта было й ёсьць, прыкладам у Нямеччыне. Таму ня выпадкова, ужо ў першых гадох нашага стагодзьдзя ў вёсках амаль зьніклі моцныя з поўнымі надзеламі гаспадаркі. Як толькі ў сем'ях павялічваліся дарослыя, якія ня мелі іншых спосабаў жыцьця, як земляробства, сялянскія сем'і прыступалі



амаль бяз вынятку да падзелу зямлі й іншай маемасьці.

У выніку такіх падзелаў у вёсках не хапала месца на сялібах для будаўніцтва хатаў новым гаспадаром. У такіх выпадках узьнікалі паралельна з старымі сядзібамі новыя вёскі-выселкі. Такое зьявішча вельмі выразна можна бачыць у вёсцы Лучнікі, якая знаходзіцца ля самага места Слуцку, або ў вёсцы Языль у чатырох кілямэтрах ад Старога Урэчча (на Случчыне). Гэтыя вёскі сталі «двух і трох - павярховымі». Вузенькія ніўкі дзялілі ўжо ня ўздоўж, а аддзельнымі кускамі ўпоперак, бо барана была шырэйшая за ніўку й займала-б сваімі зубамі паласу суседа. Гэтыя сямейныя падзелы гаспадарак выклікалі між братамі й блізкімі родзічамі сваркі й бойкі, судовыя справы, якія цягнуліся гадамі й бязумоўна выклікалі толькі непатрэбныя траты сродкаў і часу. Новыя маламоцныя гаспадаркі прымацоўвалі да сябе селяніна й трымалі яго на становішчы галоднага паўпралетара, які хапаўся за ўсякую выпадковую працу, каб пракарміць сям'ю. Ён наймаўся ў парабкі да абшарніка за самую нізкую аплату, ехаў у Данецкія вугальныя капальні (з Магілёўшчыны) на цяжкую працу шахцёра, працаваў на высеках і сплавах лесу, наймаўся арцелямі на цяжкія земляныя працы на будовах чыгунак. Не выпадкова-ж ведамы расейскі пісьменьнік Някрасаў у сваёй паэме «Жалезная дарога» так спагадліва адазваўся аб беларусу землякопу. Сапраўды, беларускімі рукамі будаваліся тагачасныя чыгункі.

Больш адважныя, маладыя й здаровыя пакідалі сваю няласкавую бацькаўшчыну й ехалі за акіян у далёкую Амэрыку, Канаду й Аргентыну, каб там на чужыне знайсьці лепшую долю й дабрабыт. Бальшыня эмігрантаў ставілі сабе за мэту на самай цяжкой працы загараваць неабходныя сродкі, вярнуцца на бацькаўшчыну, каб там набыць зямлю й уласны кут. Войны, акупацыі ды савецкі серп і молат шмат каго затрымалі на чужыне назаўсёды.

Гэтым толькі можна тлумачыць шматлюдную беларускую старую эміграцыю ў ЗША.

Тыя, што мелі працаздольныя сем'і, шукалі ратунку ў арэндах зямлі, якую бралі ад дробных земляўласьнікаў. За грошы, на палову ўраджаю й іншыя варыянты аплаты за права апрацоўваць чужую зямлю, асяляліся арэндатары. Мэта была адна: праз пятнаццаць-дваццаць гадоў цяжкай працы, ашчаднасьці ўва ўсім, абмежаваньняў самых неабходных патрэбаў, зьберагчы сродкі, пасьля набыць зямельную ўласнасьць, каб спакойна дажыць працоўны век на сваёй зямлі й каб дзеці ўжо не валачыліся па сьвеце.

А хто падлічваў той беларускі народ, які з торбамі на плячох, за многа дзесяткаў кілямэтраў шукаў новыя землі на бязьмежных былых лясных абшарах магнатаў кн. Гоэнлёгэ, гр. Плятэраў, Гамаліцкіх і іншых.

Лес у векавых пушчах быў бязьлітасна зьнішчаны й вывезены за межы краю, а пасекі з пнёў'ем засталіся. Сярод гэтых пнёў'яў на Бабруйшчыне, Ігуменшчыне, Барысаўшчыне ды амаль на ўсёй лясной Беларусі шукаў народ працы на зямлі.

За гаротныя сродкі ды пры дапамозе банкаўскага крэдыту набывалася пасека. Селянін пакідаў цесную вёску, прадаваў нярухомую маемасьць і з сваім скарбам і сям'ёю перабіраўся на новую зямлю. Каб пабудаваць сваё жыцьцё на гэтых, часта й добрых землях, патрэбна была сіла, упартасьць ды вытрымка перанесьці цяжкія ўмовы жыцьця першага дзесятка гадоў. Выплаціўшы крэдыт, пабудаваўшыся, перабраўшы кожны кусочак зямлі матыкаю, ачысьціўшы пасеку ад карчоў,

можна было ўжо спадзявацца на дабрабыт. І запраўды, праз шэраг гадоў на дзікіх пнёў'нях пакутнікі стварылі квітнеючыя хутары, засьценкі, пасёлкі. Шырокая паласа гэтых паселішчаў з заможным сялянскім жыцьцём, цягнулася па абодвых бакох старой шашы пачынаючы ў некалькі кілямэтрах ад Слуцка, аж да самай рэчкі Арэсы й далей на паўдня да балотаў Любаншчыны.

Знайшлі сабе месца беларусы, асабліва з Магілёўшчыны, на землях далёкага Сібіру, куды было арганізавана, хоць і дрэнна, перасяленьне, так званым перасяленчым камітэтам расейскай дзяржавы.

Аднак усе гэтыя пошукі зямлі не маглі вырашыць цалкам зямельнага пытаньня на Беларусі. Першая Сусьветная вайна зь яе зьнішчэньнямі, доўгатрывалым фронтам на абшарах нашай бацькаўшчыны, прымусовым бежанствам, канчальна падарвалі экономіку вёскі, пакінуўшы пажарышча, калючы дрот, незасыпаныя акопы, калекаў, удоў, сірот ды бязыменныя магілы па бакох вялікіх дарогаў.

Поруч з малазямельнай вёскай вялася гаспадарка ў маёнтках абшарнікаў. Урадлівыя палі, сакавітыя мурожныя, або заліўныя сенажаці, тысячы гэктараў цудоўных бароў, танныя рабочыя рукі стварылі ўсе ўмовы, каб маёнткі на Беларусі сталі нявычарпальнай крыніцай розных сельска-гаспадарскіх прадуктаў. З боку абшарнікаў неабходна было толькі стараньне, каб далёка не адстаць ад тэхнікі й тых агранамічных мерапрыемстваў, якія ўжываліся ў сельскай гаспадарцы на Захадзе. На добры лад абшарнікі абавязаныя былі пабудаваць цэлы шэраг прадпрыемстваў у маёнтках па пераапрацоўцы й кансэрвацыі сырых прадуктаў зямлі, садоў, гародаў. Прадукцыя такіх прадпрыемстваў, як крахмальні, масласыравары, сушыльні фруктаў і гародніны, алейні знайшлі-б збыт, а млыны, цагельні, чарапічныя заводы памагалі-б эканамічнаму росту краю. Наагул, усякія прадпрыемствы нясуць прагрэс, даюць рух уперад, а галоўнае далі-б працу бязьзямельнаму сялянству, чым паслабілі-б на вёсцы бяду й галечу.

Праўда, Беларусь мела досыць густую сетку бравароў. Але бравары не працаёмкія прадпрыемствы й прыносілі даход толькі абшарнікам. Сьпірт меў добры збыт, а сыравіна для яго — бульба, вельмі ўрадлівая на нашых глебах. Нашы паны-абшарнікі ня думалі аб дабрабыце краю, на далёкай адлегласьці стаялі ад народу, вялі ў бальшыні лёгкадумнае жыцьцё, раськідаючы ды прагульваючы аграмадныя сродкі за межамі й на розных «цёплых водах».

## 2. Змаганьне сялян за зямлю пасьля лютаўскай рэвалюцыі — арганізацыя саўгасаў і земляўпарадкаваньне.

Беларускае сялянства нездаволенае было палітычнымі й эканамічнымі парадкамі ў расейскай дзяржаве. Вёска спадзявалася, што рэвалюцыя павінна ўнесьці нейкія зьмены ў ейнае незайздроснае жыцьцё. Асаблівую надзею на рэвалюцыю ўскладала бяднейшая частка вёскі й бясправаўныя парабкі маёнткаў. Адны спадзяваліся атрымаць зямельныя прырэзкі да сваіх вузенькіх ніўкаў, а ў другіх ўваскрэсьлі надзеі на атрыманьне зямельнай собскасьці, якую мела даць ім бяз выкупу дзяржава.

Вось-жа з такімі настроямі спаткала вёска лютаўскую рэвалюцыю 1917 году, а разам зь ёю й беларускае сялянства, што было апранута на розных франтох у салдацкую шынэль. Таму й ня дзіўна, што з рэвалюцыяй у вёсках, воласьцях,



паветах узьніклі розныя зямельныя камісіі й камітэты. Агульнае зьбядненьне вёскі штурхала сялян шукаць выхаду. Такім выхадам была зямля. Трэба было яе знайсьці й засеяць за ўсякую цану. Думалася, што хто пасее, то той і пажне. Так гаварыла народная мудрасьць.

Аднак на Беларусі не заўсёды жалі тыя, хто сеялі. Войны й акупацыі пасьля рэвалюцыі прынесьлі вёсцы яшчэ большыя спусташэньні, боль і смутак людзям. Адныя агітавалі за захоп зямлі, адначасна накладаючы сваю цяжкую лапу на абшарніцкія маёнткі й утвараючы там савецкія гаспадаркі. Прыходзілі другія й жорстка каралі, а то й проста бяз суду зьнішчалі нарушальнікаў замельнай собскасьці.

З прыходам савецкай улады замест маёнткаў паўставаў саўгас. Перамяніўся толькі шыльд, а ў саўгасах працавалі тыя-ж бясправаўныя парабкі. Адносіны да акаляючага сялянства ні ў чым таксама не зьмяніліся: як і пры абшарніку саўгас за высокую часьць для сябе здаваў малазямельным сенажаці, за карыстаньне пашаю зь вёскі сьцягвалася плата грашыма або адработкам. За невялікія патравы саўгаснай собскасьці накладаўся штраф. Савецкія суды таго часу за дробныя ўчынкі каралі сялян прымусовай працай у тых-жа самых саўгасах.

Усвоіўшы добра няхітрую дыялектыку прапаганды, што ўсё належыць да народу, у тым ліку й савецкая гаспадарка, сялянству зусім не падабалася й вядзеньне гаспадаркі ў саўгасе. Прыкладам, для сялян зусім незразумелым было, чаму на Случчыне на багатых урадлівых глебах, замест патрэбнай людзям пшаніцы, уся зямля ў саўгасах засявалася кармоваю травою «ежа». Як насельне гэтай «ежы», так і самая трава вывозілася за межы Беларусі. Кіраўнікамі саўгасаў назначаліся ў бальшыні самадуры або людзі, якія ніколі ня бачылі, адкуль бярэцца хлеб. Так у вадзін з буйнейшых саўгасаў Беларусі, што знаходзіўся ў Узьдзёнскім раёне, назначаны быў новы кіраўнік. Прыймаючы запасы збожжа ў саўгасным сьвірне, ён вельмі зьдзіўлена спытаў свайго папярэдніка: «Нашто саўгасу трэба трымаць у сьвірне цэлыя два засекі перцу?» Гэты небарака-кіраўнік вялізарнай савецкай гаспадаркі насеньне вікі палічыў за перац. А між іншым ён быў добрым спэцыялістам у іншай галіне працы. Людзі бачылі гэта ўсё, бачылі, што дабрабыт перанаселенай, малазямельнай і абяднелай вёскі зусім не палепшыўся за кошт вялізарных уладаньняў былых маёнткаў.

Землі дробных хвальваркаў былі перададзеныя ў часовае карыстаньне парабкам і безьзямельным сялянам. Але-ж не ў ваўсіх мясцовасьцях былі гэтыя фонды. У пошуках зямлі бедната пачала расчышчаць і раскарчоўваць лясныя плошчы. Гэта было вельмі пашырана ў лясных частках нашага краю. У лесе аблюбоўвалі зручныя мясьцны, асабліва былі да гэтага прыдатныя зарасьлі клёну, арэшніку, грабу. Зарасьлі з дрэвамі нішчылі сякераю й агнём, матыкаю й граблямі з большага падрыхтоўвалася зямля й засявалася надзвычайна ўрадлівым на такіх навінах просам.

Невялікая плошча такой пасекі забясьпечвала сям'ю смачнаю пшоннаю кашаю. Пасевы проса рабілі падлесную зямлю пухкай і прыгоднай да пасеву жыта восеньню, якое таксама давала ладныя ўраджаі. Лапінкі ворнай зямлі ў лясох павялічваліся, гаспадары ўрэшце кідалі няўтульныя вёскі зь нявыгоднымі сялібамі і ўкрадкам перавозілі свае хаты з маемасьцю на новую зямлю, якая шчодра аплачвала хлебам іхную цяжкую працу. Такіх высяленцаў у вёсцы жартам называлі «дызэртырамі». Улады прабавалі весьці змаганьне з гэтым самавольствам,

але ў тыя часы ня мелі пасьпеху. У многіх мясцох прыходзілася лічыцца з фактам існаваньня гэтых пасяленцаў, і пры земляўпарадкаваньні гэтым бедаком былі выразаныя пасёлкі й хутары.

Пад уплывам прапаганды і ў пошуках лепшага жыцьця ў першыя гады ўлады саветаў бесшабатныя гультаі на чале з ідэалістам-шукальнікам раю й справядлівасьці на зямлі арганізоўвалі ў былых маёнтках камуны. Шырокага распаўсюджаньня камуны ня мелі. Вынікі жыцьця й іх разьвіцьця былі канфузныя. Калі ў камунах запасы харчоў праелі, а маемасьць маёнткаў расьцягнулі, «камунары» паміж сабою пасварыліся, камуна развалілася й яе сябры разыйшліся, хто куды.

У другой палавіне 1923 году, з разваротам новай эканамічнай палітыкі, як вынік сялянскіх паўстаньняў і нездаваленьня савецкай харчовай разьвёрсткай, паўстала пытаньне аб прывядзеньні ў нейкую сыстэму землякарыстаньне на вёсцы. Насьпела патрэба правядзеньня земляўпарадкаваньня. Немагчыма было па два разы на год дзяліць і перадзельваць зямлю, што была перададзена з запасных фондаў. На Беларусі ня прывыклі да перадзелаў зямлі, як гэта было ў Расеі пры абшчынным карыстаньні зямлёю. Нарэшце трэба было новым гаспадаром адвесьці сялібы, каб даць ім магчымасьць прыступіць да будаўніцтва.

Народны Камісарыят земляробства на Беларусі ўзначаліў у той час энэргічны й талковы Дзьмітра Прышчэпаў. Будучы беларускім нацыяналістым, селянін па паходжаньню, былы настаўнік, ён вельмі добра ведаў, чаго хоча вёска. У мінулым Прышчэпаў належыў да партыі сацыялістых рэвалюцыянераў, меў здаровы практычны розум. Хадзілі чуткі, што Прышчэпаў пасьля захопу бальшавікамі ўлады прыймаў удзел у паўстаньні супраць саветаў. Яго судзіў вайсковы трыбунал і тады галаву яго ўратаваў на нейкі час адзін зь сяброў трыбуналу. Будучы ўжо народным камісарам земляробства, Прышчэпаву ўдалося пабыць у Даніі і ў Нямеччыне. Ён пабачыў там высокі ўзровень сельскай гаспадаркі, заможнае й незалежнае жыцьцё данскага фармэра й нямецкага баўэра. Пад ўражаньнем высокага ўзроўню сельскай гаспадаркі на Захадзе ў Прышчэпава зрадзіліся пляны цэлага раду мерапрыемстваў; ён лічыў неабходным тэрмінова правесьці земляўпарадкаваньне спачатку зямель, якія былі ў часовым карыстаньні, а далей перанесьці гэтую працу ў вялікія вёскі. Прышчэпаў прызнаў і пераканаў іншых, што найлепшай і найбольш практычнай формай землякарыстаньня на Беларусі павінен быць пасёлак ня больш дваццаці гаспадарак. Хутар дапускаўся, як вынятак у выпадках зямельных укліньваньняў у лясы або іншыя дзяржаўныя землі на ўскраінах, прызначаныя да ўпарадкаваньня зямельных плошчаў. Надзяленьне зямлёю ў пасёлках праводзілася ў залежнасьці ад колькасьці душ у сям'і, аднак ня менш пяці гэктараў на гаспадарку зь сялібай да гэктара вялічынёю.

Прачуўшы пра надыходзячыя работы па ўпарадкаваньню зямель, будучыя пасялкоўцы яшчэ загадзя неафіцыйна правялі падрыхтоўчую працу. Яны абмеркавалі й намецілі пункты для сялібаў пасёлку. Усё было прадугледжана й прадумана, бо ад добрага месца паселішча ў значнай ступені залежыў і далейшы пасьпяховы развой гаспадаркі й лад сярод пасялкоўцаў. Для паселішчаў падбіраліся мясьціны паблізу рэчкі, руцявіны, нават проста балотца. Прадбачыўся таксама зручны выхад жывёлы з пасёлку, блізкі выезд на вялікую дарогу. Хацелася, каб пасёлак быў пабудаваны ў зацішку пры ляску з добрымі мясьцінамі для садоў і гародаў. У доўгія зімовыя вечары зьбіраліся людзі на гутаркі, на якіх падбіраліся склад і назовы пасёлкаў: Ліпнікі, Садкі, Каледзічы, Крутнікі, Лужкі, Дуброўкі,



Арэхаўкі і іншыя. Тады яшчэ ня чуваць было пра розныя пяцігодкі, чырвоныя зоры, сонечныя канстытуцыі. Назовы даваліся простыя, натуральныя, беларускія.

Каморнікам — земляўпарадчыкам людзі памагалі ў працы шчыра й ахвотна. Як толькі былі адведзены месцы для паселішчаў і вызначаны паасобныя сялібы для гаспадарак, пасялкоўцы ліхаманна прыступалі да будаўніцтва. Пры дапамозе братоў, сватоў ды добрых суседзяў, на сялібах пасёлкаў расьлі, як грыбы пасьля дажджу, хаціны, часта без саней ды іншых патрэбных да жыцьця ўладжаньняў. Для жывёлы на сьпех будаваліся, калі не хлявушкі, дык хоць падпавеці, абы ня ліло зьверху. Будаўлянага матэрыялу было мала, а шмат чаго зусім не хапала. Супольна, па суседзку, капалі калодзежы на некалькі гаспадарак. Новым гаспадаром абрыдла мінулае жыцьцё, няўпэўненасьць, бадзяньне па сьвеце, таму ўсе стараліся як мага хутчэй абсталявацца на сваёй сялібе, на сваёй зямлі, якая была нанесеная каморнікам на пляне й запісаная, як асабістая собскасьць. Турботаў было шмат, бо новымі гаспадарамі былі былыя парабкі ды найбяднейшая частка вёскі. Цяжкасьці палягалі яшчэ ў тым, што апрача абмежанасьці сродкаў, ня было магчымасьці дастаць той, ці іншай рэчы. Аднак неяк на скора пабудаваліся, абзавяліся хоць і невялічкімі конікамі, кароўкамі, авечкамі або парасём, абсеяліся, зьбіраючы, часта гарчыкамі, насеньне. Думалася жыць, працаваць ды гадаваць на сваёй ужо зямлі.

## 3. Пасёлак — найлепшая форма землякарыстаньня на Беларусі.

Праз тры-чатыры гады шчырай і упорыстай працы на пасёлку, пры ўсякіх нястачах і няпоўнасьцях, якімі напоўнена жыцьцё «савецкіх» людзей, усё-ж такі шмат якіх гаспадарак на пасёлку ўжо трудна было пазнаць. На сялібах завяліся садочкі, гароды, пчолы, пашырыліся на хуткую руку пабудаваныя хлявушкі для цялят, парасят, ягнят. Завялася хатняя птушка. Амаль усе хаты мелі сенцы й іншыя гаспадарскія прыбудоўкі. Весялей і паважней выглядалі гаспадары — пасялкоўцы, бо яны адчувалі сябе собсьнікамі. Ува ўсім адчуваліся пачаткі дабрабыту. У сем'ях панавала ціхая сялянская ўцеха й радасьць з прычыны добрага ўражаю жыта, ярыны, сопкай бульбы, прыплоду жывёлы. Пасялковец ведаў, што праца ягоная й сям'і ўложана не дарэмна. Хоць і цяжка было, але час нясе няўхільнае палепшаньне долі ўсёй ягонай сям'і.

І пасёлкам аспрэчваў пяршынство на лепшую й выгаднейшую форму землякарыстаньня ведамы ўжо нашаму селяніну сталыпінскі хутар. Аднак назіраньні й хоць кароткі тэрмін жыцьця на пасёлках прывялі шмат каго да пераканаmaking, што пры ўсіх дадатніх бакох хутарскага жыцьця пасёлак мае больш переваг, чымся хутар. Разьбяром дадатнія й адмоўныя бакі працы й жыцьця пасёлку й хутару, бо вялікую вёску мы катэгарычна адкідаем, і нам здаецца, што гэта ня выкліча ніякіх спрэчак.

Хутар — гэта адзінота. На адзіноце людзі знаходзяцца пад нейкай гіпнозай заўсёднага страху. Думкі іх накіроўваюцца на як найлепшае ўмацаваньне свайго хутару-гарадзішча. Абносяць яго моцным плотам-частаколам з замкамі-запорамі, трымаюць сярдзітых злых сабакаў. Хутаранін трывожыцца за цэласьць сваёй собскасьці, ён баіцца быць абкружаным, абрабаваным, урэшце забітым. Ён падазрона прыслухоўваецца да ўсякага скрыпу, шораху, брэху сабакаў. У хутаранскай сям'і складаецца характар падазронасьці да людзей, асабліва да незнаёмых, новых.

Хутар на адзіноце можа быць на доўгі час беспаможным у няшчасьці, пры раптоўнай хваробе, пажары. Хутаране далёкія ад агульных інтарэсаў грамады й не станаўкія ў вабароне ейных інтарэсаў. Ягоная хата заўсёды «з краю».

Дзеці і моладзь на хутары пачуваюцца самотнымі. Іхныя гады праходзяць без сяброўства й гульняў. Хутар патрабуе шмат дзіцячай працы — функцыю пастухоў нясуць на хутары звычайна дзеці. Праўда, і на пасёлку дзеці пасуць жывёлу, але там ня выключана магчымасьць мець агульнага пастуха; апрача гэтага ў пасёлку дзеці-пастушкі пасуць разам і праводзяць час на гульнях, уласьцівых іхнаму веку. Не дарма перад Першай Сусьветнай вайной разумны й далёкабачны для інтарэсаў царскае імпэрыі царскі дзяржаўны муж і старшыня рады міністраў, П. Сталыпін шляхам розных палёгкаў і прывілеяў хутару прыняў станаўкія крокі ў кароткі тэрмін растрыбушыць неспакойную вёску на хутары. Сталыпін добра разумеў, што хутар нёс заможнасьць шматзямельнаму селяніну. Сталыпін, праводзячы зямельную рэформу, строга ахоўваў недатыкальнасьць земляў абшарнікаў. Пры расьсельваньні вёскі на хутары агульная зямельная плошча не павялічвалася й таму малазямельны вясковец атрымліваў хутар вялічынёю ў два гэктары. Ясна, што на такім хутары не разжывешся. Бедны зямлёю хутаранец залежыў ад шматзямельнага, знаходзячы сабе там заработак.

Аднак Сталыпін дасягаў таго, што, выдзяляючы на хутар і бяднейшыя гаспадарска вёскі, гэтым разьбіваўся й агульны фронт нездаволеных, якія пасягалі яшчэ ад часу рэвалюцыі 1905 году на землі абшарнікаў. На Беларусі сталыпінская рэформа шырака была праведзеная ў Магілёўшчыне й Віцебшчыне, а агульна ведама, што на хутарох была найбольшая няпісьменнасьць.

Пяройдзем да разгляду пасёлку. Пасялковец, як і хутаранец, пазбаўлены прыгнечваючага ціску вялікай вёскі. У вядзеньні сваёй гаспадаркі ён індывідуальны, ягоная ініцыятыва абсалютна нічым ня зьвязаная, як і хутаранца. Шырокая й выгодная сяліба дае магчымасьць заняцца садоўніцтвам, гародніцтвам, пчалярствам, птушкаводзтвам у залежнасьці ад собскага жаданьня й нахілу. Пасялкоўцы вядуць шматпольную палявую гаспадарку, бо землі пасёлку пры ўпарадкаваньні разьбіваюцца на пяць або восем палёў. Аднак пасялковец ня можа стаяць у баку ад карысных мерапрыемстваў усяго пасёлку. Агульнымі сіламі пасёлку лёгка правесьці новую, або адрамантаваць старую дарогу, пабудаваць мост, пракапаць канавы, асушыць балота, лягчэй агульнымі сродкамі набыць складаную сельскагаспадарскую машыну, зарганізаваць каапэратыву, пажарную ахарону, малачарню, правесьці электрыфікацыю. Сярод пасялкоўцаў куды лягчэй праводзіць такія культурна-асьветныя мерапрыемствы, як кіно, радыё, чытальні, арганізацыю рознага роду гурткоў, спартовых таварыстваў, дзіцячых садкоў.

Усё гэта, так неабходнае й патрэбнае ў сучасным жыцьці грамады, зусім даступнае пасёлку. Пры правядзеньні гэтых мерапрыемстваў на хутары сустрэнуцца непераможныя перашкоды нават пры добрай волі й высокай сьведамасьці самых хутаранцаў.

Нам могуць паказаць на нямецкі хутар, як доказ прыкладнага вядзеньня сельскай гаспадаркі, дзе й культурныя патрэбы зьяўляюцца поўнасьцю забясьпечаныя. Так, але ня трэба забывацца, што дабрабыт нямецкага хутару будаваўся сотнямі гадоў цэлымі пакаленьнямі. Цэласьць і непадзельнасьць яго была забясьпечаная правам. Тут хутары зьвязаныя між сабою першакляснымі дарогамі й хуткімі сродкамі сувязі. Адным словам на сяньняшні дзень нашыя ўмовы жыцьця й нямецкія пароўнаць нельга.



І ўсё-ж такі пры ўважлівым назіраньні, асабліва глухіх куткоў Нямеччыны, можна заўважыць шмат адмоўных бакоў нават на нямецкім хутары. Ёсьць мясьціны, якія яшчэ ня маюць усіх навачэсных выгадаў. Нам на Беларусі немагчыма чакаць сотні гадоў на развой хутару, а трэба выбіраць найбліжэйшыя шляхі да падняцьця тэхнікі, культуры й эканамічнага становішча, каб вывесьці нашае працоўнае сялянства й сельскую гаспадарку з таго тупіка, куды яго загналі прыгнятаючым калгасам.

Із спыненьнем у Саветах новай эканамічнай палітыкі згасьлі ў пасялкоўцаў надзеі на спакойнае працоўнае жыцьцё. Распачалася ня знаная й нікому ня мілая калектывізацыя. Ад пасялкоўцаў, як былой беднаты, вымагалася першымі ўступіць у калгасы, першымі абагульваць жывёлу, курэй, пчол, пераносіць для агульнакалгасных патрэбаў свае гуменцы ды хлявы й здаваць сельска-гаспадарскі інвэнтар.

Папрабаваўшы салодкага, нікому не хацелася лезьці ў маркотны калгасны кацёл. Пасялкоўца агарнула туга, ён панура разьвітаўся з набытым у цяжкой працы конікам, другой кароўкай, гуменцам і іншымі рэчамі, што прышлося здаць у калгас. Яму непрыемна было вяртацца да «разьбітага карыта» й стаць ізноў прыгоньнікам мадэрнай паншчыны Непаслухмяных пасялкоўцаў зрабілі кулакамі й падкулачнікамі й яны зь сем'ямі апынуліся ў Котласе, Калыме й іншых гіблых месцах аднэй шостай часткі сьвету.

Пасялкоўцы, як і іншыя сяляне, сталі калгасьнікамі. Аднак у пасялкоўцаў яшчэ ня згасла надзея на невялічкую самастойнасьць на сваёй сялібе. Там ён, завёўшы садок, гарод, старанна апрацоўваў сваю зямлю. Праўда, убога выглядае цяпер пры калгасе яго сяліба: засталася хатка ды невялічкі хлявушок для аднэй кароўкі, якая часта месьцілася нават у сенцах. Аднак ня доўга цешыў сябе пасялковец перавагамі, якія ён меў на пасёлку ў параўнаньні з калгасьнікамі зь вялікай вёскі. Спачатку ў яго адрэзалі сялібу ў карысьць калгасу. Пазьней насунулася нялюдзкая работа па сьцягваньню хутароў і пасёлкаў у вялікія калгасныя вёскі.

Прычынаю гэтага было, бачыце, тое, што хутары й пасёлкі пагражаюць недатыкальнасьці калгасных палёў і наагул пагражаюць «пышнаму росквіту» сацыялістычнага калгасу. Таму хаты з хутароў і пасёлкаў перавезьлі на вызначаныя ў вёсцы сялібы. Гэтымі сялібамі былі найбольш нявыгадныя для будоўлі пяшчаныя бугры, або нізкія забалочаныя выганы, дзе стаяла калгасная кузьня. Прысялібныя вучасткі зямлі адводзіліся гэтым перасяленцам у бальшыні выпадкаў «на водшыбе», у другіх месцах. Апусьцелі хутары й пасёлкі. Замест чысьценькіх пасёлкаў ды хутароў, абкружаных садкамі, сярод калгасных палёў тырчэлі разварочаныя печышчы, закінутыя калодзежы, паломаныя і абгрызеныя жывёлаю дрэвы, ягадныя кусты. Сваім сіратлівым выглядам былыя паселішчы наводзілі на людзей сум і тугу.

На гэтым пакуты людзей ня кончыліся. Трэба было яшчэ перажыць узбуйненьне калгасаў таксама зь перабудовай усяго асабістага жыцьця чалавека. Што чакае яшчэ далей стогнучых пад калгасным ярмом сялян, трудна прадбачыць...

Анак-жа павінен прыйсьці час і ён можа ўжо недалёкі, калі сялянская Беларусь ушчэнт разьнясе калгасы, гэтыя найбольш жахлівыя гнёзды паняволеньня. Былыя прыгонныя калгасьнікі пойдуць шляхам, які ўказаў беларускі патрыёт Дзьмітра Прышчэпаў, і нашая зямля, — а яе хопіць усяму працоўнаму сялянству — пакрыецца ізноў квітнеючымі пасёлкамі.

Ант. АДАМОВІЧ (ЗША)

## МАСТАК НЯТУСКНАЕ КРАСЫ

працяг

Ды жартаўнікі не ўтаймоўваліся — мо ўжо й не маглі ўтаймавацца ў газардзе гульні, мо й не спасьцерагаючы, што яна перайшла ўжо ў няпрыгожае дражненьне нэрваў: "Ал. Салавей" быў абыграны як "Ай, верабей"...*) І гэтага для Алеся ўжо хіба стала досыць тады: больш ягоных вершаў, пакуль быў ён у Менску й на працы ў рэдакцыі "Менскае газэты" й "Голасу вёскі", не зьяўлялася ў ніводнай з гэтых газэтаў пад ніякім псэўданімам. А за нейкі месяц па гэтай псэўданімнай гульні зь ім, на пачатку лютага 1942 г. Максім Блакіт-Блакітны-Алесь Салавей-Альфрэд Радзюк выбраўся зь Менску ў Ільлю...

### "Лёс паэта"

Па ад'езьдзе нашага паэты зь Менску ў Ільлю ягоныя вершаваныя фэльетоны "на тэму дня" і далей зьяўляліся ў "Голасе вёскі", ці то пакінутыя ім перад ад'ездам, ці то надсыланыя ўжо зь Ільлі. У "Беларускай газэце" першым зьявіўся (10 травеня ў № 31 (51) таксама гумарыстычна-сатырычны, але зусім адменнага характару верш "Лёс паэта" пад псэўданімам "Не паэт". Была гэта рэакцыя нашага, абярняся за паэта няпрызнаванага "не паэта" на тыя перажываньні ў Менску, што выгналі яго ў Ільлю. Найперш жыва малявалася тое галоднае перабіваньне, якім ён галоўна, як казалася, і матываваў сваё жаданьне пакінуць ваенны Менск. Адным спэцыялістым гэтае справы даступны спэкуляцыйны менавы гандаль на якім-небудзь менскім Сураскім рынку, што толькі й даваў магчымасьць жыць больш-менш палюдзку, мізэрныя газэтныя ганарары, хоць намінальна мо й вышэйшыя за папярэднія савецкія, але ў дадзеных абставінах фактычна пазбаўленыя ўсякае, казаў той, пакупное здольнасьці, "сто грамаў хлеба ўдзень жуюць адны работнікі ўстановы", так што простым сьмяротным, у тым ліку паэту, застаюцца ўсяго марныя абеды ў страўні "Беларускае Народнае Самапомачы" зь ейных "бэнээсаўскіх паштэтаў" ды "штадзённае заціркі", дый тыя не заўсёды даступныя беларускамоўнаму чалавеку, бо энэргічна выкарчоўваная беларускім нацыянальным актывам, ды ўсё яшчэ нявыкарчаваная савецкая расейшчына атаўбавалася нат у тэй Беларускай Самапомачы *) — а што ўжо казаць пра тэатр, дзе акторы ці то небеларускага паходжаньня, ці й Беларусы русыфікацыйнага савецкага гадаваньня трыццатых гадоў, што заставаліся ў ваенным Менску, запраўды "ня вымаўлялі" "ра", а "ря" і "ре" (як, зрэшты, кажуць, дый пішуць, ёсьць і ў сяньняшнім паваенным Менску-Мінску) — усё гэта было пададзенае ў вершы з добрым трапным, дасьціпным гумарам і надзвычайнай адпаведнасьцяй тагачаснай менскай рэчаіснасьці.

Агульна названы толькі "паэтам" гэрой вершу "Лёс паэта" — гэта гумарызаваны агульны, зборны вобраз беларускіх паэтаў ваеннага Менску, дакладней — паэтаў "Беларускае газэты" й "Голасу вёскі", адзінага месца, дзе тады толькі й можна было друкавацца. І найперш ды найбольш праглядала з гэтага агульнага, зборнага вобразу названая намі вышэй прызнаным першым і галоўным паэтам "Беларускае газэты" Натальля Арсеньнева. Яна лёгка пазнавалася па некаторых, толькі ў ейных вершах ужываных слоўках (як, скажам, скарочанае "мест" з "замест") і вобразах (як "піша вершы... паэт аб сінім небе" — а першы-ж і адзіны йшчэ тады зборнік Арсеньневае, як ведама, быў загалоўлены "Пад сінім небам"; або "так, людзкі суд" і за колькі строфаў — "Ляцець, ці не?" — а ў Арсеньневае "вось суд людзей... куды ляцець?" — у вершы 1942 г. "Хто ён, паэт" — ёсьць у ейнай кнізе "Між берагамі", б. 99; або "восень грыпам захварэла" — а ў Арсеньневае " на асеньні дурны забабон, як на грыпа, зямля захварэла" — у вершы "Хворая восень", у кнізе "Між берагамі" на б. 72; або "Паэтам — вольны Млечны Шлях" — а ў Арсеньневае паэта "зь песьняю Млечнай вандруе дарогай" у вершы "Нашым паэтам", у кнізе "Між берагамі" на б. 124; або "паэт... у эфір нырца дасьць", а ў Арсеньневае "ў сырадой пахучы ночы я нырца дам" — у вершы "Салаўі" на б. 123 у кнізе "Між берагамі"; дарэчы, выраз "даць нырца" быў вельмі папулярны ў супрацоўнікаў рэдакцыі "Беларускае газэты", а быў ён пушчаны й да Арсеньневае дайшоў ад аднаго зь іх, які яшчэ адно ўлюбёнае ім слоўка — "лабуда", пушчанае йшчэ калісь Уладзімерам Дубоўкам). І трэба сказаць, што ўсё гэта былі вобразы, гумарыстычна крытыкаваныя й абыграваныя ды парадыяваныя жартаўнікамі ў рэдакцыі "Беларускае газэты", але тут яны не парадыяваліся, а толькі імітаваліся ў выразна падробленай пад Арсеньневу мове вершу, прычым імітаваліся нагэтулькі ўдала, што магло нат стварацца ўражаньне — а ў сяго-таго, пэўна, і стваралася — ці не напісала

---

*) Ладна пазьней ужо ў друк трапіла, у вадным з гумарыстычных фэльетонных твораў, шаржаваная карыкатура на паэта «Алега Вераб'я». Крыху раней была напісаная ды пашыраная ў машынапісе аб'ектам тае карыкатуры вершаваная ды таксама шаржаваная сатыра на аўтара карыкатуры — «Пад п'яную руку».

*) Кіраўніцтва ейнае было нат пакрыўдзілася на гэты верш «Не паэта», спрабавала прававацца, што гэта няпраўда, ды, відаць, нешта ткі й зрабіла — «газэта памагла», як казалі яшчэ савецкім штампам, бо ў далейшым ужо ня чуваць было пра канечнасьць веданьня расейскае мовы пры дачыненьнях зь ейнымі працаўнікамі.

гэты верш сама Арсеньнева, толькі схаваўшыся пад псэўданімам (чаго яна, між іншага, ніколі ў жыцьці сваім не рабіла). Не, аўтар вершу тут не адлучаў сябе ад Арсеньневае — падаючы свайго, як сказана, агульнага, зборнага "паэта", ён-жа й сябе ўлучаў у яго ды сваю "мову аўтара" аб ім як нейкай трэйцяй асобе няўзнак пералучаў, праз "Ты" другое асобы, у якім ужо фактычна была схаваная асоба першая ("ведай гэта", "шалей, крычы, — ўсё робіш крыкам", "а колькі-б сіні ні ляпіў ты ў верш", "не замуціш жыцьця", "хоць ты чужы ім") і зусім ужо ў сваё-ж собскае "я" першае асобы ("эх, паляту, мо стрэну дзе") — то-ж бо й ён быў тут, у гэтым агульным, зборным "паэту" — "хай не паэт" — прыгадайма ягоны, Салаўёў ужо верш "Паэт", вышэй ужо закрананы намі ў гэтай сувязі — ён бо-ж быў "не паэт" толькі ў сэньсе няпрызнаванага за паэту, як даводзіцца разумець і ўвесь ягоны псэўданім "Не паэт". Не, гэта не "паэт" быў аб'ектам сатыры, у якую пераходзіў гумар вершу "Лёс паэта", і не Арсеньнева ці іншы які паэта былі мішэнямі вершу, і нат менскія спэкулянты з Сураскага рынку ці русацяпы з "Самапомачы" або з тэатру, калі й былі ў мішэнях, дык, сказаць-бы, адно для стрэлаў зь нейкае дробнакалі-беркі — галоўнай мішэняй тут была тая "крытыка", той "людзкі суд" — "Энкавэдэ", бадай, найгоршае на сьвеце — "крытыка" — "суд" з ультра-кансэрватыўных, як выдавалася нашаму паэту проста антыпаэтычных (каб можна было сказаць "антыпаэзійных" — было-б яшчэ дакладней) пазыцыяў, крытыка, якую чуў, дый на сабе мо дазнаваў сам "Не паэт" ад рэдакцыйных жартаўнікоў "Беларускае газэты". І ў гэтым галоўны пункт тае, як было сказана адразу, ягонае рэакцыі на гэныя перажываньні ў Менску, што выгналі яго ў Ільлю.

"Лёс паэта" — папраўдзе, найлепшы твор гумару й сатыры нашага паэты.

## Завязі кантактаў з Багдановічавым "Вянком"

Цяжка сказаць, ці яшчэ ў Менску пазнаёміўся наш паэта, апрача "Пагоні" й выпадковых паасобных вершаў, з цэласьцяй Багдановічавага "Вянка" хоць-бы. Удава паэтава згадвае ў вадным лісьце (ад 2. 6. 1980), што Багдановічаў "Вянок" і "Курганную кветку" Канстанцыі Буйлы ён дастаў "можа ў Вільні, у якую ён езьдзіў два разы". Але ня выключана, што "Вянок", сказаць-бы, і сам мог прыехаць да яго зь Вільні яшчэ ў Менску, у рэдакцыі "Менскай газэты", прывезены туды згадваным вышэй віленчуком — "Дзюком Заходнім", што абярняся падкідаў зь Вільні тамтэйшыя даваенныя беларускія выданьні, сярод якіх, памятаецца, быў і "Вянок" другога віленскага выданьня 1927 г. з уступным артыкулам Антона Навіны, і "Курганная кветка", і



шмат "Адбітага жыцьця" Антона Навіны ды яшчэ ці мала чаго, што ён прынамся мог аглядаць, чытаць, ато й набываць на собскасьць. Аднак завязі кантакту з Багдановічавым "Вянком" пачынаюць пракідацца ў вадзінкавых вершах, пісаных ужо ў Ільлі, што трапілі пасьля ў друк (можна думаць, што бальшыня пісаных там вершаў у друк ня трапіла, а была зьнішчаная, як ці раз бывала гэта ў нашага паэты).

Відаць, у Ільлі, у тым-жа часе, бо, сказаць-бы, на тэй-жа хвалі, што й верш "Пад шэлесты лісьця", на якім нам давялося спыніцца ў нататках у зборніку "Нятускная краса" (б. 300-301), быў напісаны (між іншага, вельмі рэдкім у нашага пэты белым вершам), даўжэйшы вершатвор "А неба. . .". Датаваны ён агульна 1942 г., а выдрукаваны ўпяршыню аж у 1948 г., у другім ужо зборніку Алеся Салаўя "Сіла гневу", ды ўвайшоў таксама першым, адчыняльным маналёгам галоўнага гэроя, Алеся, у пабежна згадваны ўжо намі ў нататках у зборніку "Нятускная краса" (б. 325-326) нідзе ня друкаваны сцэнічны абраз "Дух праўдны, духу зла непадуладны", у цэласьці якога й набыў сваё поўнае асэнсаваньне й разьвязаньне. Пра той сцэнічны абраз яшчэ будзе гаворка на сваім месцы, тут-жа, на гэтым месцы, зазначым адно, што ў датаваным 1942 г. фрагмэньце-маналёгу "А неба. . ." відаць кантакт з Багдановічавым вершам "Мяжы", які мог быць ведамы нашаму паэту яшчэ із школы, бо, як было ўжо згадана, верш гэты быў у праграме беларускае літаратуры ў школьных гадох паэты. Тут адзначым толькі адзін пункт гэтага кантакту — матыў красы, якой "так многа ёсьць паўсюль", а людзям яна недаступная (верш "Мяжы"), "нядадзеная ўлавіць" (верш "А неба"). Але прыгадайма ізноў, што ўжо ў Менску, а асабліва ў Ільлі, паэту нашаму мог быць знаёмы Навінаў зборнік артыкулаў "Адбітае жыцьцё", дый другое віленскае выданьне Багдановічавага "Вянка" з уступным артыкулам да яго таго-ж Навіны, які асабліва падчыркваў ідэю красы — "чыстае красы" ў Багдановіча, дык кантакт мог быць падвойны — ня толькі зь вершам "Мяжы", але й з Багдановічавым "Вянком" у інтэрпрэтацыі Антона Навіны.

Завязі кантактаў зь вершамі Багдановічавага "Вянка" можна бачыць і яшчэ ў некаторых вершах Алеся Салаўя, пісаных ім у Ільлі, але друкаваных пазьней, як, скажам, закрананы намі ў нататках у зборніку "Нятускная краса" (б. 300) верш "Восень" з вобразам кляновага лістка, што мог-бы стаяць у нейкай сувязі з кантактам зь першым, уступным вершам Багдановічавага "Вянка" ды з эпіграфам да яго зь Фета ("Этот листок. . .). Дый наагул на ўсім вершы "Восень" пачуваецца пэўны павеў Багдановічавае паэзіі, ягонага "Вянка". Падобныя завязі можна бачыць і ў таксама закрананым у тых-жа нататках на тэй-жа б. вершы "Маладэчна" зь ягонай сьціснутасьцяй усяго на трох

чатырох радкоўках (пры расьцягнутасьці іншых пэтавых вершаў таго часу) ды згушчанасьцяй вобразаў, пачуцьця й думкі, а таксама ў санэце "Лідзкае замчышча" (датаваны Лідаю, 18. 9. 1942 г.), на якім таксама вычуваецца пэўны павеў Багдановічавае паэзіі "Вянка", а першы катрэн гэтага санэту рыфмаваны ўжо ашчэпна, паводля адзіна практыкаванага й прызнаванага Багдановічам за адзіна правільны санэтнага канону *) але ў гэтым можна было-б хіба бачыць першае, стыхійнае, сказацьбы, уварваньне "Багдановічавага канону" ў выніку кантнкту зь ягонымі санэтамі "Вянка", самым нашым паэтам няўсьведамленае, дык і затым у гэтым ды ў іншых пасьлейшых санэтах першага ягонага зборніка не пераведзенае ў рэгулярнае, кансэквэтнае насьледваньне **).

Санэт "Лідзкае замчышча" цікавы яшчэ дзеля некаторых мамэнтаў. У ім упяршыню засьветчаны, хоць яшчэ толькі параю словаў усяго — у словазлучэньні "ўсякай масьці вораг" — кантакт нашага паэты з "Тэстамэнтам" Уладзімера Жылкі, пра які ўжо згадвалася намі вышэй — якраз бо, калі паэта наш жыў у Ільлі, 6 жніўня 1942, у № 56 (76) "Беларускае газэты" быў

*) Хоць другі катрэн мае ўжо крыжаванае рыфмаваньне ў парушэньне ўсякага строгага санэтнага канону; наагул Багдановічавага, калі так умоўна назваць яго, санэтнага канону наш паэта стаўся сьведамым і насьлядоўнікам у поўнасьці ладна пазьней, толькі пачынаючы ад свайго «Вянка санэтаў» 1947-1956 г.).

**) Пэўна-ж, у санэтнай паэзіі іншых літаратураў здараюцца й санэты з ашчэпным рыфмаваньнем у вадным, а крыжаваным у другім катрэне, але наўдачу ці наш паэта тады мог сустракаць іх. З другога боку, ня выключана, што і ў другім катрэне ягонага санэту «Лідзкае замчышча» магло быць рыфмаваньне ашчэпнае, але першыя два радкі гэтага катрэну маглі быць мэханічна памяняныя месцамі пры друку, і гэтага аўтар мог і не спасьцерагчы пры карэкце, як не спасьцярог, скажам, Максім Багдановіч зьнікненьня цэлага радка ў ягоным санэце «У Вільні» і толькі пасьля, у экзэмпляры г. зв. «Вянка № 1» аднавіў яго, хоць гэтага аднаўленьня чамусь ня прыняла рэдакцыя першага акадэмічнага выданьня Багдановічавых твораў, а за ёю ня прызнаюць і рэдакцыі пасьлейшых савецкіх выданьняў, пакідаючы ў 13-радковым вершы «У Вільні» падзагаловак «Санэт», (гл. Максім Багдановіч. Вянок паэтычнай спадчыны. Пад рэдакцыяй Ант. Адамовіча й Ст. Станкевіча. Выдавецтва «Бацькаўшчына». Нью-Ёрк - Мюнхэн 1960, б. 30). У кажным разе, першыя радкі другога катрэну санэту «Лідзкае замчышча» лёгка перастаўляюцца гэтак, каб выходзіла ашчэпнае рыфмаваньне без парушэньня сэнсу:

> Зямлі свае і гонар і дары
> грудзьмі ў баёх адстойваючы чынна,
> касьцьмі няраз ляглі за лёс айчыны
> тут продкі нашыя — асілкі — змагары.



апублікаваны ўпяршыню поўны тэкст гэтага твору, і добра памятаецца, як наш паэта, неўзабаве з аказіяй зь Ільлі, выказваў сваё захапленьне гэтым творам, як, зрэшты, і ўсе іншыя паэты й наагул менскія ці наежджыя Беларусы, што былі ў тым ці іншым кантакце з рэдакцыяй "Беларускае газэты". Нат рэдакцыйныя жартаўнікі таксама захапляліся безь якіх-небудзь жартаў ці пародыяў. Пра пасьлейшыя кантакты з Жылкавым "Тэстамэнтам" у нашага паэты ўжо згадвалася, і будзе яшчэ гаворка.

Яшчэ адзін мамэнт, які трэба тут адзначыць, гэта што ўжо самай сваёй формай санэту верш "Лідзкае замчышча" навязваў кантакт з санэтам "Гайна", які наш паэта ўважаў, як памятае… у сваім "Кароткім жыцьцяпісе" за "пачатак паважнае працы" свае. І з тым-жа "пачаткам паважнае працы", з санэтам "Гайна" навязваўся кантакт і яшчэ ў вадным вершы, напісаным у Ільлі яшчэ крыху раней — у вершы "У мроях" (датаваны 11. 7. 1942; між іншага, і на гэтым вершы можна вычуць некаторы павеў паэзіі Багдановічавага "Вянка", "летніх" вершаў у ім), дзе ізноў згадваюцца паэтавы сябры ("сябры мае"), які і ў санэце "Гайна", адно што цяпер ужо паэта не "бязь іх", як у тым санэце, а зь імі. І ў сваім першым зборніку "Мае песьні" паэта зьмясьціў гэтыя тры вершы — "Гайна", "У мроях" і "Лідзкае замчышча" — беспасярэдня адзін па адным.

Гэтак у паэтавых вершах, пісаных у Ільлі, можна бачыць намацваньне й навязваньне кантактаў ня толькі з паэзіяй Багдановічавага "Вянка" й Жылкавага "Тэстамэнту", але й з собскай ягонай паэзіяй "пачатку паважнае працы" над вершам яшчэ ў савецкім часе. І ўвесь ільлінскі этап паэтавае творчасьці выглядае як пераходны паміж папярэднім, менскім этапам, і наступным, рыскім.

### Узмацненьне кантактаў з Багдановічам у Рыскім пэрыядзе

Рыскі этап жыцьця й творчасьці Алеся Салаўя больш заслугоўвае на назоў пэрыяду нат самай сваёй, мала ня двухгадовай працягласьцяй (пры нейкай чатырохмесячнай усяго працягласьці менскага этапу, і толькі блізу ўдвая даўжэйшае — васьмімесячнае — этапу ільлінскага), ня кажучы ўжо аб напоўненасьці гэтага часу паважнай (а ня чыста тэхнічнай) працай на становішчы заступніка рэдактара часапісу "Новы шлях" ды напісаньнем і выдрукаваньнем ужо не адзінак, а колькіх дзесяткаў (пад сотню) вершатвораў, бальшыня якіх увайшла ў выданы напрыканцы гэтага пэрыяду першы паэтаў зборнік "Мае песьні". Коратка й агульна, гэта пэрыяд Рыгі (дарэчы, першага ў паэтавым жыцьці месца пражываньня вонках Беларусі), "Новага шляху" й "Маіх песьняў". Але гэта таксама й пэрыяд найбольшага ўзмацненьня кантактаў нашага паэты з паэзіяй Максіма Багда-

новіча. У лісьце ад 17-20 сьнежня 1970 г. рэдактар "Новага шляху" гэтак піша пра сваю ролю ў гэтым:

> Заместа даўгіх мнагаслоўных вершаваных опусаў я падказаў яму (Алесю Салаўю. А. А) сканцэнтраваць творчую ўвагу на кароткіх выразных вершах тыпу Максіма Багдановіча. Якраз у мяне быў... першы том поўнага збору твораў Максіма Багдановіча... Дык вось ён... Багдановіч... пачаў дзеіць: выхоўваць зь вершаскладальніка вершазнаўцу й вершатворцу, што паступова станавіўся сапраўдным паэтам...
> ... З тае пары, як ён (Алесь Салавей. А. А.) паслухаўся запавету нашага клясыка («абрабіць яго трэба зь цярпеньнем»), ён стаў працаваць больш настойліва і ўпарта. Цэлымі вечарамі праседжваў за сталом, перакрэсьліваючы напісанае й шукаючы новага, больш выразнага й арыгінальна-беларускага слова...

Пэўна-ж, "працаваць настойліва і ўпарта... праседжваць, перакрэсьліваючы" й г. д., як кажацца ў вапошніх радкох, толькі што паданых намі, Алесь Салавей, як мы ведаем зь ягонага "Кароткага жыцьцяпісу", адпаведна цытаванага ў нашых нататках, пачаў куды раней — прынамся, яшчэ на тэй канфэрэнцыі-курсах Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў, мо яшчэ й ня ведаючы пра той "запавет нашага клясыка" (Багдановічаў верш "Песьняру" не даваўся ў савецкіх школах). І "Багдановіч пачаў дзеіць" на яго таксама куды раней — калі не ад школьных гадоў, дык прынамся ад часоў працы ў рэдакцыі "Менскае газэты" й знаёмства там з Багдановічавай "Пагоняй", некаторымі іншымі (як верш "Калі паласу агнявую") на знойдзеных у друкарні аркушах перадваеннага савецкага выданьня "Выбраных твораў" Багдановіча ды нарэшце й зь "Вянком", што намі ўжо таксама адзначалася вышэй. І нат яшчэ ў пары знаёмства ўжо зь першым томам Багдановічавых "Твораў", у Рыскім пэрыядзе, і на воку і пад рукамі нашага пэты "Вянок" другога віленскага выданьня 1927 г., відаць, быў перш, як той першы том — прынамся, у сваім "Кароткім жыцьцяпісе", пісаным у 1944 г., пад самы канец таго рыскага пэрыяду, ён цытаваў Багдановіча паводля гэнага "Вянка", а ня першага тому ("даўных форм красой", тымчасам як у першым томе, на б.210 маем "даўнаю красой" — у рэдакцыі г. зв. "Вянка № 2", гл. у тым-жа томе б. 467). Але бясспрэчна, што азнаямленьне з поўнаю спадчынаю вершаванай паэзіі Багдановіча паводля першага тому першага акадэмічнага выданьня ягоных "Твораў", як і "падказ сканцэнтраваць увагу на вершах тыпу Максіма Багдавовіча" рабілі сваё як дзеля ўзмацненьня ды канчальнага ўсталеньня трывалага кантакту з Багдановічавай паэзіяй, гэтак і наагул дзеля таго, як добра сказана, "выхоўваньня зь вершаскладальніка вершазнаўца й вершатворца, што паступова ставаў запраўдным паэтам". Наагул-жа, ня толькі на прыкладзе з усталеньнем трывалага кантакту паэзіі Алеся Салаўя з паэзіяй Максіма Багдановіча, але й на іншых выпадках устанаўляньня кантактаў ягонае паэзіі з творамі іншых паэтаў (як, скажам, з "Тэстамэнтам" Уладзімера Жылкі), можна спасьцерагчы, што кантакты гэтыя ніколі ня выяўляліся ў яго ў поўнай меры адразу, а толькі паступова й паволі.

Асобна трэба спыніцца і на сьцьверджаньні ў паданай вышэй цытаце пра "сканцэнтроўваньне творчае ўвагі на кароткіх выразных вершах тыпу Максіма Багдановіча" — "заместа даўгіх многаслоўных вершаваных опусаў". Рэч у тым, што ў самога Багдановіча гэткія "кароткія выразныя вершы" — мініятуры не зьявіліся ды не запанавалі адразу ува ўсіх практыкаваных ім паэтычных жанрах. Аглядаючы нашаніўскую паэзію 1910 г. у артыкуле "Глыбы й слаі", Максім Багдановіч-крытык пісаў пра самога сябе як паэта, што

> гэта паэт-маляр. Слабы, як лірык, ён усю сваю ўвагу зьвяртае на вобразнасьць зьместу вершаў і разам з тым клапоціцца аб згушчонасьці яго, спадзяваючыся прыдаць ім праз гэта асаблівую сілу, але, сьціснутыя паводля такіх захадаў вершы іншы раз заміж малюнку даюць якісь абрывак яго. («Творы» М. Багдановіча, том II, выд. 1928 г., б. 10).

Адрозьненьне ў сабе "паэта-маляра" й "лірыка" Багдановіч праводзіў і ў "Вянку", загаловіўшы першы разьдзел яго "Малюнкі й сьпевы" *). І на вершах "Вянка" ўжо няцяжка зрабіць гэткае назіраньне, проста як свайго роду "закон": чым больш у Багдановічавым вершы ад "паэты-маляра", а менш ад "слабога лірыка", чым больш гэты верш "малюнак", а менш "сьпеў" — тым ён карацейшы, больш сьціснуты, згушчаны, часам запраўды як на мяжы "абрыўку", і наадварот. Клясычныя, сказаць-бы, прыклады тут — тры вершы-"малюнкі" возера ў першай "нізцы" "У зачараваным царсьцьве", два пад гэткім і загалоўкам "Возера" ды адзін — "Над возерам" (адно ў другім вершы пад загалоўкам "Возера" — лёгкі дотык лірызму ў самай канцоўцы: "А ў душы не замаўкае...", рэшта — чыстыя толькі "малюнкі"; дарэчы, лірычнымі найчасьцей бываюць у Багдановіча якраз канцоўкі, прычапляныя да "малюнкаў"). А з другога боку — першы верш нацыянальна-патрыятычнае лірыкі

*) Чамусьці рэдакцыйная камісія першага акадэмічнага выданьня твораў Багдановіча зьняла гэты загаловак і падала пра яго толькі ў «Увагах», парушаючы гэтым пабудову зборніка, які выразна ўкладаўся з двух разьдзелаў: «Малюнкі й сьпевы» (зь «нізкамі» «У зачараваным царсьцьве») і далейшымі, па нізку «Старая спадчына») і «Мадонны» (які, па зьняцьці загалоўку «Малюнкі й сьпевы», а значыцца й выдзяленьня загалоўленага разьдзелу, апыніўся на палажэньні такое-ж «нізкі», як і іншыя, а не разьдзелу).

Багдановіча — ведамы верш "Краю мой родны!" (у разьдзеле "Думы", даваўся нат у савецкіх школах), дзе на 28 радкоў толькі ў нейкіх чатырох (двух апошніх у першай страфе ды двух апошніх у другой) "малюнкі", рэшта — лірыка. Дый у пасьлейшай нацыянальна-патрыятычнай Багдановічавай лірыцы, ня вельмі багатай колькасна, хоць і вельмі моцнай — пераважаюць вершы даўжэйшыя, а апошні верш гэтае лірыкі — гэтулькі шмат згадваная намі "Пагоня" — ізноў-жа на тых-жа 28 радкох, што й першы "Краю мой родны" (дарэчы, абодвы яны ладна перавышаюць той "ліміт" для лірычных вершаў — ня больш за 20 радкоў! — які раіў датрымваць гэткі выдатны, ня толькі ў расейскай, а хіба і ў сусьветнай паэзіі лірык, як Аляксандар Блок). Вершаў-мініятураў у гэтай лірыцы бадай што няма, хіба што ў "чарнавых накідах", якія можна ўважаць усё-ж за закончаныя й ня гэтак ужо "чарнавыя", можна было-б залічыць сюды гэткія, як "Ты ня згасьнеш", "Беларусь, твой народ дачакаецца" й асабліва "Досі ўжо, браты", але зусім магчыма, што каб паэта жыў далей, ён мог-бы разгарнуць і іх у даўжэйшыя вершатворы. Дый ня гэткі ўжо й дзіў: наплыў нацыянальна-патрыятычных пачуцьцяў, асабліва ў паэтаў народу, што жыў і ўсё яшчэ жыве ў гэткіх нацыянальна несамавітых абставінах, як наш беларускі, нямінуча бывае нагэтулькі магутным, што паэту цяжка яго стрымваць паводля Блокаўскай нормы. І пераважная бальшыня вершаў найбольшага нашага нацыянальна-патрыятычнага лірыка Янкі Купалы — гэта-ж, у тэрмінах камэнтаванае намі цытаты — "даўгія мнагаслоўныя вершаваныя опусы"... Дык ня дзіў і тое, што гэткія "опусы" пераважалі і ў нацыянальна-патрыятычнай лірыцы нашага Алеся Салаўя на менскім ды ільлінскім этапах ягонае творчасьці, і адыход ад гэткіх "опусаў" сам сабою, бязь ніякіх падказаў, мог быць наказаны ўжо самым адыходам-адваротам ад тае лірыкі, пра які намі казалася на сваім месцы. Пагатоў, што тэндэнцыю да сьцісканьня, а не расьцягваньня вершаў можна было спасьцерагчы ўжо на ягоным першым друкаваным вершы "На сенажаці", дзе Трусовы "мнагаслоўныя опусы", ад кантакту зь якімі, найпраўдападабней, тапаўстаў той верш, былі як спрэсаваныя да памераў тыпу зусім Багдановіцкага "малюнку" — задоўга да ўсякага выразнага кантакту з паэзіяй Багдановіча, як казалася ўжо ў нас, калі закранаўся гэны верш. Але вершы-мініятуры "тыпу Багдановічавых" зусім ня былі чужыя нашаму паэту і ў пасьлейшых часох ягонага падсавецкага быцьця. Калі ўжо ў 1945 г. пачаў ён зьбіраць свае лірычныя мініятуры (пераважна лірыкі каханьня) у васобны зборнік "Вянкі", дык на пачатку гэтага зборніка зьмясьціў колькі гэткіх мініятурак, датаваных 1937-1939 гг. (вершы "Дзяўчына", "Ці-ж ня новае", "Пачакай, пабудзь", "Такі лагодны", "Змоўклі вясёлыя", "Сумнаю згадкаю"). Дык за "сканцэнтраваньнем творчае ўвагі на кароткіх выразных вершах тыпу Максіма Багдановіча" можна бачыць ня толькі ўзьдзеяньне Багдановічавае паэзіі, а й навязваньне да аднае із спачатных тэндэнцыяў, а мо ўжо нат і завязваных толькі пасьля перарваных традыцыяў собскае творчасьці нашага паэты, узнаўленьне гэнае тэндэнцыі ці й традыцыі.



### Кантакты із спадчынай Вацлава Ластоўскага і Уладзімера Жылкі

Апрача канчальнага ўсталеньня трывалага кантакту з паэзіяй Максіма Багдановіча ў Рыскім пэрыядзе творчасьці нашага паэты, у гэтым-жа пэрыядзе пачалося й навязаньне ягоных кантактаў із спадчынаю аднаго з найбліжэйшых, і літаратурна і асабіста, да Багдановіча пісьменьнікаў нашаніўскае пары Вацлава Ластоўскага. У тым-жа цытаваным лісьце Ў. Глыбіннага ад 17-20 сьнежня 1979 г. падаецца:

> Я яму (Алесю Салаўю. А. А.) тут падсунуў часапіс «Крывіч» і слоўнік Ластоўскага. Казаў яму, што вывучэньне слоўнікавага багацьця, пры строгім крытычным адборы, вельмі ўзбагаціць мову паэта й station ноўча выявіцца ў творчасьці. І трэба сказаць, што ён адбіраў адно вартаснае й арыгінальнае, вельмі скупа, але затое, што красіла ягоную паэтычную творчасьць.

Паасобныя нумары часапісу "Крывіч" і Уладзімер Глыбінны і Алесь Салавей маглі бачыць яшчэ ў рэдакцыі "Беларускае газэты" ў Менску, куды прывёз іх зь Вільні той-жа наежджы адтуль супрацоўнік газэты, як і іншыя, згадваныя ўжо кніжкі, а таксама й слоўнік Ластоўскага — ягоны "Падручны Расійска-Крыўскі (Беларускі) Слоўнік", выданы ў Коўні ў 1924 г. Нумары "Крывіча" тады неяк адразу разыйшліся па руках і ў рукі Глыбіннага й Салаўя маглі — на патрэбны на чытаньне час хоцьбы — і ня трапіць. З поўным "Крывічом" яны маглі пазнаёміцца ўжо толькі ў Рызе, праз Езавітава, праз ягоную згадваную ўжо бібліятэку, і адразу-ж абодвы захапіліся друкаванымі ў гэтым часапісе вершамі Ластоўскага. Уладзімер Глыбінны тады-ж, у 1943 г., у №№ 81 (199) і 82 (200) "Беларускае газэты" ад 23 і 26 кастрычніка таго году зьмясьціў вялікі захоплены артыкул "Вацлаў Ластоўскі як паэта нацыяналістычнае думкі". А наш Алесь Салавей сваім дробненькім, але прыгожым характарам пісьма, з мастацка аздобленымі застаўнымі літарамі паперапісваў (зусім як той Багдановічаў "Перапісчык", да якога ён раўнаваў сябе ў александрыне "На чыстым аркушы") усе вершы Ластоўскага ў вадмысловы сшытачак, і то ў колькіх копіях, якія перасылаў некаторым сваім сябром (такі сшытачак ляжыць цяпер перад вачыма). Што-ж да Слоўніка Ластоўскага, дык калі толькі ня мыліць памяць, Алесь Салавей тады-ж у Мен-

ску выпрасіў адзін паасобнік для сябе ды зь ім не разлучаўся. Пэўна-ж, асабліва казаць яму пра "вывучэньне слоўнікавага багацьця" бадай ці даводзілася, пра гэта казалася хіба яшчэ на курсах-канфэрэнцыі Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў і напэўна тым-жа Пятром Глебкам, які пры згадваным на сваім месцы апошнім нашым спатканьні, памятаецца, адзначыў у Салаўя й ягоную цікавасьць да працы над моваю. Але зусім добра сказана, што Алесь Салавей зь лексыкі Ластоўскага "адбіраў адно вартаснае й арыгінальнае, вельмі скупа" — у творах Рыскага пэрыяду ў яго зусім ня відаць, казаў той, "ластаўскізмаў", дый у пасьлейшых часох ня гэтак іх шмат. Таксама й кантакт зь вершамі Ластоўскага ня выявіўся яшчэ зусім у Рыскім пэрыядзе, і пра выяўленьне яго, таксама ня вельмі шырокае, будзе яшчэ на сваім месцы.

Затое на ўсю шырыню выявіўся ў Рыскім пэрыядзе творчасьці нашага паэты кантакт з "Тэстамэнтам" Уладзімера Жылкі, што пачаў завязвацца яшчэ на ільлінскім этапе яе. Цікава, што й тут, як у выпадках кантакту нашага паэты з паэзіяй Паўлюка Труса (у першым друкаваным вершы "На сенажаці") ды першага кантакту з Багдановічавай паэзіяй, зь ягонай "Пагоняй", кантакт з Жылкавым "Тэстамэнтам" выявіўся найперш у строфіцы. Жылкаў "Тэстамэнт" напісаны васьмірадкоўкай, якую Ігар Качуроўскі ў згадванай сваёй "Строфіцы" (на б.189) добра называе актавільляй (значыцца, як-бы "маленькай актавай" — пісанай бо чатырохстопным, а ня пяці- ці шасьцістопным ямбам, як звычайна пішуцца актавы ў сылябатоніцы) і на адзіны прыклад яе падае якраз верш нашага Алеся Салаўя "Хрыстосаў лёс". Але ў вершы гэтым, датаваным 3. 3. 1943 г., якраз і выяўляецца той першы кантакт з Жылкавым "Тэстамэнтам" у строфіцы: "Тэстамэнт" бо якраз першы ў нас твор напісаны гэтай страфою (відаць, гэта ня было ведама украінскаму аўтару "Строфікі", як і самы Жылкаў "Тэстамэнт" наагул. *)

Але найбольш кантакт з Жылкавым "Тэстамэнтам" выявіўся не ў мініятурах тыпу вершу "Хрыстосаў лёс", і прытым ня ў строфіцы ўжо, а ў самой структуры твору ды ейным напаўненьні — у першай даўжэйшай паэме Алеся Салаўя "На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса", напісанай у Рызе 2. 5 - 2. 10. 1943 г. і ўпяршыню выдрукаванай у "Новым шляху" (у №№ 23 і 24 за 1943 г.) ды перадрукаванай у ягоным першым зборніку "Мае песьні". Ды ў гэтым, першым вялікапамеравым творы нашага паэты, над якім ён, як бачым, працаваў каля паўгоду (дарэчы, у часе, калі яму аўтарытэтна рэкамэндавалася-"падказвалася" ня пісаць "мнагаслоўных вершаваных опусаў"), кантакт з Жылкавым "Тэстамэнтам" пераплятаецца, а нат фактычна й папераджаецца кантактам з паэзіяй Максіма Багдановіча, канкрэтна — з найбольшым вялікапамеравым сярод ягоных пераважна кароткіх, нат мініятурных вершаў творам (калі ня браць жартаўлівай для дзяцей напісанай "вельмі жаласнай гісторыі, выкладзенай згодна з праўдай беларускім вершам" — "Мушка-зелянушка й камарык-насаты тварык") — паэмай (у аўтарскім абазначэньні — "вершаваным апавяданьнем") "Вэраніка" **). Зусім натуральна, што пад сярэдзіну рыскага пэрыяду свае творчасьці паэта наш, сьведама ўжо раўнуючыся на Багдановіча, а наважыўшы напісаць свой першы большы твор — паэму, зьвярнуўся да Багдановічавага найбольшага твору гэтага тыпу — да ягонага "вершаванага апавяданьня" "Вэраніка". І кантакт з гэтым Багдановічавым творам знаць ужо ў загалоўку Салаўёвае паэмы, у паданым ужо там загалоўным, сказаць-бы, вобразе Пэгаса — у Багдановічавай паэме вобраз гэтага міталёгічнага "каня крылатага", што "да Парнасу. . . дух імчыць" зьяўляецца ў першых радкох самае апошняе страфы ягонае "Вэранікі" ды зараз-жа тут-жа й называецца на ймя — "ды як знайсьці сьляды Пэгаса", а радкі гэтыя даволі блізка згукаюцца ў радкох 6-ае страфы Салаўёвае паэмы — "народных ніў Парнас. . . на хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса". Але ў Багдановіча на вобразе гэтым паэма не толькі канчаецца, а і, сказаць-бы, замыкаецца, бо пры ім, усёдна як у тым аўтаматычным, "амэрыканскім", як казалі ў нас калісь, замку, гэта канец паэмы, дзе "конь крылаты да Парнасу мой дух імчыць, каб я былое апяваў" (паўней ужо зацытаваўшы паданыя вышэй больш урыўкава словы з "Вэранікі"), калі гожа так сказаць, зашчапляецца, заклямкоўваецца ці нат "запстрыкваецца" (слова, рэкамэндаванае савецкімі слоўнікамі — добра перадае гук, але не на вельмі паважным, сказаць-бы, стылістычным узроўні) — да ейнага пачатку: "схачу свой вольны верш пачаць — і ўраз пра прошлае згадаю" (бо, за пару радкоў перад гэтым, на самым пачатку паэмы — "я на

---

*) Верш «Хыстосаў лёс» цікавы яшчэ дзеля двух кантактаў: першае — кантакту зь ведамай лірычнай імпрэсіяй у прозе Сяргея Палуяна «Хрыстос Уваскрос», сваім парадкам скантактаванай з Купалавым вершам 1908 г. «Вялікдзень», проста цытаваным у ёй (між іншага, гэты Купалаў верш, у савецкіх, нат «акадэмічных» «Зборах Твораў» паэты дасюль не перадрукоўваецца — відаць, дзеля рэлігійнае тэрміналёгіі), прычым ізноў выявілася Салаўёва імкненьне да максымальнага сьцісканьня кантнктаваных ім твораў, што мы адзначылі ўжо ў ягоным першым друкаваным вершы. А другое — гэта першы з чарады, сказаць-бы, рэлігійна-хрысьціянскіх вершаў Алеся Салаўя, у якіх, як і тут, рэлігійная хрысьціянская ідэя найчасьцей зьліваецца зь ідэяй нацыянальна-беларускай.

**) Багдановічава «Вэраніка» мае 168 радкоў (з эпілёгам — 186), а «Мушка-зелянушка» — 196. Дзеля параўнаньня: у Жылкавым «Тэстамэньце» 216 радкоў (зь іх 6 бяз тэксту, пад шматкроп'ямі), у Салаўёвых «На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса» — 350 (зь іх 10 бяз тэксту, пад шматкроп'ямі).

душы васковай маю жыцьця мінулага пячаць"). І гэтым зашчапляецца й самая тая, сказаць-бы, спружына, што прывяла ў рух усё "вершаванае апавяданьне" Багдановічава — спружына настальгіі ў шырокім сэньсе гэтага слова, як тугі за страчаным і ўжо далёкім, у дадзеным выпадку — настальгіі, сказаць-бы, у часе, тугі за "былым", "пошлым", "мінулым", найперш — за тымі "дзіцячымі гадамі". Але якраз настальгія, пры тым ужо ня толькі й ня так у шырокім, як і ў самым вузкім і спачатным, этымалягічным сэньсе слова, настальгія ў прасторы, туга за страчаным і ўжо далёкім родным, "туга па радзіме" — няйначай і падштурхнула нашага паэту да самага напісаньня ягонага першага большага вершаванага твору, дый сталася й гэтак-жа, як у Багдановіча, спружынай яго. І гэтак кантактам свайго загалоўнага вобразу Пэгаса з канцавым вобразам таго-ж Пэгаса ў Багдановічавай "Вэраніцы" Салаўёва паэма выйшла як-бы нейкім працягам тае "Вэранікі". Ды тая-ж настальгія, а прытым яшчэ й завойстраная выразным прадчуваньнем блізкое й немінучае сьмерці, таксама і падштурхнула да напісаньня і сталася спружынай і Жылкавага "Тэстамэнту" ("тугой выгнаньня зьбіты ўшчэнт пішу я гэты тэстамэнт"). І гэтая акалічнасьць хіба й прывяла нашага паэту да цясьнейшага, як раней, папраўдзе, вельмі цеснага мясьцінамі кантакту з гэтым Жылкавым творам, і кантакт гэты найшырэй і выявіўся ў ягонай паэме, сплёўшыся з тым кантактам з Багдановічавай "Вэранікай" ды зусім, калі гэтак сказаць, перакрыўшы яго. Запраўды, кантакт з Багдановічавай "Вэранікай" у Салаўёвай паэме "На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса" абмяжоўваецца толькі да паданых вышэй мамэнтаў (яшчэ да іх хіба можна дакінуць некаторы кантакт у самым апошнім радку, найдакладней у самым апошнім слове кажнага з гэтых твораў: у "Вэраніцы" — "Спачынь-жа трохі, верны верш!", у "На хуткіх крыльлях..." — "Я сьведама пушчаю ў сьвет свой верш"). За абмежанасьцяй кантакту з Багдановічам у Салаўёвай паэме стаіць найбольш хіба тая акалічнасьць, што Багдановічава настальгія ў "Вэраніцы" — гэта толькі настальгія ў часе, калі Салаўя мучыла якраз настальгія ў прасторы, туга па далёкім родным краі. *)

*) Настальгія ў сьціслым, этымалягічным сэньсе «тугі па радзіме» ў Багдановіча наагул спатыкаецца вельмі рэдка, што зусім зразумела ў сьвятле ягонае біяграфіі, дзе страчаньне радзімы адбылося яшчэ на шостым годзе жыцьця ды не магло быць яшчэ глыбака перажытым і адразу-ж усьведамленым, дык і настальгія ў прасторы абарачалася тугой не па страчаньні, а за сустрэчай, не па «былым», а за будучым, жаданым спатканьнем з родным краем, дзе «ёсьць крыніца жывой вады» і дзе нат сьмерць была-б знаходам «спакою», як у вершы «Даўно ўжо целам я хварэю» (і зусім як у самым канцы Жылкавага «Тэстамэнту»).

(працяг будзе)



Васіль СТОМА (ЗША).

# РАЗЬДЗЕЛ II

# АБРАДЫ Й ЗВЫЧАІ ДЗІСЬНЕНШЧЫНЫ ЗЬВЯЗАНЫЯ ЗЬ СЯМЕЙНЫМ ХАРАКТАРАМ

(працяг)

**Нарадзіны.**

Да цяжарнай жанчыны ўся сям'я й суседзі ды прыяцелі адносіліся з пашанай. У большых сем'ях кожны стараўся ёй дапамагчы й заступіць у цяжкой сялянскай працы. Калі-ж надыходзіла ейная пара радзіць, дык усе сябры сям'і стараліся знайсьці сабе занятак навонкі, а ў хаце заставаліся толькі старыя й часамі муж, які выпаўняў абавязкі пасыльнога. За дапамогай да акушэркі зьвярталіся вельмі рэдка, дый праўду сказаўшы акушэрак было вельмі мала. У некаторых месцах прафэсыйна вышкаленых акушэрак было ўсяго адна або дзьве на воласьць. Часамі клікалі доктара, але гэта здаралася калі «роды» былі вельмі цяжкія, або здараўся нейкі нешчасьлівы выпадак. Да «радзіхі» папросту клікалі «бабу», — старэйшую жанчыну, якая зналася на гэтых справах, умела «бабіць» дзяцей. А ў кожнай мясцовасьці было іх заўсёды некалькі, — лепшых і горшых. Пасьлей на хрэсьбінах «бабы» займалі таксама адпаведнае й ганаровае месца.

Некалькі дзён пасьля нарадзінаў, сваячкі, суседкі ды прыяцелькі «радзіхі» йшлі да яе ў адведкі. Яны прыносілі падарункі, а іх за гэта частавалі. Звыкла адведнікі зьбіраліся ў грамадкі па некалькі жанчынаў, але ніколі не заседжваліся доўга. Незамужнія дзяўчаты — сяброўкі «радзіхі» прыходзілі ў адзіночку, і нібы ўкрадкам прыносілі скрамнейшыя падаркі. Мужчыны ў адведкі не хадзілі, але некаторыя ведаючы, што ў таварыстве маладзіцаў змогуць выпіць чарку, часамі спакушаліся на гэта. За тое пазьней шкадавалі свайго неразважнага кроку, бо сябры пыталі іх ці ім давялося аблізаць пуп, або абзывалі іх «пупалізамі». У часе адведак ад пачатку й да канца прысутнічала «баба, пазьней яна з бацькам дзіцяці запрашала на хрэсьбіны. Запрашаліся на хрэсьбіны толькі тыя сем'і, зь якіх хтосьці быў у адведках. Большасьць аднак ішлі без запросінаў. У хрэсьбінах ня бралі ўдзелу нежанатыя й незамужнія, хіба што яны былі хроснымі бацькамі.

**Хрэсьбіны.**

З хрэсьбінамі доўга не цягнулі, бо лічылася вялікім грэхам для бацькоў і наагул радні, калі-б, ня дай Бог, дзіця памерла няхрышчоным. У некаторых месцах існаваў нават звычай, пераняты ад католікаў, што ў наглых выпадках з прычыны адсутнасьці сьвятара дзіця хрысьцілі «ад вады». Такое хрышчэньне мог выканаць

кожны мужчына — хрысьціянін з добрымі паводзінамі. У гэтым выпадку абрад хрышчэньня мог выканаць бацька, дзед ці нават малодшы брат.

На хрэсьбіны звыкла запрашаў бацька нованароджанага ў таварыстве Бабы. Прыйшоўшы ў хату запрашаючыя хуценька віталіся й гаварылі: — Просім на хрэсьбіны. Прыяжджайце, прыхадзеце, падарункі прынасіце, але дзяцей не бярыце, лепш пад печ пасадзіце й ступай закаціце! — Затым пачуўшы адказ, яны хуценька выходзілі. Прычынай такой сьпешкі было тое, што калі запрашаючыя на хрэсьбіны сьпяшаюцца, то й хрэсьнік будзе хуткі да ўсялякай працы. Запрашаючых ніколі не частавалі. Хрэсьбіны назначаліся на нядзелю або іншае сьвята, але ніколі на першы дзень Вялікадня або Калядаў ці дзень, калі паміналіся памёрлыя. Кумы-хросныя бацькі бралі малое ды ехалі або йшлі зь ім у царкву. Зь імі мог ехаць таксама й хтосьці з радні, але ніколі бацькі. Імя для малога выбіралі загадзя, але бывала, што сьвятар сам даваў каляндарнае імя.

Ідучы на хрэсьбіны жанчыны несьлі невялічкія падарункі для радзіхі й нованароджанага, а таксама па вялікай місе пшанічных бліноў падсмажаных на масьле ды пасыпаных густа цукрам. Баба-ж са свайго боку пякла на яйках і масьле падсушаныя салодкія цестачкі, называныя чамусьці «бабінай кашай». У часе бяседы маглі сьпяваць, але не маглі танцаваць. На хрысьцінах прысутнічалі толькі жанатыя, за выключэньнем хіба кумоў.

### Сватаўства.

Калі маладыя былі закаханыя ў большай ці меншай меры й калі ня было выразных запярэчаньняў з боку бацькоў або іншых перашкодаў, дык дзяцюк павінен быў «ісьці ў сваты». Запрасіўшы сабе да таварыства старэйшага векам сваяка ці наагул прыяцеля хлапец ішоў у сваты. За свата бралі асобу не дурную, таксама не выпіваку й такога, што «ў кішэню за словам не лезе». Сват мусеў быць або жанатым або ўдаўцом. Гэтая ўмова сурова перасьцярагалася, бо людзі верылі, што нежанаты сват прыносіць няшчасьце. У палякаў нават прымаўка была: «Як сьвят сьвятэм, не был кавалер сватэм». У сваты йшлі, або ехалі звычайна ў сыботу й бацькі маладой зазвычай рабілі выгляд, што для іх гэта зьяўляецца неспадзеўкай, хоць часьцей ведалі аб гэтым ужо некалькі дзён наперад. Сваты адразу ў хату да дзяўчыны не заходзілі, — тапталіся па панадворку голасна гаворачы, каб іх у хаце чулі. Вясельлі найчасьцей адбываліся ў «мясаедзе», зімой, дык сваты часамі топалі па ганку нібы абтрасаючы з абутку сьнег. Гаспадар таксама не адразу выходзіў на іх спатканьне. Выйшаўшы звычайна заводзіў гутарку пра пагоду або чымсь іншым і толькі пасьлей пытаў што ім трэба Адказ даваў сват, але ня проста, а загадкава ў пагаворачным стылі, як прыкладам: — «Мы вось з-за мора таргаўцы-падарожныя ды заможныя. За морам вось жывучы і ўсялякіх людзей спатыкаючы, дачуліся-даведаліся, што ў вас ёсьць тавар на продаж. Дык можа у вас з намі выйшаў-бы нейкі гандаль?» Або: — «Настаў зімовы час як для вас так і нас. Ведама, што зімой усе зьвярыну страляюць, сваю долю папраўляюць. Дык вось і наш малады стралец-удалец хоча ўпаляваць белачку-вавёрачку, ці ліску-хітровачку. Дык можа вы са сваёй ласкі нам дапаможаце й сьцежку-дарожку да яе пакажаце!» Нават і ў тым выпадку, калі сваты былі й не да ўспадобы, іх ўсёроўна запрашалі ў хату. Першым пераступаў парог сват кажучы сваё «Пахвалёны гэтаму дому». Неўзабаве даставаў з-за пазухі падпяразанага чырвоным ці зялёным паясом новага кажуха пляшку гарэлкі й ставіў яе на стол. Гаспадыня ў сваю чаргу ставіла нейкую закуску. Калі на гэты момант у хаце знаходзіўся хтосьці чужы, дык ён шануючы сямейныя справы паціху выходзіў. Будучая маладая таксама хуценька ўцякала ў камору. Тады сват наліваў чарку гарэлкі й падносіў яе тэй асобе, якая запрасіла іх у хату. Калі чарку выпівалі й налівалі наступную для свата, дык гэта было добрым знакам, што сватаўство прымаецца. Калі-ж штосьці было не ўпарадку, дык каб сват не пачуўся абражаным, гаспадар клаў на стол суму грошай раўнавартаснай пляшцы гарэлкі. Гэта азначала, што сям'я ня хоча наразіць сватоў на страты з прычыны адмовы. У такім выпадку сват паказваў сваё красамоўства й суліў ўсялякія карысьці, якія будуць вынікам гэтага жаніцтва. Калі-ж і гэта не дапамагала, а маладая ня мела нічога супраць маладога, дык з каморы чуўся плач. Часта гэта зьмякчала сэрцы тых, хто быў супраць вясельля. Пасьля выпітай першай пляшкі, сям'я ставіла на стол другую, забіраючы перад гэтым паложаныя грошы. Цяпер ужо маладую клікалі да стала. Яна садзілася звычайна на самым беражку й барані Божа, каб не за блізка да маладога. У гэты час сват з гаспадаром выходзілі ў камору, каб абгаварыць справу пасагу. У наступную сыботу, або й сярод тыдня, малады наведваўся да маладое ўжо з бацькамі на Заручыны. На заручынах бацькі багаслаўлялі маладую пару на супольнае жыцьцё й канчаткова вызначалі тэрмін вясельля. Таксама абгаварвалі колькасьць запрошаных гасьцей. Трэба таксама зацеміць, што адбываліся сваты і ў іншых абставінах. Напрыклад калі першаю прычынаю была справа матэрыяльная. У такім выпадку будучыя сужонкі часта й ня ведалі адзін аднаго. Былі й іншыя сватоўствы.

### Вясельле.

Да вясельля калі на гэта дазваляў час рыхтаваліся праз некалькі тыдняў. Бацькі маладой шыкавалі для яе «выправу», бо-ж яна йдзе ў чужыя людзі, а там могуць абгаварыць. Словам выправу ладзілі старанна й паводле заможнасьці. Заўсёды стараліся ўсё наладзіць як найлепш.

Запрашалі на вясельле загадзя, тыдзень ці больш наперад. У гэты час маладыя падбіралі сабе дружак і дружбантаў. На вясельлі яны тварылі асысту маладых. Калі маладая ня мела старэйшай, але ўжо замужняй сястры, дык яна запрашала нейкага іншага на старшую свацьцю. Абавязкам старшай свацьці было ў першую чаргу перавязаць свата праз плячо ці хоць вышэй локця на левай руцэ прыгожа вышываным ручніком, які ён пасьля вясельля забіраў сабе. Старшая свацьця таксама ў часе шлюбу засьцілала кужэльным палатном падход да дывана на якім стаялі маладыя ў царкве. Гэтае палатно забіраў пазьней сьвятар. Адсюль напэўна й пагаворка: «Каму хлапатно, а папу палатно».

Гасьцей на вясельле запрашалі маладыя ў таварыстве бацькоў або кагосьці з бліжэйшае радні. Калі хтосьці ня мог прыбыць на вясельле, дык усёроўна пачуваўся прыслаць вясельны падарунак.

Само вясельле зазвычай пачыналася ў сыботу, калі пачыналі зьяжджацца далейшыя госьці. У дзень вясньльля, у нядзелю ўжо з раніцы пачыналіся вясельныя абрады, асабліва ў хаце маладой. Калі на гэта дазваляў расклад хаты, дык маладая ў таварыстве старшай свацьці й яшчэ аднэй з дружак выходзіла ў іншы пакой, куды апрача іх ніхто ня меў права заходзіць. Там свацьця з дружкай прыбіралі маладую ўва ўсё белае, калі была магчымасьць дык і абутак ды панчохі былі

таксама белыя. Тады бацькі ўзяўшы ў рукі сьв. Абраз ставалі на покуці, а маладая перад імі на каленах хрысьціліся, цалавалі Абраз і рукі багаслаўляючых. Заззычай бацька коратка прамаўляў да маладое аб тым, што яе цяпер чакае новае жыцьцё й новыя абавязкі. Ён асабліва падкрэсьліваў, што яна павінна любіць свайго прышлага мужа й быць пакорнай ягоным бацьком і сям'і. Пасьля гэтага свацьця з дружкай падыймалі яе з каленаў і садзілі на загадзя прыгатаваную й перавернутую ўверх дном ды пакрытую прыгожай саматканай дзяружкай хлебную дзяжу. Прысутныя пачыналі сьпяваць песьні ў якіх казалася аб заканчэньні дзявочага жыцьця й дзявочай волі. Тымчасам свацьця з дружкай расплятaлі яе касу ці косы ды бралі ад «надкосьніка» вясельны вэлюм, які ён дасюль трымаў на выцягнутых рукох. Вэлюм накладалі на галаву маладой. Пасьля гэтага яе пачыналі дарыць, пачынаючы ад бацькоў, усе прысутныя. Часамі дарыць маладую зьбіралася й большая колькасьць людзей, бо прыходзілі й тыя, што на вясельле не зьбіраліся. Для складаньня падарункаў побач стаяў стол, а на ім талерка. Некаторыя дары толькі дэкляраваліся, а фактычна перадаваліся пасьля вясельля, як прыкладам дзьве куркі, парасё, барана ці інш. Падыходзячы да маладой дорачыя жадалі ёй усяго добрага, цалавалі ў шчаку й адыходзілі. Трэба дадаць, што праз цэлы час гэтага абраду, які між іншым называўся — «садзіць маладую на пасад», яна залівалася даволі шчырымі сьлязамі. А што гэтаму абраду прыдавалася вялікае значэньне, можа сьведчыць хоць-бы й тое, што ў кароткім часе перад вясельлем суседзі, але найбольш старэйшыя векам суседкі спаткаўшы маладую казалі: «Дай табе Божа, дзетка, на шчасьлівым месцы на пасадзе сесьці».

У гэтым-жа часе і ў хаце маладога адбывалася нешта падобнае, хоць тут абыходзілася бяз дзяжы, расплятаньня касы, ну й бяз плачу.

Перад тым як ехаць у царкву, малады са сваімі дружбантамі заяжджаў у хату маладой, але яна на гэты час хавалася ў камору або да суседзяў, бо лічылася благой прыметай, каб маладыя перад самым вянцом бачыліся. У часе гэтай кароценькай візыты іх нават не частавалі, толькі дружкі прышпільвалі сваім раней вызначаным дружбантам белыя вясельныя кветкі на кляпу. Кветкі маглі быць жывыя або часьцей штучныя, купленыя ў краме. Атрымаўшы кветкі на грудзі, дружбанты адплачвалі адпаведнай аплатай, найчасьцей у выглядзе саладошчаў. Далейшую дарогу да царквы ўжо адбывалі ўсе разам, аднак на першых санках ці возе ехалі сват і малады, на другіх маладая, старшая свацьця ды «надкосьнік», а далей садзіліся, як папала. Большы парадак захоўваўся пры вяртаньні. Тады на першай павозцы ўжо ехаў музыка ці музыкі, на другую садзілася маладая й «надкосьнік» са сваёй дружкай, — ён-жа і кіраваў канём. У трэйцюю павозку садзіліся: сват і першая свацьця, а што да іншых, дык ведамых правілаў ня было. Трэба дадаць, што ў гэтым вясельным «картэжу» маглі прыймаць удзел і іншыя вясельнікі, якія не належалі да дружбы.

Што датычыць агульнага выгляду коней і павозак, дык коні павінны былі быць чысьцюсенька вычышчаныя з паўплятанымі ў грывы featuresрознакаляровымі стужкамі ды шархунамі на шыях, а таксама з адумысловымі асабліва звонкімі званкамі пад дугамі. Павозкі засьціляліся каляровымі радзюшкамі, якія па магчымасьці павінны былі зьвісаць пазадзі. Музыка ці музыкі гралі толькі на паваротнай дарозе з царквы.

Па дарозе ў царкву маладыя стараліся прыпомніць усе павучэньні, якія давалі



ім маці, хросная, або іншыя добразычлівыя цёткі. Яны звыкла казалі: «Глядзі галубка, каб ты ўваходзячы ў царкву, барані Божанька, ня ступала аднэй нагою на разасланае палатно, а другой на падлогу. Гэта можа давесьці й да таго, што ты яго, ці ён цябе ня будзе шчыра кахаць! А як падыйдзеш да дывана то старайся, дзетка, каб твая нага ступіла першай на яго. Калі-ж гэтага ня зробіш, то твой муж ня будзе слухаць цябе, зязюлька. А яшчэ дачушка, калі сьвятар вам будзе даваць піць тройчы віно, памятай, каб ты за апошнім разам не заставіла ні кроплі ў кубачку! Тады ў спрэчках ты заўсёды будзеш мець апошняе слоўца, золатка!»

Малады прыехаўшы першым да царкоўнага парогу быў падводжаны пад рукі старшай свацьцяй і сватам. Маладую-ж бралі пад рукі й падводзілі да яго «надкосьнік» і тая дружка, якая прыбірала яе перад пасадам. Далей яны ўжо самі, найчасьцей узяўшыся за рукі, ішлі па разасланым палатне аж да таго месца, дзе мелася адбыцца вянчаньне. Старшая свацьця станавілася поблізу маладой і сачыла, каб у тэй было ўсё ў парадку з уборамі. За маладымі стаялі чатыры дружбанты, па двух за кожным зь іх. Яны трымалі вянчальныя кароны. Па два-ж яны стаялі дзеля таго, каб замяніць адзін другога, калі ў стоячага наперадзе стамлялася рука, бо лічылася недапушчальным, каб трымаючы карону замяняў сам сваю руку. Кароны трымалі праз белую хусточку або налажыўшы на руку белую рукавічку. За гэтымі дружбантамі, якія да рэчы называліся «старшымі дружбантамі» ставалі паўкругам усе іншыя дружбанты й дружкі ўключна са сватам.

Што датычыць самога вянчаньня, дык яно выглядала таксама як і тут на эміграцыі, з той розьніцай, што на вянчаньні ніколі не прысутнічалі бацькі маладых. Трэба яшчэ ўспомніць, што з царквы вярталіся ў дом маладой, а ўжо назаўтра, у панядзелак пераяжджалі да маладога, дзе ў аўторак вясельле заканчалася «цыганскім вясельлем».

Аднак былі выпадкі, што з царквы ехалі й да маладога, а заканчалі вясельле ў маладой. Гэта здаралася тады, калі малады йшоў «у прымакі».

Ад вянца ехалі ўжо ў крыху зьмененым парадку. На першай павозцы ехаў музыка ці музыкі, якія павінны былі граць як мага галасьней, асабліва праяжджаючы праз мястэчковыя ці вясковыя вуліцы. За музыкамі ехалі маладыя, сват і свацьця, прычым сват кіраваў канём. Далей садзіліся як папала, прытрымліваючыся панекуль правіла, каб дружкі ехалі са сваімі дружбантамі. Калі вясельнікі ехалі з царквы, на вуліцах ім закладалі «рагаткі». На стол засланы белым абрусам клаўся хлеб-соль, невялікая буханка хлеба з выразанай у верхняй скарынцы ямкай, куды насыпалася соль. Ставілася пляшка гарэлкі й дзьве чаркі на талерцы. Дваіх-жа маладзейшых хлапцоў бралі лёгкую жэрдку й перагараджвалі гэтай жэрдкай сярэдзіну дарогі. Не затрымацца перад жэрдкай, або аб'ехаць яе збоку лічылася вельмі няветлівым. Стаячыя пры стале хуценька падносілі маладым хлеб-соль ды напоўненыя чаркі. Прысутныя віншавалі маладых. Маладыя выпівалі чаркі, а маладая брала хлеб і ветліва дзякавала. У гэтым часе сват падходзіў да стала й клаў на ім пэўную суму грошай, аднак ня меншую роўнавартасьці гарэлкі.

На гэтым цырымонія й канчалася. Музыкі ізноў пачыналі граць і вясельнікі ехалі далей.

Пад'яжджаючы да дому, музыкі асабліва стараліся граць нешта задзёрыстае падобнае да «Бляхарышынай полькі», пазьней станавіліся ля ганку й прадаўжалі граць пакуль усе госьці не ўвайшлі ў хату. На парозе маладых спатыкалі бацькі багаслаўляючы іх сьв. Абразом. Стаўшы на калені на падсьцелены раней дыванок,

цалавалі Абраз, а пасьля абаіх бацькоў у руку. Устаўшы з каленаў яны выпівалі па невялічкай чарцы гарэлкі закрашанай мёдам ды за бацькамі ўваходзілі ў сярэдзіну й садзіліся на покуці пад абразамі. Па бакох ад іх садзіліся дружбаны са сваімі дружкамі. Не садзіліся толькі старшая свацьця й сват, яны мелі пэўныя абавязкі ў часе вясельнай бяседы. Пасьля першай чаркі, усе бяседнікі пачыналі званіць нажамі й відэльцамі аб талеркі ды крычаць: «Горка маладым!» Тыя павінны былі ўстаць, пацалавацца й выпіць напоўненыя ў міжчасе чаркі. Пасьля маладых горка крычалі й дружбе, а таксама й некаторым гасьцям. Але найбольш даводзілася маладым, яны-ж павінны былі ўважаць каб ня ўпіцца на сваім вясельлі, што ня лічылася вялікім гонарам.

Па нейкім часе свацьця ўносіла пад акампаньямэнт адумысловых «каравайных песьняў», вясельны каравай парэзаны на невялікія кавалкі. У каравайных песьнях чамусьці падсьмейваўся толькі сват, а на ўсякія лады выхвалялася маладая. У гэтых сьпевах яна была выхваляная, як белая галубачка або анёлачак. Пра маладога не ўспаміналася. Што датычыць свата, дык у яго й «боцікі былі з вакончамі, каб карэлыя пальцы праз іх маглі выглядаць, ягонага коніка вароны дзюбамі чысьцілі, яго ніўкі сьвінкі гаралі, а зайчыкі гной вазілі». Заканчаліся гэтыя сьпевы наступнымі зваротками:

А сват свацьці, дый сплёў лапці з тоўстых л ы к,
А сам ходзіць, харабруець як і н д ы к!

Або на заканчэньне сьпявалі й гэтак:

Калі сват гарэлкі не дасі,
Караваю трасцу ты зьясі!

Удаючы зазлаванага, сват выбягаў за дзьверы й за хвіліну вяртаўся з пляшкамі гарэлкі, якія расстаўляў на сталы. Абрадаваныя пяюньні замаўкалі й надзялялі свата вялікім кавалкам караваю. Канчалася гэта такім чынам, што прысутныя крычалі свату й свацьці «горка».

Тымчасам моладзь пераходзіла ў іншае памешканьне з музыкамі на танцы. Да іх далучаліся й некаторыя старэйшыя, якім таксама яшчэ хацелася ўспомніць маладыя гады. Звычайна ў танцах прымалі ўдзел ня толькі ўдзельнікі вясельля, але ўсе жадаючыя.

Назаўтра крыху праспаўшыся пачыналі зьбірацца да пераезду ў дом маладога. Ехалі бацькі маладое, сват са свацьцяй ды ўся дружба, якая цяпер ужо называлася «прыданымі й прыданкамі». Ехалі таксама й бліжэйшыя сваякі маладой, уключаючы бацькоў маладой ды абавязкава хросных. Сват-жа пад чыннай апекай свацьці павінен быў даставіць на месца «прыданае» (пасаг). Прыданае залежыла ў большасьці ад заможнасьці бацькоў маладой і складалася з розных прыбыткаў.

Перад выездам з дому маладое, сват выкупляў «прыданае». Браты й сёстры маладое абматвалі поясам ці вяроўкай куфар і не дазвалялі яго выносіць, аж пакуль не атрымоўвалі жаданага выкупу.

Спатканьне маладых на парозе, а таксама каравай, які сюды прывозіла свацьця, былі падобнымі, можа з адной розьніцай, што калі нядаўна ў «каравайных сьпевах» крытыкавалі свата, дык тут ужо зьдзекаваліся з маладое, галоўна прыпісваючы ёй беднасьць. Прыкладам:

(п р а ц я г  б у д з е)



# Вясёлы куточак




Малюнак Я. БУЛАВЫ.









— Дапамагай, войча! Нас інтэрнацыянальна савецкіх беларосаў застаўляюць вывучаць беларускую мову...





*— Шпрыц аднаразовы?*
*— А як жа: кожнага адзін раз колем.*

Малюнак Ю. СЯВЕРЫНА.

